E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 17 (22) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛІСТАПАД 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## Навіны

### Вяртанне выцвярэзнікаў

Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы са спасылкамі на міліцэйскіх чыноў, з 1 лістапада ва ўсіх рэгіёнах краіны наноў адчынілі свае дзверы медыцынскія выцвярэзнікі пры мясцовых аддзелах унутраных справаў. Фінансаванне гэтых неабходных установаў будзе весціся з мясцовых бюджэтаў. Праўда, наведвальнікам за начлег і паслугі прыйдзецца заплаціць 16,5 тысяч беларускіх рублёў. Несумненна, што інфляцыя паспрыяе росту коштаў.

У штатным раскладзе выцвярэзніка прадугледжаны пасады дзяжурных фельчараў. Супрацоўнікі міліцыі, якія будуць працаваць у такіх установах, атрымаюць неабходную спецыяльную медыцынскую падрыхтоўку.

Нагадаем, што медыцынскія выцвярэзнікі былі зачынены ў Беларусі 22 лютага гэтага года, напярэдадні Дня абаронца Айчыны. Міністэрства ўнутраных справаў настаяла на перадачы іх у сістэму Міністэрства аховы здароўя, аргументуючы сваю пазіцыю тым, што асобам з алкагольным атручэннем неабходна ў першую чаргу медыцынская дапамога.

За апошнія пяць гадоў існавання медвыцвярэзнікаў у краіне ў іх памерлі 37 чалавек. Галоўныя прычыны лятальных сыходаў – сардэчная недастатковасць, атручэнне і абвастрэнне хваробаў унутраных органаў.

Варта падкрэсліць разумнасць прынятага рашэння: ад атручэння, канешне, медыцына выратуе лепш, чым міліцыя, але ад агрэсіі, якую часцяком дэманструюць п`янтосы, выратаваць можа толькі міліцыя.



# Новая «ленінка»


Старая «ленінка»

Згодна з прынцыпам моўнай эканоміі, афіцыйную савецкую назву «Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У.І.Леніна» мінскі слэнгператварыў у «ленінку», і гэтае зручнае для вымаўлення скарачэнне не забытае па сённяшні дзень, хоць ужо гадоў з дзесяць бібліятэка называецца «Нацыянальная». «Ленін» да «нацыянальнай» ніяк не стасуецца, але пакуль што чытацкая публіка не здолела нарадзіць новую назву слэнгавага кшталту. І вось новая «ленінка» хуткімі тэмпамі паўстае каля скрыжавання вул. Каліноўскага з пр. Францішка Скарыны. Няспынная праца сямі вежавых кранаў сведчыць, што «брыльянт», чамусьці абраны як сімвал нацыянальнай кніжнай мудрасці, заззяе ў запланаваны час, і тысячы маладых людзей раскрыюць кнігі.

Гэта будзе ўрачысты дзень другога нараджэння бібліятэкі – на новым месцы і ў новы час. Магчыма, тады маладыя інтэлектуалы прылепяць да яе нейкае скарочанае найменне. Ужо нядоўга чакаць гэтай падзеі. Але ці не самы час задацца проста з-за цікаўнасці пытаннем «А што будзе са старой «ленінкай», дакладней кажучы, з двума старымі карпусамі бібліятэкі (даваенным і пасляваенным), калі адтуль вывязуць мільёны адзінак захавання. Наш чытач І.Пятровіч выступае са сваёй прапановай на гэты конт (гл. стар. 4). Мусім з ім пагадзіцца і дадаць яшчэ адну прапанову. Нашы сённяшнія буйныя бібліятэкі разлічаны на абслугоўванне навучэнцаў і студэнтаў. Але ў нас няма чытальных заляў для людзей сталага ўзросту. Магчыма, старому будынку можна надаць такое прызначэнне? А як думаеце вы, шаноўныя чытачы? Рэдакцыя прапануе выказацца на гэтую тэму. Яна падаецца нам важнай. Бо ў чаканні новага «брыльянта» можна згубіць «стары».

Працяг тэмы на стар. 4

## Скарына ў Караляўцы

Рэгіянальная нацыянальна-культурная аўтаномія «Калінінградскае зямляцтва беларусаў» установіць у сталіцы вобласці помнік першадрукару Францішку Скарыну. Старшыня зямляцтва Іосіф Грэчка паведаў, што скульптура ўжо зроблена і будзе дастаўлена ў Калінінград, як толькі завершыцца добраўпарадкаванне тэрыторыі каля цэнтральнага корпуса Калінінградскага дзяржаўнага універсітэта, дзе паставяць помнік.

Аўтар бронзавай скульптуры, якая мае вышыню 3,5 метры, – прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў Міхаіл Арцымовіч. Сродкі на выраб скульптуры ахвяравалі «калінінградскія» беларусы і мецэнаты.

Зараз у рамках Дзён культуры Беларусі ў Калінінградскай вобласці на месцы помніка ўстаноўлены закладны камень. Адначасна ў гісторыка-мастацкім музеі вобласці адкрылася выстава, прысвечаная рэгіянальнай беларускай дыяспары. Яна арганізавана «Калінінградскім зямляцтвам беларусаў» пры садзеянні рэгіянальнага аддзела пасольства Беларусі ў Расіі. На выставе падаюцца этнаграфічныя экспанаты, большыня якіх была сабрана ў сем'ях беларусаў, якія прыехалі ў былую Прусію пасля заканчэння Другой сусветнай вайны, але не страцілі свае беларускія карані.

*Беларускай нацыянальнай гімназіі № 9*
*тэрмінова патрабуецца:*
*** настаўнік матэматыкі;**
*** настаўнік англійскай мовы.**
**Абавязковае патрабаванне да претэндэнтаў – дасканалае валоданне беларускай мовай.**
***Даведкі па тэлефоне: 265-38-04***
***Адрас гімназіі: Мінск, вул. Сядых, 10***
***(Першамайскі раён).***

**ТБМ імя Францішка Скарыны**
**працягвае гістарычны семінар:**
***12 лістапада,* «Менск у літаратурных творах беларускіх пісьменнікаў»**
**Вядоўца – пісьменнік Кастусь Тарасаў**
***14 лістапада* «Гісторыя ўзнікнення і развіцця беларускіх партый і руху ў Менску на працягу XX стагоддзя**
**Вядоўца – гісторык Віталь Скалабан**
**Адрас сядзібы: Мінск, вул. Румянцава, 13**
***Пачатак а 18-й гадзіне***

## Імперскія настроі Жырыноўскага

На мінулым тыдні, на сустрэчы са сваімі выбаршчыкамі ў прыгранічным з Эстоніяй Івангарадзе, спікер Дзяржаўнай Думы РФ Уладзімір Жырыноўскі заявіў, што Тарту і Нарву неабходна адняць у Эстоніі, а яе карэнным жыхарам пакінуць Талін і Пярну. Як паведаміла буйнейшая газета Эстоніі «Постымеэс», лідэр расійскіх ліберал-дэмакратаў сцвярджае, што калі яго партыя пераможа на снежаньскіх выбарах у Думу, ён возьмецца за «зрушэнне дзяржаўнай мяжы» ў гэтым рэгіёне. Уладзір Жырыноўскі нагадаў, што змяненне дзяржаўнай мяжы з Эстоніяй, «зрушэнне на Захад» з'яўляецца праграмнай устаноўкай яго партыі. У тым, як граніца праходзіць зараз, ён абвінавачіў камуністаў і дэмакратаў.

І ніхто ў Расіі не прыцягнуў яго да адказнасці за ўзбуджэнне агрэсіўных настрояў у грамадстве.

## «Хрыстафор» адбывае ў Маскву

Акцёры папулярнага сатырычнага тэатра «Хрыстафор» будуць працаваць на расійскім тэлевізійным канале ў праграме «Аншлаг». У інтэрв'ю Радыё «Свабода» мастацкі кіраўнік тэатра Яўген Крыжаноўскі сказаў: «Наш пераезд у Маскву змушаны. Цяпер тэатр практычна не зарабляе грошы. Бо падаткі, якімі нас абклалі з усіх бакоў, прывялі да таго, што за адну пастаноўку пры поўнай залі мы атрымоўваем 50 тысяч рублёў, ці 25 даляраў. Калі лічыць, што мы іграем чатыры спяктаклі на месяц, то атрымоўваецца, што на 10 чалавек мы маем 100 даляраў. Гэта невыносна». Крыжаноўскі адзначыў, што ўсе недзяржаўныя тэатры ў краіне апынуліся ў крызісным фінансавым стане і вымушаны ці зачыняцца, ці шукаць працу за мяжой. Таму ад'езд у Маскву – гэта адзіная магчымасць захаваць калектыў у творчай форме да лепшых часоў, кажа Крыжаноўскі. Цяпер у Мінску каб выжыць акцёры мусяць працаваць на прыватных вечарынках.

## «Матрыца. Рэвалюцыя»

5 лістапада мінскі «Кінавідэапракат» пачынае прэм'еру трэцяй часткі нашумелай «Матрыцы», якая называецца «Матрыца. Рэвалюцыя». У гэты ж дзень прыкладна ў адзін і той жа час гледачы болей чым у 50 краінах запоўняць кінатэатры, каб паглядзець працяг займальнай гісторыі барацьбы чалавецтва з віртуальным светам. Першапачаткова планавалася пачаць пракат трэцяй часткі 7 лістапада (выпадкова ці не, але кінапрэм'ера супадала са святам Кастрычніцкай рэвалюцыі). Аднак згодна з патрабаваннем уладальніка правоў на фільм кампаніі «Warner Bros.» прэм'ера была перасунута на два дні, і цяпер мы будзем не зваду усіх, а наперадзе, бо першы сеанс у Мінску пачнецца ў 13.30, а ў Токіо – у 23.00, у Лондане – у 14.00, у Маскве – у 17.00

## Ноеў каўчэг



У раёне гары Арарат (знаходзіцца на тэрыторыі Турцыі), дзе, згодна з дадзенымі аэракасмічных здымкаў, знаходзіцца нейкае збудаванне вялізных памераў, падобнае на карабель, пабывала экспедыцыя з Расіі. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што ў ледніку можа знаходзіцца Ноеў каўчэг. Гэтае меркаванне існуе даўно, і час да часу яно ажывае, каб непакоіць уяўленне і цікаўнасць людзей, якія чакаюць сенсацый. Сур'ёзная навука вывучэннем гэтай магчымасці не займалася, не маючы тут для сябе праблемы. Па словах кіраўніка экспедыцыі, тое, што зараз умоўна называецца Ноевым каўчэгам, ёсць утварэнне з аканамелага дрэва. Яно нагадвае яхту з палубай памерам з футбольнае поле. Курды, якія жывуць у гэтай мясцовасці, сцвярджаюць, што ў 1948 годзе тут быў землятрус. Відавочцы апавядалі, што падчас землятрусу карабель літаральна выціснула з зямлі. І ў той момант аколіцы асвятліла яркае ззянне. Цяпер корпус каўчэга падзелены на дзве часткі вялікай скалой. Ён узвышаецца над паверхняй зямлі прыкладна на два метры, астатняя яго частка нябачная. Наступным годам плануецца арганізаваць міжнародную экспедыцыю. 3 чатырох бакоў на Арарат падымуцца туркі, армяне, амерыканцы і расіяне. Тады гара будзе дакладна агледжана і ўдасца развеяць усе сумневы і міфы аб Ноевым каўчэгу ці пагадзіцца з яго існаваннем.

# Этнічныя расейцы

***Нядаўна на хвалях Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» прагучала гутарка на пазначаную ў назве матэрыяла тэму, у якой удзельнічалі Валерка Булгакаў, Леанід Заіка, Андрэй Суздальцаў. Вядоўцам гутаркі быў журналіст Юры Дракахруст.***

**Дракахруст.** Спадар Булгакаў, на Ваш погляд, ці ёсць на самой справе тыя зьявы, якія непакояць спадара Суздальцава, і пра якія ён напісаў у сваім артыкуле «Руская вуліца»: перашкоды расейцам у службовай карьеры, выціснаньне рускіх з кіруючага апарату, пабытовы нацыяналізм, паварот афіцыйных мэдыяў ад інтэграцыйнай да антырасейскай рыторыкі?

**Булгакаў.** У пэўнай ступені я бы згадзіўся са спадаром Суздальцавым у падобным дыягназе і вылучыў бы тут тры блёкі праблемаў. Першы блёк - гэта выцісканьне асобаў расейскага паходжаньня з кіраўнічых пасадаў, учыненьне ім пэўных кар'ерных цяжкасьцяў і г.д. Мяркую, што тут спрацоўвае ня нейкі брутальны нацыяналізм, а выяўляецца характар палітычнай улады ў нашай краіне. За 12 гадоў незалежнасьці была сфармавана закрытая палітычная кляса, рэкрутаацыя новых прадстаўнікоў у гэтую клясу адбываецца па няпісаных і дастаткова грувасткіх законах. Гэта значыць, што гэтае выцісканьне, пра якое гаворыць спадар Суздальцаў, хутчэй тлумачыцца клянавасьцю, калейнасьцю сфармаванага дзяржаўнага апарату і наагул палітычнай улады ў нашай краіне.

Другі блёк праблемаў зьвязаны з пабытовым нацыяналізмам, і ў гэтым таксама я бачу праяву замкнёнасьці, кансэрватыўнасьці нашага грамадзтва. Не адбылося радыкальнага зруху наперад, грамадзтва жыве патрыярхальным сьветабачаньнем, не адбываецца яўнай мадэрнізацыі беларускага грамадзтва. І ў сувязі з гэтым паўстае вельмі спрыяльная, спажыўная глеба для праяваў ксэнафобіі.

І апошняе - гэта ўзмацненьне антырасейскай рыторыкі ў дзяржаўных мэдыях. Гэта, відаць, мае больш характар палітычнай кан'юнктуры, хаця ізноў такі недзе зьвязанае з характарам фармаваньня палітычнай улады ў нашай краіне. Гэта значыць палітычная кляса ў нашай краіне лічыць сябе дастаткова моцнай, каб ня грэбаваць антырасейскай гісторыяй ў мэдыях, і ў гэтым - досыць відавочнае адрозьненьне ад стану, напрыклад, пяцігадовай даўніны.

**Дракахруст.** Спадар Суздальцаў, Вы ўжываеце некалькі вызначэньняў «рускіх» у Беларусі: гэта і этнічныя, пашпартныя руския, і людзі, «зьвязаныя з Расеяй», і нарэшце, усе расейскамоўныя грамадзяне Беларусі, якіх вы далічваеце да «рускага сьвету». Этнічныя расейцы - гэта зразумела, яны складаюць вялікую, але меншасьць. Калі ж казаць пра расейскамоўных, то, нават паводле апошняга перапісу, тых, хто ў будзенным жыцьці гаворыць па-беларуску, набралося менш за 40%. Такім чынам, рускамоўныя - большасьць. І калі Вы кажаце, што рускіх ціснуць, дыскрымінуюць, каго Вы маеце на ўвазе: 40% беларускамоўных ціснуць расейскамоўную бальшыню? Няўжо расейскамоўнасьць у Беларусі ёсьць перашкодай для кар'еры? Ці не наадварот - беларускамоўнасьць стварае шматлікія жыцьцёвыя праблемы для носьбітаў беларускай мовы? Дык каго ж Вы разумееце пад вызначэньнем «рускія ў Беларусі»?

**Суздальцаў.** Ёсьць традыцыйнае паняцьце расейскай абшчыны. У Беларусі пад ім разумеюцца грамадзяне і неграмадзяне Беларусі - расейцы паводле этнічнага паходжаньня. Часам да іх дадаюць расейскамоўных, але для нашай краіны гэта не актуальна. Фактар мовы не зьяўляецца асноўным для вызначэньня этнічнай абшчыны. Гэта 19-е стагодзьдзе. Гарады ў Беларусі расейскамоўныя амаль на 100%, але гэта, зразумела, не азначае, што яны належаць да расейскай абшчыны. У Ірляндыі 95% насельніцтва гаворыць па-ангельску, дык што ж яны ўсе ангельцы? Зразумела, не.

**Дракахруст.** Спадар Заіка, вы рускамоўны беларус, ва ўсялякім выпадку руская мова, руская культура Вам не чужыя. Вы адносіце сябе да «рускага сьвету ў Беларусі», пра які казаў спадар Суздальцаў?

**Заіка.** Я толькі 57 гадоў жыву ў Беларусі. Я ня думаю, што варта мысьліць катэгорыямі этнічна падзеленага грамадзтва. Я адчуваю сябе членам беларускай грамадзянскай супольнасьці. І расейскую культуру, расейскі эканамічны і палітычны інтарэс я ўспрымаю з пазыцыі беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Я жыву інтарэсамі гэтай краіны, у якой я нарадзіўся.

Цяперашняе абвастрэньне праблемы расейцаў у Беларусі, прынамсі публікацыя Суздальцава - гэта рэакцыя на палітычны крок з боку беларускага прэзыдэнта, які спрабуе стварыць новую пагрозу перад Крамлём. Крэмаль вельмі баіцца росту антырасейскіх настрояў у любой частцы пастсавецкай прасторы. На гэтым можна гуляць.

**Дракахруст.** Расейцаў у Беларусі - прыблізна 10%. Аднак ня існуе колькі-небудзь сур'ёзных палітычных ці культурніцкіх рускіх арганізацыяў, не існуе нават грамадзянскай інфраструктуры : рускіх крамаў, рускіх дактароў, рускіх школаў. І справа тут ня ў нейкай натуральнай няздольнасьці расейцаў да самаарганізацыі. Скажам, у краінах Балтыі такія структуры існуюць і зьяўляюцца даволі моцнымі. А ў Беларусі - не. Чаму?

**Суздальцаў.** Мы мусім разумець, што ў краінах Балты сытуацыя кардынальна адрозьніваецца ад сытуацыі ў Беларусі. У Беларусі адбываецца ўскосная асыміляцыя.

Усё ж пабытовы нацыяналізм у Беларусі - гэта не дзяржаўны, не этнічны нацыяналізм. І расейцы Беларусі неяк да яго прызвычайваюцца. Варта прыгадаць і велізарную колькасьць міжэтнічных шлюбаў. Гэта таксама кампэнсуе этнічныя пачуцьці. Тут спрацоўвае і блізкасьць побыту, і блізкасьць мэнталітэту, хаця народы, зразумела, розныя. Што ж тычыцца палітычнага самавызначэньня, то Беларусь пакуль не заслужыла сабе «пятую калёну». Няма сэнсу яе ствараць. «Пятай калёны» ў Беларусі ня будзе, прынамсі, некалькі бліжэйшых гадоў. Я не чакаю, што ў Беларусі ў бліжэйшыя гады зьявіцца нават нейкая сур'ёзная грамадзянская інфраструктура. Няма сэнсу рабіць у яе ўкладаньні. Прасцей людзей вывезці.

**Дракахруст.** Кіраўнік «Маладога Фронту» Павал Севярынец, палемізуючы са спадаром Суз-

# Тузла – палітычнае люстра

Інтэрв'ю народнага дэпутата Украіны Тараса Чарнавіла, датычнае украінска-расійскіх адносінаў, абвастрэнню якіх паспрыяла дамба да вострава Тузла, было апублікавана на сайце **Украіна.ru**. У пэўнай ступені яно праектуецца і на беларуска-расійскія адносіны, і таму, на думку рэдакцыі, будзе цікавае для нашага чытача



**– Спадар Чарнавіл, давайце пастараемся адысці ад патэтыкі і гісторыі, якія ў апошнія два тыдні захліснулі палітыкаў дзвюх краінаў, і паспрабуем даць нейтральную ацэнку украінска-расійскіх адносінаў на дадзены момант. Сітуацыя складваецца прыкладна гэтак: палітыкі гавораць, што нашыя адносіны паляпшаюцца, тавараабарот павялічваецца, і усё ў нас цудоўна. З другога боку, мы ведаем пра шэраг сумесных маштабных эканамічных праектаў, ніводзін з якіх не рэалізаваны (стварэнне міжнароднага газатранспартнага кансорцыума, рэверсное выкарыстанне нафтапровада «Адэса–Броды» і інш.). Як бы вы ахарактарызавалі адносіны паміж Украінай і Расіяй, якія склаліся за апошнае дзесяцігоддзе?**

– Мяне часта крытыкуюць за тое, што ва украінска-расійскіх стасунках я не стамляюся паўтараць фразу: нявварта на люстэрка крыўдаваць, калі морда крывая. Гэта аб той пазіцыі, якую займае украінская ўлада у стасунках з Расійскай Федэрацыяй. Добра разумею, што Расія дастаткова шалёна адстойвае свае эканамічныя і палітычныя інтарэсы. Гэта яе права. Украінская ўлада ж не займаецца аховай нацыянальных інтарэсаў, а паступова здае пазіцыі. Іншым разам украінскі бок саступае яшчэ наперад, да таго, як Расія паспее высунуць прэтэнзіі. І вось гэта мяне непакоіць болей за ўсё.

Паводзіны нашых чыноўнікаў з Расіяй з'яўляюцца нічым іншым, як дэманстрацыяй маларасійскага сіндрому, збудаванага на прынцыпе: «начальнік – падлеглы». Гэта асноўны мой боль. З другога боку, гэтак жа непрыемна назіраць, як расійскія палітыкі хутка ўжываюцца у ролю «начальніка» ў адносінах да іншай дзяржавы.

Калі ж гаварыць аб украінска-расійскіх адносінах у цэлым, то ў эканамічным плане яны яшчэ вельмі доўга будуць знаходзіцца на нулявым узроўні. Прычына гэтага – адсутнасць адзіных інтарэсаў у дзвюх дзяржаваў. Гэтак будзе працягвацца да таго часу, пакуль Расія не перастане разглядаць нас выключна як транзітную краіну, а мы Расію як адзін з даступных для нас рынкаў збыту прадукцыі.

Сёння ў нас няма агульных інтарэсаў у ніводнай са сфераў эканомікі. У нас усё разарвана і не ўзгоднена. І пакуль будзе працягвацца такое становішча, у нас у эканоміцы не будзе нічога, апрача канфліктаў.

**– Давайце пяройдзем да палітычнага складальніка нашых адносінаў. Што такое востраў Тузла – кавалак сушы, прынцып ці «сімвал расійска-украінскіх адносінаў», як заўважыў Віктар Ючшанка?**

– Канфлікт вакол гэтага вострава трэба ўспрымаць не як сімвал, а як тыповую псіхалагічную характарыстыку украінска-расійскіх адносінаў. Але зірніце на сітуацыю. Абедзве краіны – і Расія, і Украіна жадаюць заняць сваё месца ў цывілізаваным свеце, але пры гэтым абедзве не прытрымліваюцца элементарных нормаў цывілізацыі. У абедзвюх дзяржавах квітнеюць прынцыпы двайной маралі. Любыя ўзаемныя кантакты між суседзямі, нават калі яны не дастаткова парытэтныя, павінны грунтавацца на шчырасці, бо інакш як мы зможам давяраць адзін аднаму?

Гэта ж смешна, калі Украіна гаворыць аб экалагічнай небяспецы ў гэтай сітуацыі. Гэтак жа выклікаюць усмешку і тлумачэнні начальнікаў Краснадарскага краю, калі яны гавораць аб гаспадарчым прызначэнні дамбы. Мы хлусім адзін аднаму. Прычым у вочы. Пры гэтым усе разумеюць, што гаворка ідзе аб тым, што Расія спрабуе скарэктаваць лінію мяжы. Апроч гэтага, усе таксама разумеюць, што маўчанне цэнтральных органаў РФ у дадзенай сітуацыі таксама ўваходзіць у межы сур'ёзнай палітычнай правакацыі.

Звярніце ўвагу, акрамя таго, што Украіна хлусіць Расіі і прыкрываецца нейкімі размовамі аб экалогіі, гэткія ж супярэчнасці і рознагалоссі існуюць і ўнутры расійскай палітычнай эліты. Заявы расійскага пасла ва Украіне супярэчаць выказванням дэпутатаў. Менавіта таму ў дадзенай сітуацыі ўзаемнага недаверу практычна немагчыма весці размову аб перспектыве нармальных сур'ёзных адносінаў.

У парламент я быў абраны ў адной з акругаў Львоўскай вобласці, і пэўна таму адносіны з Расіяй мне асабліва цікавыя. Я выдатна бачу «плюсы» і «мінусы» гэтак званага «еўрапейскага вектара» Украіны, хоць еўраінтэграцыя для нас не мае альтэрнатывы. Але, з другога боку, я разумею, што для таго, каб Украіна сапраўды была паўнавартаснай дзяржавай, павінны прысутнічаць шчырыя кантакты з расійскім бокам.

**– Як вы лічыце, ці павінна Украіна для вырашэння дадзенага канфлікту звяртацца ў міжнародныя арганізацыі?**

– Зараз сэнс такога звяртання знік, бо ніхто і не збіраецца працягваць дамбу да вострава Тузла. Мне здаецца, што сёння мы маем справу з сустрэчнай дамоўленасцю палітычнага характару лідэраў дзвюх дзяржаваў. З аднаго боку – палітычная зацікаўленасць Пуціна перад выбарамі ў Думу. Дарэчы, каментары расійскіх палітыкаў вельмі добра дэманструюць, што ў разгар выбарчай кампаніі ў іх абвастраюцца і шавіністычныя настроі. Фактычна ў Расіі цяпер шукаюць «ворагаў». Гэта класічны прыём, да якога неадночы ў часе выбараў звярталіся партыі ўлады ў розных краінах.



З другога боку – «заказ» на працяг будаўніцтва дамбы ад украінскага прэзідэнта Леаніда Кучмы можа паступіць не далей як увесну наступнага года. На Тузле будзе здзейснена высадка расійскіх вайскоўцаў і ўсталяваны пагранпост РФ. У такім выпадку нашаму прэзідэнту не застанецца нічога іншага, як абвясціць надзвычайнае становішча. А калі ў краіне надзвычайнае становішча, дык аб якіх прэзідэнцкіх выбарах можа ісці гаворка? І ўсе праблемы з адсутнасцю «кандыдата ад улады» імгненна будуць вырашаны.

І апошняе, на што мне хочацца звярнуць увагу, – гэта палітычная ментальнасць дзвюх дзяржаваў. Комплекс раба, які ёсць ва украінскіх чыноўнікаў, якія поўзаюць перад Масквой, вельмі ганебны, але і комплекс рабаўладара, які ўласцівы расійскім чыноўнікам, ганебны і грахоўны ніколькі не меней. У любым выпадку, ні тая, ні іншая лінія паводзінаў не будзе садзейнічаць цывілізаванаму развіццю Украіны і Расіі.

**Наталля ТАЛАЛАЙ,**
**Украіна.Ru**

# ў Беларусі

дальцавым на старонках «Беларускай газеты», сказаў, што прарасейскіх сілаў у Беларусі хапае, і ў якасьці прыкладу прывёў Аб'яднаную грамадзянскую партыю. Спадар Севярынец лічыць яе прарасейскай і небеларускай. Мы памятаем, як летась ён публічна падараваў спадару Лябедзьку квіток да Масквы. Вядома, што шмат зь сябраў партыі - рускамоўныя, да таго ж АГП мае шчыльныя сувязі з расейскімі правымі. Але парадокс палягае ў тым, что для спадара Суздальцава і АГП, і іншыя падобныя ёй структуры - сілы зусім не прарасейскія і тым больш ня рускія. А якія яны для Вас, спадар Булгакаў?

**Булгакаў.** Тут мы ізноў сутыкаемся з праблемаю нацыянальнай карціны сьвету. Спадар Севярынец у інтэрвію «БГ» выказаў пэўную палітычную завостранасьць, ён ставіць гэтае пытаньне вельмі радыкальна, магчыма, у духу Зянона Станіслававіча Пазьняка: «Хто ня з намі, той супраць нас». Такое палітычнае згуртаваньне, як АГП, зьяўляецца суб'ектам беларускай палітычнай сцэны. І чыста выходзячы з гэтай пэрспэктывы, яна безумоўна беларуская. Але ў словах Паўла Севярынца праступае крыўда за хістаньне курсу гэтай палітычнай партыі, якое мела мейсца асабліва летась, калі беларускія лібэралы вельмі эфэктыўна разыгрывалі «прарасейскую карту», чым прывядзілі ў разьюшанасьць супрацоўнікаў адміністрацыі прэзыдэнта рознага ўзроўню.

Я ня схільны разглядаць АГП і іншыя партыі, якія не належаць да нацыянальна-дэмакратычнага накірунку, як нешта расейскае, чужое беларусам.

**Заіка.** Я лічу, што нарэшце нашыя партыі робіцца нармальнымі, прафэсійнымі партыямі. Пэрыяд іхнага станаўленьня вызначаўся рамантызмам і дылетанцтвам, калі ўсе пэрспэктывы Беларусі зьвязваліся толькі з Эўропаю і нацыянальнай ідэяй. З гэтага нічога не атрымалася. Зараз стала зразумела, што рабіць вялікую палітыку можна толькі з улікам магчымасьцяў, рэсурсаў ня толькі Захаду, але і Ўсходу. Палітычныя практыкі з АГП проста раней за іншых улічылі гэты фактар... Што тычыцца друку, то тут таксама зразумела. Расейскі капітал перамножна ідзе па плянэце. Калі ён купляе «Чэлсі», чаму бы яму не купіць і дзясятак беларускіх газэтаў.

Павал Севярынец - рамантык зь мінулага дзесяцігодзьдзя. Яму хочацца ў кожнай партыі знайсьці «белых» і «чырвоных», так бы мовіць, ты за Мао ці за Лінь Бяо? Калі ў Беларусі будуць партыі, якія ўмеюць гандляваця і на Захадзе, і на Ўсходзе, я буду прыхільнікам таго, каб такіх партыяў было як мага больш.

**Дракахруст.** Спадар Суздальцаў, звужэньне ўплыву расейскіх мэдыяў, расейскай культуры, пэўнае зьніжэньне ролі рускіх у грамадзкім жыцьці Беларусі - магчыма, гэтыя працэсы, якія Вам асабіста не падабаюцца, цалкам натуральныя і непазьбежныя і зьвязаныя са станаўленьнем беларускай нацыі і нацыянальнай дзяржавы? Вы гаворыце пра пабітовы нацыяналізм, які ўласьцівы беларусам...

**Суздальцаў.** Расейцам таксама.

**Дракахруст.** Так, але расейцы, нягледзячы на ўсе крызысы, сваю дзяржаву маюць, а беларусы толькі будуюць сваю нацыю, сваю дзяржаву.

**Суздальцаў.** Расейцы былі тытульнай нацыяй у вялікай дзяржаве - у Савецкім Саюзе. Тытульная нацыя Беларусі - зразумела, беларусы. Яны будуюць сваю нацыянальную дзяржаву. Прадстаўнікі іншых этнасаў таксама ўдзельнічаюць у гэтым будаўніцтве, але ім даводзіцца мяняць свой сьветапогляд - яны цяпер нацыянальная меншыня ў гэтай канкрэтнай краіне. Трэба вучыць мову, трэба перабудоўвацца.

Я лічу, што шмат праблемаў у расейскай грамадзе зьвязана з тым, што не завершыўся працэс пабудовы незалежнай беларускай дзяржавы. Гэтае дзесяцігодзьдзе балбатні, мітычнай «саюзнай» дзяржавы стварыла мяшанку ў галовах і беларусаў, і мясцовых расейцаў. Я мяркую, што пры ствярэньні нармальнай беларускай нацыянальнай дзяржавы паводле эўрапейскага стандарту праблемы ў расейскай грамадзе, зразумела, захаваюцца, але гэта будуць іншыя праблемы, вырашальныя. У цяперашняй сытуацыі, калі няма ані нармальнай дзяржавы, ані нармальнай інтэграцыі, гэтыя праблемы абвастраюцца.

Я не выступаю як нейкі аракул расейскай грамады. Я толькі сказаў, што праблема ёсьць. І яна зьвязаная з тым, што ўлада не імкнецца да стварэньня нармальнай дзяржавы. Мы ж ня супраць гэтай дзяржавы. Мы абедзьвюма рукамі за. І мы актыўна спрабуем удзельнічаць у ейнай пабудове.

**Дракахруст.** Спадар Булгакаў, а якое Вашае меркаваньне? Магчыма, тая няўтульнасьць для расейцаў, пра якую кажа спадар Суздальцаў, гэта зьява непрыемная, але натуральная?

**Булгакаў.** Гэта сапраўды, відаць, натуральна. А бы хацеў зьвярнуцца тут да цьвёрдых статыстычных дадзеных. Рэч у тым, што колькасьць расейскай грамады ў Беларусі няўхільна зьмяншаецца. Калі параўнаць дадзеныя апошняга беларускага перапісу і дадзеныя апошняга савецкага перапісу 1989 году, мы ўбачым, што колькасьць асобаў, якія дэкларуюць сваю расейскую этнічную прыналежнасьць скарацілася ў Беларусі прыблізна на 300 тысячаў чалавек. Падобная ж тэндэнцыя назіраецца і ва Ўкраіне.

Дзякуючы гэтаму, відаць, сапраўды можна казаць, што быць расейцам у цяперашняй Беларусі досыць псыхалягічна няўтульна, і што асноўная фрустрацыя, мэнтальная «ломка», якую перажывае расейская грамада, палягае ў форме ператварэньня з прадстаўнікоў тытульнай нацыі агромністай імпэрыі ў нацыянальную меншыню, хай сабе і вялікую. Гэта спарадкае шмат праблемаў.

Расейская грамада ў Беларусі цягам апошняга часу выступае папросту закладнікам пэўных палітычных гульняў, прычым я бы сказаў - безгалосым, нямым закладнікам, бо, як было правільна заўважана, інфраструктура расейскай супольнасьці ў Беларусі фактычна адсутнічае. Таму, відаць, гэты працэс сапраўды няўхільны, і я не зьдзіўлюся, калі, згодна са зьвесткамі перапісу, які адбудзецца ў нас праз 7-8 гадоў, расейцаў будзе ў нас яшчэ на тысяч 300 менш.

**Дракахруст.** Я чытаў статыстычныя дасьледаваньні, паводле якіх гэтае скарачэньне расейскай грамады выклікана не столькі іхнай эміграцыяй ці павышанай сьмяротнасьцю, а тым, што людзі проста перапісваюць нацыянальнасьць на беларускую пры зьмене пашпартоў, запісваюць дзяцей беларусамі.

Наступная тэма нашай размовы тычыцца ня столькі становішча расейскай грамады, колькі беларуска-расейскіх адносінаў.

Ужо працяглы час назіраецца пасьлядоўнае выцісканьне зь беларускай інфармацыйнай прасторы расейскіх мэдыяў, прынамсі, тэлеканалаў. Літаральна на гэтым тыдні зьнік канал «Культура», у рэгіёнах сям-там адключанае РТР. З гэтай нагоды на гэтым тыдні зь вельмі рэзкай заявай выступіў амбасадар Расеі Аляксандар Блахін. Спадар Заіка, вы не адносіце сябе да «рускага сьвету» паводле спадара Суздальцава. Дык вы вітаеце гэтае выцісканьне расейскіх мэдыяў? Гэта ж ня вашыя мэдыі.

Працяг на стар. 5

# Беларусазнаўца з Англіі

У навукова-метадычным цэнтры «Слоўнік» Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта вядзецца праца па стварэнні новага беларуска-англійскага і англійска-беларускага слоўніка. Разам са спецыялістамі лінгвістычнага універсітэта ў стварэнні слоўніка ўдзельнічае доктар Пітэр Мэё – вядомы англійскі славіст, доктар філалогіі, выкладчык Шэфельдскага універсітэта і універсітэта горада Эксетэр у Англіі. Спадар Мэё пагадзіўся даць інтэрв'ю аб сваёй працы ў Беларусі.

**– Спадар Пітэр, з чаго пачалося Вашае захапленне беларускай мовай?**

– Гэта доўгая гісторыя. Каб усё распавесці, не хопіць часу. Першы раз у Беларусь я прыехаў у 1974 годзе з групай студэнтаў. Да гэтага быў у Расіі. У той час я і зацікавіўся беларускай мовай. У нас ва універсітэце галоўным чынам даводзілася выкладаць рускую мову. Але калі я выдаў параўнальную граматыку славянскіх моў, пачалося маё больш глыбокае даследаванне менавіта беларускай мовы. У 1976 годзе ў Англіі пабачыла свет кніга «Граматыка беларускай мовы» за маім аўтарствам. Пасля гэта праца і мой інтарэс працягваўся.

У 1991годзе я наведаў Міжнародны кангрэс беларусістаў, дзе меў магчымасць пазнаёміцца са спецыялістамі з Мінскага лінгвістычнага універсітэта. Але супрацоўніцтва мы пачалі толькі ў 1993 годзе, калі мы разам працавалі над кішэнным руска-беларуска-англійскім слоўнікам.



Фота У. Шлапак

Пітэр Джон Мэё – англійскі мовазнавец-славіст, доктар філалогіі. Сябра англа-беларускага таварыства ў Вялікабрытаніі. Даследуе лексікаграфію, марфалогію і сінтаксіс беларускай і рускай моваў. Аўтар «Граматыкі беларускай мовы», раздзела «Беларуская мова» ў калектыўнай манаграфіі «Славянскія мовы» (1993), шматлікіх артыкулаў па пытаннях беларускай мовы, падручнікаў, слоўнікаў. З 1979 па 1988 рэдактар «The Jornal of Byelorussian Studies» («Часопіс беларускіх даследаванняў»).

Я прачытаў першы такі слоўнік, што быў на той час ужо выдадзены. Не тое, што ён мне не спадабаўся, ці я яго крытыкаваў, але мы яго абмеркавалі... І зразумелі, што нам трэба працаваць разам. Я рэдагаваў англійскую частку гэтага вядання.

**– Якія літары вы вядзеце ў новым слоўніку?**

– Гэта літары «Д» і «Е» і ў дадатак агульнае рэдагаванне англійскай часткі.

**– Калі плануецца заканчэнне працы?**

– Мы даўно працуем над слоўнікам. І тут не ўсё ад нас залежыць. Падрыхтаваць чарнавы варыянт для рэцэнзента, для ўнутранага выдання мы будзем імкнуцца ў снежні ці студзені. Ну, а як далей усё будзе рухацца, гэта залежыць не ад нас.

**– Вы сказалі, што выдалі параўнальную граматыку славянскіх моваў. Што гэта за праца?**

– Усяго для напісання я выкарыстаў адзінаццаць славянскіх моў. Але гэта тэарэтычная, а не практычная праца. Маёй мэтай было параўнаць розныя славянскія мовы паміж сабой.

**– Раскажыце, калі ласка, пра Шэфельдскі універсітэт, дзе вы працуеце.**

– Зараз я ўжо знаходжуся на пенсіі. Трыццаць год я працаваў у Шэфельдскім універсітэце, які знаходзіцца на поўначы Англіі. У Шэфелдзе я адзіны спецыяліст па беларускай мове, у Лондане ёсць яшчэ чалавек, напрыклад, вядомы ў Беларусі прафесар МакМілан.

Нельга сказаць, што сярод нашых студэнтаў беларуская мова вельмі папулярная. Нават рускай не вельмі цікавяцца ў параўнанні з французскай ці нямецкай. Проста такая ў нас традыцыя. Самая папулярная замежная мова сярод студэнтаў французская, на другім месцы нямецкая, а потым, мабыць, іспанская. Толькі маленькія групы студэнтаў цікавяцца іншымі мовамі.

Усё ж такі, я лічу, гэта важна, што цікавіцца хоць невялікая колькасць.

**– Ці падабаецца вам у Беларусі?**

– І падабаецца, і не падабаецца. Мне падабаецца, што не згубілі тут нечага, што я адчуў нават з першай паездкі. У параўнанні з Масквой тут існуе спакой. Я ў Беларусі адчуваю сябе як дома. А што не падабаецца - мне здаецца, што за апошнія два гады тут з'явіліся не зусім добрыя заходнія аспекты жыцця. З Захаду ў Беларусь прыйшло не толькі станоўчае, але і тое, што называецца «адваротны бок манеты». Ёсць і добрае, і ёсць не зусім добрае.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## Скарбніца

### Захаваць традыцыю

***Які лёс акрэсляць улады старому будынку Нацыянальнай бібліятэкі?***



Будынак Нацыянальнай бібліятэкі з`явіўся ў Мінску гадоў семдзесят назад у шэрагу самых значных адміністратыўных пабудоваў таго часу – Дом урада, Оперны тэатр, Акадэмія навук, Дом Чырвонай Арміі. Бібліятэка годна прэзентавала архітэктурны стыль – канструктывізм, і ў гэтых адносінах застаецца непаўторным набыткам нашай культуры. Гісторыкі пішуць пра вялікія кніжныя зборы ў Беларусі, якія мелі Радзівілы, Сапегі, Храптовічы, Агінскія. Але яны былі закрытыя ад шырокага чытача. Нацыянальная бібліятэка стала сімвалам адкрытасці ведаў для народа, дзень яе адкрыцця ўспрымаўся сярод адукаваных людзей як вялікае свята.

У гады вайны немцы вывезлі лепшыя выданні бібліятэкі, будынак моцна пацярпеў. У Дзяржаўным музеі гісторыі Беларусі раней быў макет, які ілюстраваў гэтую бяду: праз адчыненыя вокны тысячы кніг акупанты выкідвалі на вуліцу – большая частка з іх знікла ў полымі кніжнага кастра. Дарэчы заўважыць, што і нашыя энкэвэдысты вымалі з фондаў і палілі кнігі, якія падпалі пад ідэалагічны прысуд (аўтар – «вораг народа»). Для мноства людзей былая Ленінка безумоўна была «брамай» у свет навукі, мастацтва, літаратуры. Калі б бібліятэка мела памятную дошку з імёнамі вядомых і славутых сваіх наведвальнікаў, то склаўся б вялізны шаноўны спіс – ад Купалы і Коласа да ўсіх сённяшніх акадэмікаў і міністраў.

Зараз ля станцыі метро «Усход» узводзіцца новы будынак бібліятэкі з сучаснымі архітэктурнымі рашэннямі. Гэта безумоўная неабходнасць. Аднак застаецца невядомы лёс старога будынка. Пра гэта не гавораць і не пішуць, магчыма, высокае чынавенства і само яшчэ не ведае, каму перадасць будынак пасля перасялення бібліятэкі на новае месца. На вялікі жаль, у нас не існуе традыцыі павагі да помнікаў гісторыі і культуры. Прышчэпленая ў савецкія часы абыякавасць да папярэдняга жыцця дазваляла перарабляць касцелы і цэрквы пад сталоўкі, склады, майстэрні, ці ў лепшым выпадку перадаваць іх пад архівы і іншыя ўстановы. Цалкам магчыма, што і ў адносінах былога будынка Нацыянальнай бібліятэкі спрацуе такая недарэчная звычка, і яго перададуць якім-небудзь арганізацыям ці наагул выставяць на продаж. Пакуль што не гарантавана, што залі, дзе панавала духоўная культура, не пераробяць пад маркет, ці турэцкі рэстаран.

На маю думку, **было б правільна захаваць за будынкам яго бібліятэчную функцыю – пакінуць у ім Беларускі аддзел і газетную залю**. Яны самастойныя, ёмістыя, не злучаны з астатнім кніжным фондам і былі б культурным цэнтрам без змену адрасу.

**Ігар ПЯТРОВІЧ,**
**кандыдат тэхнічных навук**

## Навінкі на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13)







**Уладзімір Някляеў. Лабух. Мінск, 2003.**
*Вострасюжэтны раманчык (так акрэсліў жанр аўтар) аб'ёмам 325 старонак, які чытаюцца запоем, бо ў іх засяроджана рэальнасць сучаснасці і шмат якія яе салодкія і горасныя заганы.*

**Маладая жанчына ў небяспецы. Мінск, Тэхналогія, 2003.**
*Першая ў нашай краіне кніга пра адну з самых «схаваных» праблем сучаснага грамадства – насілле ў любоўных дачыненнях маладых людзей. Адрасуецца маладым дзяўчатам і педагогам.*

**Алег Дзярновіч. «...in nostra Livonia». Мінск, 2003.**
*Праз прызму дакументальных крыніц аўтар падае гісторыю ўзаемадачыненняў паміж ВКЛ і Лівоніяй у канцы 15-га – першай палове 16 ст. Адрасуецца навукоўцам, выкладчыкам, студэнтам.*



# Новае пакаленне выбірае...

У апошнія гады наша грамадства, падпаўшы, напэўна, пад уздзеянне сусветных глабалісцкіх тэндэнцый, моцна структуравалася. Гэта выяўляецца найперш пры вызначэнні праблем, а таксама пошуку шляхоў іх вырашэння. У гэтым, безумоўна, ёсць станоўчыя моманты. Аднак жа, любы падзел, нават калі ён умоўны, не ёсць добра. Бо мы ўсе жывём разам, перасякаючыся штодня. Што тычыцца моладзі, то стала традыцыяй ва ўсе часы чуць ад старэйшага пакалення нараканні: не такая моладзь, як мы былі раней; няма ідэалаў у моладзі і г.д.

А якая насамрэч сённяшняя моладзь? У што верыць, як бавяць час, да чаго імкнуцца маладыя людзі? Гэтае пытанне падаецца тым больш важным, што неўзабаве праз некалькі гадоў менавіта сённяшняя моладзь узначаліць прадпрыемствы (калі будзе што ўзначальваць!), прыйдзе на кіруючыя пасады ў міністэрствы і т.п. А значыць, менавіта сённяшнія маладыя людзі з іх перакананнямі і светапоглядам, узроўнем прафесіяналізму будуць вызначаць жыццё нашай краіны і наша як беларускіх грамадзян.

Кіруючыся такімі думкамі, мы на адной з нефармальных сустрэч са студэнтамі Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь задалі два пытанні:

**Чаму Вы вырашылі абраць гэтую навучальную установу?**

**Што стала рашаючым пры выбары прафесіі юрыста?**

**Цвяцінская Ганна.** Я сама з Наваполацка. Добрыя водгукі пра Акадэмію кіравання пачула ад мінулагодняй выпускніцы нашага ліцэя. На мой выбар паўплывала таксама прэстыжнасць гэтай навучальнай установы.

**Слівіна Каця.** Я чула шмат добрых водгукаў ад студэнтаў, якія расказалі пра тое, што тут выкарыстоўваюцца найноўшыя метады вывучэння юрыспрудэнцыі. Тут рыхтуюцца добрыя кадры, няма праблемы з працаўладкаваннем пасля заканчэння.

Менавіта юрысты і эканамісты могуць і павінны ўзняць узровень краіны.

**Сяргееў Дзіма.** Пытанне выбару прафесіі вырашыў для сябе год назад. Істотным у гэтым пытанні з'явілася тое, што выпускнікам Акадэміі прадастаўляюцца самыя выгадныя месцы працы.

У нас мала па-сапраўднаму кваліфікаваных юрыстаў, якія б дапамагалі ў цяжкіх жыццёвых пытаннях. Мала прававой падтрымкі. Шмат юрыстаў, якія скончылі камерцыйныя, а наша мае ў назве дадатак «Пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь». А я паважаю нашага Прэзідэнта.

**Сасніна Юля.** Я скончыла юрыдычны каледж. Паспела папрацаваць на практыцы ў міліцыі - 3 месяцы. Гэта дазволіла мне зразумець, што я люблю гэтую прафесію. А я лічу, што абавязкова трэба любіць абраную прафесію, каб дабіцца поспеху.

**Стэфановіч Таня.** Я люблю гуманітарныя навукі. І перада мной стаяў выбар – БДУ ці Акадэмія кіравання. Водгукі сяброў дапамаглі вызначыцца канчаткова.

**Лях Марына.** Мая цётка працуе суддзёй. Яе поспехі натхнілі мяне. Хочацца быць падобнай на яе. А яшчэ вельмі важна для мяне прэстыжнасць прафесіі і ВНУ.

**Рамановіч Таня.** Мой бацька праходзіў перападрыхтоўку ў Акадэміі кіравання. Я прыслухалася да яго парадаў.

**Вольны час**

Мы ўжо ўдосталь нагледзеліся жахаў пра забавы моладзі, наслухаліся трагічных гісторый пра загубленае маладое жыццё. Вобраз распаясаных маладых людзей, якія незразумела чаго хочуць, амаль трывала ўвайшоў у нашу свядомасць. А між тым, моладзь любіць бавіць час даволі проста, зусім як мы ў свой час: чытаць, слухаць музыку, гуляць па вуліцы, сустракацца з сябрамі. Сярод студэнтаў папулярнымі з'яўляюцца рускі рок, а таксама музыка, якая дазваляе расслабіцца. Нам назвалі любімыя групы «ДДТ», «Аквариум», «Ега», «Enigma» і «NRM», што, вядома, не магло нас не пацешыць.

Цікавяцца студэнты і беларускімі выканаўцамі, ведаюць А.Саладуху, гурты «Нейра-Дзюбель», «Лепрыконсы», «Яблычны чай», «Чук і Гек». З задавальненнем схадзілі б на канцэрты гуртоў «NRM», «Палац», «Ляпіс Трубецкой».

**Тэлебачанне**

Амаль усе нашы маладыя суразмоўцы, гаворачы пра самы даступны сродак масавай інфармацыі, адзначалі слабы прафесіяналізм тэлевядучых, іх скаванасць і ненатуральнасць. Даволі нечаканым было пачуць, што наша тэлебачанне разлічана ў большай ступені на дарослых, большасць праграм маюць палітычную скіраванасць. Моладзь не бачыць зацікаўленасці з боку ТБ да свайго жыцця і маладзёвых праблем. Студэнты даволі крытычна ацэньваюць дзейнасць беларускіх тэлеканалаў, але ўсё ж спадзяюцца на іх паляпшэнне. Прыкладам станоўчага развіцця называлі музычны канал.



Photo.Bymedia.net

**Беларуская мова**

Зразумела, што нас цікавілі адносіны моладзі да праблемы развіцця беларускай мовы. У якой прапорцыі павінна прысутнічаць беларуская мова ў тэле- і радыёэфіры? На гэтае пытанне мы пачулі розныя адказы: 20%, 30%, 40%, 50%, 80%. Аднак пераважная большасць з тых, хто пажадаў адказаць, назвалі лічбу – 100%. Пры гэтым маладыя людзі прыводзілі найпрасты аргумент – мы жывём у Беларусі, мы – беларусы, значыць, уся інфармацыя павінна на нашых каналах гучаць на роднай беларускай мове.

**Замест каментару**

Неаднаразова даводзілася чуць пра тое, што наша моладзь становіцца больш прагматычнай, у сваіх учынках кіруецца рацыянальным падыходам. Так, гэта адчуваецца. Але: добра ці дрэнна, калі моладзь прываблівае прэстыжнасць ВНУ? Калі маладыя людзі ў сваім выбары прафесіі арыентуюцца на будучую запатрабаванасць, на магчымае месца працы? Мне падаецца, такі падыход да свайго будучага самастойнага жыцця цалкам апраўданы, мала таго, менавіта такі падыход – усвядомлены і асэнсаваны, арыентаваны на высокі прафесіяналізм - дае ўсім нам пэўныя падставы для аптымізму.

Зразумела, што цяжка рабіць адназначныя вывады на падставе сустрэчы са студэнтамі ўсяго толькі адной навучальнай установы, няхай сабе нават самай прэстыжнай. Таму мы не пакідаем гэтай тэмы і будзем надалей знаёміць чытачоў з моладдзю розных айчынных ВНУ, з іх творчасцю. Будзем рады, калі і Вы раскажаце нам пра цікавых, таленавітых маладых людзей.

**Матэрыял падрыхтавала Алена АМЕЛЬЧЫЦ**

# Этнічныя расейцы ў Беларусі

Заканчэнне. Пачатак на стар. 2, 3

**Заіка.** Гэта абсалютна не мае мэдыі, і я аддаю перавагу спадарожнікаваму тэлебачаньню, дзе больш за 100 каналаў. Калі ж па сутнасьці пытаньня, то прэзыдэнт Беларусі выдатна разумее, што расейскія мэдыі могуць у любы момант пачаць інфармацыйную вайну супраць яго, і ён такім чынам забясьпечвае сабе пэўную бясьпеку. У гэтым сэнсе да сыходу расейскіх тэлеканалаў як спажывальнік інфармацыі стаўлюся адмоўна, бо нашае тэлебачаньне ня можа рабіць добрых перадачаў і з пункту гледжаньня культуры, і з пункту гледжаньня прафэсіяналізму.

Я выдатна разумею, што гэта ёсьць наступствам палітычнай інтрыгі, спроба стварыць у Беларусі грамадзтва, зручнае для маніпуляцыяў. Што тычыцца маёй этнічнай прыналежнасьці, то я як сапраўдны касмапаліт аддаю перавагу EURONEWS і CNN, нямецкім, брытанскім тэлеканалам.

**Дракахруст.** Спадар Заіка паведаміў нам, што ён касмапаліт і да таго ж мае спадарожнікавую антэну, і таму адключэньне расейскіх тэлеканалаў ня надта яго бянтэжыць. А Вас, спадар Булгакаў? Зразумела, калі б на мейсца расейскіх мэдыяў прыходзіла вольная, таленавітая беларуская журналістыка – не было б праблемы. Але якога гатунку і, дарэчы, наkirунку айчынны прадукт прыходзіць на зьмену расейскім тэлеканалам – вядома.

**Булгакаў.** Тут нявыгадная самая сыстэма параўнаньня. Параўноўваць беларускія і расейскія эліты, нацыі - гэта, выбачайце, як параўноўваць зайца са сланом. Такая пастаноўка пытаньня не здаецца досыць шкоднай для аб'ектыўнага падыходу.

Адзягнуўшыся ад беларуска-расейскай праблематыкі, я б хацеў зьвярнуцца да досьведу іншых краінаў нашага рэгіёну. Калі нехта сыстэматычна глядзіць літоўскае, латыскае, чэскае тэлебачаньне, ён можа заўважыць, што ўзровень гэтага тэлебачаньня, калі не цяпер, то, прынамсі 5-6 гадоў таму, на галаву саступаў узроўню расейскага тэлевяшчаньня. Уласна кажучы, Расея эканамічна, магчыма, рэгіянальная звышдзяржава, але ў культурным сэнсе яна дагэтуль мае непараўнальна большыя рэсурсы, чым усе краіны нашага рэгіёну, разам узятыя.

Таму як дыялектык я бачу тут зерне нечага дадатнага, бо кожны шлях мае зь нечага пачынацца, і тое, што ў нас першы блін — камяком, гэта непазьбежна.

**Дракахруст.** Нядаўна ўлады зачынілі беларускі Гуманітарны ліцэй імя Коласа. Зразумела, што далёка ня ўсе беларусы пратэставалі супраць гэтага. Але ў той школе, што паўстае на мейсцы зачыненага ліцэю, выкладаньне будзе весьціся на не якой-небудзь, а на расейскай мове. І ці ня варта было, ці не магла бы расейская грамада ў Беларусі выступіць з гэтай нагоды і заявіць ня тое, што яна супраць, а іншае: «Нам гэта ня трэба, нашая мэта – захаваць сваю ідэнтычнасьць, захаваць нашую мову і культуру, нам, рускім, непатрэбная русыфікацыя беларусаў»?

**Суздальцаў.** Я не ўпаўнаважаны казаць ад імя расейскай грамады. Але магу сказаць, што гэтая падзея была ў ёй заўважаная. І меркаваньне значнай часткі грамады такое: «Нас нацкоўваюць адных на іншых, нас падстаўляюць пад молат карэннай нацыі, выкарыстоўваючы нашую мову, займаюцца палітычнай дзейнасьцю». Расейская грамада не выступае супраць адукацыі на беларускай мове і глупа было б супраць гэтага выступаць. Але выступіць супраць крокаў кшталту закрыцьця Ліцэю – мы вяртаемся да пачатку нашай размовы. Для гэтага патрэбная палітычная інфраструктура, якой няма. Зараз крытычны момант. Трэба рабіць выбар - ці стварыць такую інфраструктуру, ці весьці справу да скарачэньня расейскай грамады ў Беларусі. Што выгадней? Пакуль ня выгадна ані першае, ані другое.

**Дракахруст.** Нядаўна Валянцін Акудовіч сказаў у нашай перадачы «Праскі акцэнт», што Лукашэнка можа выпусьціць з бутэлькі антырасейскага джына і што расейцы ды нават самі беларусы ня ведаюць усяе моцы гэтага джына. Акудовіч меў на ўвазе ня моц прапаганды, а моц пачуцьцяў, якія сьпяць. Ён казаў: «Беларусы самі ня ведаюць, як яны ня любяць свайго «старэйшага брата».

Але ўсясьветны досьвед паказвае, што наступствы выпусканьня такіх джынаў маюць уласную лёгіку самаразьвіцьця. І ці ня можа, паводле гэтай лёгікі, справа дайсьці нават да этнічных чыстак, да ажыцьцяўленьня лёзунгу : «Чамадан. Вакзал. Расея»?

**Заіка.** ...Я лічу, што як гэта ні парадаксальна, у Беларусі склалася грамадзтва, найбольш блізкае да эўрапейскай традыцыі. Беларускае грамадзтва ня мае такой моцнай нацыянальнай ідэнтыфікацыі, як у краінах Балтыі, не такое расколатае паводле цывілізацыйнай прыкметы, як на Украіне. Беларусь у гэтым сэнсе была найбольш падрыхтаваная да таго, каб стаць эўрапейскай краінай. Але зараз эксьпэрымент па выпусканьні джына сапраўды можа быць праведзены. І беларускім палітыкам, і аналітыкам трэба вельмі жорстка і крытычна ставіцца да такіх спробаў. Бо ўцягнуць нас у такія разборкі, пракруціць нас праз такую мясарубку было б самым няўдалым разьвіцьцём краіны.

**Дракахруст.** Спадар Булгакаў, тое ж пытаньне, наконт выпусканьня антырасейскага джына - да вас. Як гавораць брытанцы, можна падвесьці каня да вады, нельга прымусіць яго піць. Ці купіцца беларус на гэтую прынаду?

**Булгакаў.** Я б радыкальна не пагадзіўся са спадаром Заікам наконт вялікай эўрапейскасьці беларусаў. Усе эўрапейскія, блізкія да Эўропы краіны ўжо ў Эўразьвязе, у НАТО, ці прынамсі завяршаюць апошнія стадыі перамоўнага працэсу наконт уступленьня ў палітычныя і вайсковыя структуры агульнаэўрапейскай супольнасьці.

Тое, што мы разам з Украінай і Малдовай апынуліся ўвонках эўрапейскай палітычнай прасторы, дыягнастуе вельмі прыкры стан рэчаў. Гэта дыягнастуе тое, што Беларусь у пэўнай ступені не адбылася як нацыя.

Беларускі нацыяналізм гістарычна і культурна запозьнены, а сам факт нацыянальнай дзяржаўнасьці дае заўсёды вельмі спажыўную глебу для росту нацыяналістычных настрояў. Таму я думаю, што добра было бы абстрагавацца ад бягучай палітычнай кан'юнктуры і паразважаць над больш адцягненымі справамі. Гэтыя два чыньнікі: гістарычная запозьненасьць беларускага нацыянальнага руху і тое, што існаваньне беларускага народу ў межах нацыянальнай дзяржавы прымушае да паскоранага нацыянальнага будаўніцтва, могуць ствараць спажыўную глебу для самых нечаканых ксэнафабіцкіх праяваў нацыянальнага пачуцьця.

Мы зьяўляемся сьведкамі паўставаньня беларускай нацыі, нацыі расейскамоўнай, але са сваёй мэнтальнасьцю, традыцыямі, звычаямі, што адрозьнівае нас ад іншых краінаў. Ня будзе нічога нечаканага, калі ў беларусах у пэўны гістарычны прамежак часу абудзіцца антырасейскі сантымэнт.

У культуралёгіі, у сучасным беларускім мысьленьні часта цяпер правадзіцца думка, што беларусы перажылі індустрыялізацыю, мадэрнізацыю і ўвядзеньне ўнівэрсальнай усеагульнай адукацыі, але захавалі ў пэўнай ступені патрыярхальны лад мысьленьня. Гэта стварае небясьпечную сытуацыю ў сэнсе нацыянальнага пачуцьця. Мы ў сярэдзіне XXI стагодьдзя можам уступіць у новае XIX стагодзьдзе.

**Радыё «Свабода»**

*Друкуецца ў скароце*

# Менчукі чакаюць гіпершопінга

Пры канцы наступнага года, а дакладней у верасні на Дзень горада, у Мінску адчыніцца самая вялікая ў нашай краіне крама – першы гіпермаркет. Ён будзе пабудаваны блізу аўтавакзала «Усходні» – на рагу праспекта Ракасоўскага і вуліцы Ванеева.

Натуральна, што менчукі ўзрадаваліся, калі мінскія ўлады абвясцілі пра пабудову ў горадзе некалькіх гіпермаркетаў. Многія са сталічных жыхароў рабілі шопінг у такіх буйных крамах за мяжой падчас прыватных ці турыстычных вандровак – Парыжы альбо ў Празе, дый нават бліжэй – у Вільні, Варшаве ці Маскве. Наведванне гіпермаркета ўключаецца ў расклад турыстычнага тура як самастойнае і вартае баўлення часу мерапрыемства ў шэрагу з разнастайнымі экскурсіямі. Некаторыя нават прывозяць дадому большыя ўражанні ад паходу ў гіпермаркет, чымсьці ад агляду якіх архітэктурных выбітнасцяў. Але ў хуткім часе, калі гіпермаркеты будуць і ў беларускай сталіцы, гэты пункт у турыстычных вандроўках можа прывабіць толькі беларусаў з правінцыі.

Пакуль жа чаканне жаданых гіпермаркетаў абыходзіцца менчукам нязручнасцямі, звязанымі са зносам па ўсім горадзе шапікаў. Прыбіраючы іх, улады кажуць, што такім чынам дадаюць абліччу Мінска еўрапейскасці. Хаця незразумела, чаму гіпермаркеты і шапікі не могуць суіснаваць?

Але вось з чым асабліва не паспрачаешся, дык гэта з тым, што гіпермаркеты - гэта куды больш цывілізаваная форма гандлю, чымсьці тыя камерцыйныя кіёскі і рынкі, на якіх ёсць вялікая рызыка купіць няякасны ці пратэрмінаваны тавар. Ды наогул зручна, калі можна набыць што заўгодна ў адным месцы. Ад хлеба да дроваў. Некалькі дзесяткаў тысяч найменняў тавараў. У гіпермаркеце можна закупіцца на цэлы тыдзень прадуктамі і прымысловымі таварамі. Да ўсяго тут ніжэйшыя, чымсьці ў звычайных крамах кошты. Але затое ў гіпермаркеты штодня прыходзіць вельмі багата людзей. З гэтага і маецца немалы прыбытак.

Напрыклад, у маскоўскіх гіпермаркетах у сярэднім кожны пакупнік трацiць 8–9 даляраў за адзін візіт сюды. Цікава, які сярэдні чэк будзе ў беларускай сталіцы? Будзем спадзявацца, што ў нашых людзей будзе дастаткова грошай, каб траціць іх у гіпермаркетах столькі, каб тыя не пазачыняліся з-за малых прыбыткаў, трымалі багаты выбар тавараў і усталёўвалі нізкія кошты.

Дзе яшчэ ў Мінску з'явяцца гіпермаркеты, апрача таго, што будзе пабудаваны на рагу праспекта Ракасоўскага і вуліцы Ванеева? Адмыслова пад гіпермаркеты Мінгарвыканкам выдзеліў таксама месцы на перасячэнні праспекта Дзяржынскага і вуліцы Ясеніна, таго ж праспекта Дзяржынскага і вуліцы Уманская, праспекта Скарыны і Мінскай кальцавой аўтадарогі, Магілёўскай шашы і МКАД, вуліц Лабанка і Фёдарава, Кіжаватава і Карджанеўскага, Арлоўскай і Ціміразева, Танка і Кальварыйскай.

Мяркуецца, што гэтыя вялікія універсальныя крамы будуць мець плошчу больш дзесяці тысяч квадратных метраў, а ў асартыменце – некалькі дзесяткаў тысяч таварных пазіцый. Зрэшты, што да плошчы, то гіпермаркетамі могуць называцца ГУМ, ЦУМ, гандлёвы дом «На Нямізе», універмаг «Беларусь». Пры гіпермаркетах будуць працаваць гульнявыя пакоі для дзяцей, стаянкі на некалькі сотняў аўтамабіляў, пункты хуткага харчавання і аказання розных бытавых паслуг.

**Кірэй МАНУЙЛА**





На гэтакім сусветным фоне супершопінгаў (іракскі, кітайскі, тайландскі, замбійскі, індыйскі) нашы нічым не горшыя, нават больш «прасунутыя»

## Адукацыя

# Эстонія не хоча філіялаў

Міністэрства адукацыі і навукі Эстоніі плануе звярнуцца ў МЗС рэспублікі з прапановай, згодна з якой яна аднабакова касуе дамовы з Расіяй аб узаемным прызнанні вышэйшай адукацыі ад 1998 года. Такім чынам Талін спадзяецца закрыць супрацьзаконную дзейнасць у краіне філіялаў расійскіх вну.

Па ацэнцы эстонскага боку, цяпер у рэспубліцы дзейнічаюць 15 філіялаў расійскіх вну, у якіх адсутнічае як афіцыйнае дазволенне на навучанне, гэтак і акрэдытацыя вучэбных праграмаў. Эстонскі цэнтр па ацэнцы дакументаў аб адукацыі замежных краін лічыць, што многія вучэбныя ўстановы такога роду парушаюць заканадаўства рэспублікі і падманваюць сваіх студэнтаў. У адносінах да некаторых вычэбных установаў ужо ўзбуджаны крымінальныя справы, і калі будзе вынесены абвінавачвальны прыгавор, падманутыя студэнты змогуць патрабаваць звароту платы за навучанне.

# Ці верыць IQ-тэстам?

**Як вызначыць, наколькі вы разумны чалавек ці наогул разумны? Канечне, хай лепш пра тое скажуць людзі. Але калі яны маўчаць, то можна скарыстацца адмысловым тэстам на IQ (Intellectual Quotient, што азначае каэфіцыент інтэлектуальнасці).**

Знайсці яго можна, палазіўшы ў інтэрнэце ці купіўшы якуюнебудзь кніжку з простай назвай «Тэсты», якіх поўна ў кожнай кнігарні. Ну, дапусцім прайшлі вы тэст на IQ , набралі багата пунктаў, але хто вам паверыць, што вы такі разумнік. Мала ў каго гэта напісана на лбе. Пры жаданні можна набыць пасведчанне, дзе будзе пазначана, што ў вас высокі інтэлект. Прычым самы што ні на ёсць афіцыйны дакумент.

У свеце існуе такая арганізацыя MENSA (www.mensa.org), якая лічыцца афіцыйным экспертам па вызначэнні ўзроўню чалавечага інтэлекту. Чальцамі гэтага таварыства, што паўстала у Англіі ў 1946 годзе, могуць стаць толькі тыя, хто мае высокі IQ . Прахадны бал сюды – 147 пунктаў паводле адмысловага тэста.

Прадстаўніцтвы гэтай разумнай арганізацыі існуюць у чатырох дзесятках свету. У тым ліку і ў Беларусі. Дарэчы, наша краіна ў колішнім СССР – адзіная, дзе ёсць філіял MENSA.

Час ад часу MENSA ладзіць па ўсім свеце тэставыя сесіі, на якіх і папаўняе свае шэрагі. Першая такая сесія ў нашай краіне прайшла сем гадоў таму. Удзел у ёй узялі некалькі соцень чалавек. Арганізатары сесіі былі вельмі здзіўленыя вынікамі беларусаў: 45 працэнтаў тэставаных набралі 147 прахадных балаў і вышэй. Між іншым, у астатніх краінах звычайна ўдвая меней.

Як прайсці тэст на IQ цяпер? Трэба звярнуцца ў таварыства «БелМенса». Пішыце на электронны адрас – mensa@tut.by. З вамі звяжуцца і запросяць узяць удзел у бліжэйшай сесіі. Яны ладзяцца нерэгулярна – калі набіраецца паўтара дзесятка ахвотных праверыць свой інтэлект. Працэдура гэта не дармавая. Праўда, каштуе гэта нядорага – усяго толькі некалькі еўра.

Беларусы, як мы ўжо сказалі, праходзяць IQ-тэсты вельмі ўдала. А што астатнія нацыі? Самы высокі ўзровень інтэлекту паводле іх у азіяцкіх народаў. Напрыклад, у Індыі сярэдні IQ роўны 140 балам, а ў Нямеччыне – 120, што таксама вельмі нават прыстойна. Таму што наогул сярэднім у свеце лічыцца вынік ад 85 да 115 пунктаў. Сусветны рэкорд з 228 пунктамі ў 1989 годзе ўстанавіла дзесяцігадовая амерыканка Мэрылін вон Савант, якая стала простай журналісткай. Для параўнання, у ейнага суайчынніка, цяперашняга прэзідэнта ЗША Джорджа Буша-малодшага IQ роўны 91 пункту. Гэта самы нізкі паказнік сярод амерыканскіх прэзідэнтаў. Самы разумны быў Біл Клінтан з 182 баламі.

Паводле некаторых даследаванняў апалагетаў IQ, уладальнікі нізкага інтэлектуальнага каэфіцыента ў больш як дзесяць разоў часцей апынаюцца за рысай беднасці, чымсьці людзі з высокім гэтым паказнікам. І ўзровень злачыннасці сярод іх у чатыры разы большы. Затое ўладальнікі высокага IQ удвая часцей разводзяцца. Бландзінкі разумнейшыя за рудых і брунетак, курыльшчыкі – за тых, хто не паліць, ляўшы - за праварукіх, а блакітнавокія больш інтэлектуальныя, чымсьці каравокія. А сярод знакаў Задыяку лепшыя мазгі ў Вадалеяў, а самыя малыя – у Скарпіёнаў.

Тым, хто вырашыў выпрабаваць сябе праз IQ-тэсты і застаўся незадаволеным сваім вынікам, раю не расстройвацца. Пра іх суб'ектыўнасць, недасканаласць і небяспрэчнасць кажуць многія псіхолагі. Прыкладам, яны відавочна распрацаваныя пад строгі тэхнічны розум. Гуманітарыі ж маюць зусім іншае мысленне, якое матэматычнымі заданнямі вымяраць проста некарэктна. Вось чаму іхнія вынікі паводле IQ-тэстаў рэдка бываюць бліскучымі. Але ж хіба гэта паказнік інтэлекту – улавіць закамернасць, паводле якой размешчаныя нейкія шматзначныя лічбы?

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Англамоўныя паэтэсы ў перакладах Алены Таболіч

**Англамоўныя паэтэсы XX ст. пісалі галоўным чынам белым вершам. Перакладаць такую паэзію, з аднаго боку, як бы лягчэй (не трэба думаць пра рыфму), а з другога боку - нават цяжэй (складаны змест, шматзначнасць і гульня слоў, спецыфічны рытм і іншае).**

**Прапаную чытачам пераклады вершаў амерыканскіх паэтак: Сільвіі Плат (жанчыны трагічнага лёсу) і мажыстак Эймі Лоўэл і Мэрыян Мур, прадстаўніцы афра-амерыканскай культуры, Маі Энджылу, а таксама англійскіх паэтэс - Крыстыны Разэці (віртуоза-паэтэсы XIX ст.) і загадкавай амерыканкі Эмілі Дыкінсан, творчасць якой стала вельмі папулярнай у ЗША ў XX ст.**

**Розныя пакаленні паэтэс, рознае светаадчуванне, розныя формы верша, але ёсць агульнае - усе яны хочуць быць прыгожымі і каханымі.**

**Што да паэтаў, якія пішуць пра жанчын, то, як кажа англійскі паэт, мастак і навуковец Эйдрыян Хенры: «Без цябе ў Англіі ўсё стане іншым, нават надвор'е будзе нязменлівым».**

**Алена ТАБОЛІЧ**

**Сільвія Плат**
**Sylvia Plath**
(1932–1963)

### Грыбы

Уначы вельмі ціха
Тайком,
Ціхутка
Нашы насы і пальцы
Прабіваюць гліну,
Глытаюць паветра.

Нас не бачаць,
Не спыняюць -
Мы займаем месца
Кулачкі настойліва уздымаюць іголле,
Коўдру лісця,
нават цвёрды брук.

Нашы тараны-малаткі,
сляпыя, глухія,
зусім безгалосыя,
прабіваюцца праз
шчыліну плячыма. Мы

п'ём ваду,
глытаем цень,
ласкава просім,
або наогул не просім.
Нас так шмат,
Так шмат нас!
мы паслухмяныя і рахманыя.
нас ядуць
Мы таўкачы,
мы піхачы,
мы хутка множымся.
Да ціхага ранку
Мы займаем дзялянку
Мы ўжо тут.

### Ты вось такі

Як клоун шчаслівы, на руках,
Дагары нагамі, галава, як поўня,
Каўнер, як жабры. Здаровы сэнс.
Пальцы рук, як у птушкі дода.
Увесь у сабе, як шпулька,
Цямніш, як тыя совы.
Глухі, як рэпа з ліпеня
Да красавіцкага Дня дурняў.
О велікан, мой маленькі гультай!

Няясны, як туман; жаданы, як пошта.
Далёкі-далёкі, як Аўстралія.
Перакулены Атлант, наш вандроўнік.
Патаемны, як бутон, а дома - ціхі,
Як кілька ў бляшанцы.
Кош хвалістых вугроў.
Скачаш, як мексіканскі боб.
Правільны, як задачка.
Чысты, як шкло, але са сваім тварам.

**Эмілі Дыкінсан**
**Emily Dickinson**
(1830–1886)

### Надзея

Мая крылатая надзея -
Тайна маёй душы.
Спявае песеньку без слоў,
Гучыць, як не глушы.

Мілейша песенька ў буру
Гразнейша за багоў,
Пужае птушачку маю,
Што грэла шмат каго.

У стужу чула песню я,
І мора спеў нясло.
Яна ні крошкі не прасіла,
Хоць цяжка ёй было.

### Я памерла за прыгажосць

Я памерла за прыгажосць.
Не ўспелі пахаваць,
Як нехта памерлы за праўду,
Рашыў таксама спачываць.

Спытаў ён ціха, чаму я тут.
– За прыгажосць – адказ.
– А я за праўду. Мы адно,
Кажуць пра нас.

Як родныя, сустрэлі ноч,
Сказалі многа слоў.
Ды мох жа вусны нам скаваў
І прозвішчы заплёў.

**Мэрыян Мур**
**Marianne Moore**
(1887–1972)

### Гады

Што наша нявіннасць,
што наша віна? Усё
галаслоўна. Адкуль
храбрасць - адказу няма,
поўны сумнеў, -
нямому зваць, глухому слухаць -
гэта няшчасце, нават смерць
суцяшае людзей,
а ў паразе, будзіць
душы каб мацнелі? Той
бачыць глыбока, хто
пакорна прымае смерць,
і ў яе палоне уздымаецца
над сабою, як мора ў бездані змагаецца
за волю, а калі
здаецца, то толькі
каб існаваць далей.

Хто мае моцныя пачуцці,
той дзейнічае. Нават птах
мужнее ў спевах, расце
і прыгажэе. А ў няволі
яго моцны спеў
Гаворыць: задаволенасць -
нізкая рэч, радасць - чыстая.
Гэта ёсць смертнасць.
Гэта ёсць вечнасць.

**Мая Энджылу**
**Maya Angelou**
(нар. 1928)

### Незвычайная жанчына

Дзяўчаты дзівяцца майму сакрэту.
Здаецца, не стварaю для моды
сілуэту.
Калі я гавару ім,
Лічаць за прыкмету
Хлусні.
Кажу:
Гэта размах рук маіх,
Аб'ём клубоў маіх.
Поступ крокаў маіх,
Форма вуснаў маіх,
Я жанчына.
Фенаменальна.
Феномен-жанчына.
Вось хто я.

Заходжу ў пакой
Сумнення ні цені.
І мужчыны
На нагах або
гоп на калені.
Круцяцца, як пчолы,
Ля куста ў цвіценні.
Кажу:
Гэта вагонь вачэй маіх,
Бляск усмешкі маёй,
Гібкасць стану майго,
Радасць ног маіх.

Я жанчына
Фенаменальна.
Феномен-жанчына.
Вось хто я.

Людзі дзівяцца,
Што знайшлі ўва мне?
Стараюцца, але
Не дакранаюцца
Да тайны мае.
І што б я ні рабіла,
Бог ім здагадкі не дае.
Кажу:
Гэта форма плячэй маіх,
Сонца ўсмешкі маёй,
Уздым грудзей маіх,
Грацыя стылю майго.
Я жанчына.
Фенаменальна.
Феномен-жанчына.
Вось хто я.

Цяпер вам ясна,
Чаму галава высока,
Чаму не скачу далёка,
Не гавару громка.
А калі міма йду
Чаму вам так няёмка?
Кажу:
Гэта стук абцасаў маіх,
Хвалі валасоў маіх,
Далонь рукі маёй,
Прагa ласкі маёй.
Таму што я жанчына.
Фенаменальна.
Феномен-жанчына.

**Крыстына Разэці**
**Christina Rossetti**
(1830–1894)

### Першы дзень

Шкада, што я не помню першы дзень,
Нашай сустрэчы першы момант.
Ці то быў зімні сум, ці летні гоман -
Ніякай яснасці, усё як цень.
Не захавалася, навек сплыло.
Прадбачыць не магла - была сляпой.
Не разгадала росквіт дрэва я свайго.
Ці расцвіце йзноў? Не, ужо цвіло.
Каб толькі ўзгадаць змагла
Той дзень! Ды адышоў як талы снег
Бясследна. Паміж былым і сёння
Вечнасць праляглa.
Каб дотык твой адчуць магла,
Твой першы дотык рук! І смех, і грэх...

### Рынак гоблінаў
(*урывак*)

З ранку да вечару
Гобліны крычалі.
Купіце нашы фрукты,
Ідзіце, купіце:
Яблыкі, лімоны,
Айву, апельсіны,
Гарбузы, маліны,
Яркашчокія персікі,
Смуглявую шаўкоўніцу,
Дзікія журавіны,
Яблычкі-дзічкі, ажыны,
Абрыкосы, суніцы,
Усё спелае,
Летам загарэлае.
Раніца прайдзе,
Вечар надыдзе,
А вашы пакупкі дзе?
Вінаград толькі што зняты,
Паўнюткія гранаты,
Фінікі, чарнаслўкі,
Грушы бэры, аліўкі,
Клубніцы, чарніцы.
Спрабуйце, смакуйце,
Агрэст і парэчкі,
Што раслі каля рэчкі,
Вогненны барбарыс -
Ешце, пакуль не скіс!
Інжыр і лімон,
Паўднёвы цытрон
Салодкі. Глядзіце,
Калі ласка, купіце!

**Вікі Фівер**
**Vicki Feaver**
(нар. 1943)

### Паліто

Часам я хацела
Адкінуць цябе,
Як цяжкае паліто.

Часам я казала,
Што ты не даеш мне
Ні рухацца, ні дыхаць.

А вось цяпер вольная
Выбіраць лёгкую вопратку
Альбо не выбіраць ніякай

Я адчуваю холад
І ўвесьчасна думаю,
Як тады было цяпло.

**Эймі Лоўэл**
**Amy Lowell**
(1874–1925)

### Бэз
(*урывак*)

Бэз.
Сіняваты,
Белы,
Ліловы
Колер бэзу.
Твае пухкія гронкі кветак
Па ўсёй Новай Англіі.
Сярод тваіх сэрцападобных лісцяў
Скачуць і пяюць пяшчотныя песні
Ярка-жоўтыя івалгі;
А з сучкоў тваіх галінак,
Праз святло і цені
Трывожна свецяцца вочкі вераб'ёў,
Якія выседжваюць рабыя яйкі.
І так штовясну.

Бэз на падворках
Ціха шэпчацца з ранняй поўняю.
Бэз вартуе пакінуты дом,
Сядзіць у траве паўздоўж дарогі.
Ад ветру гайдаецца пад цяжарам квецені
Над склепам ля пагорка.

Ты ёсць паўсюль,
Ты быў паўсюль.
Ты біў па шыбе падчас святой імшы,
Ты бег па дарозе ў школку за хлопчыкам,
Ты пасвіў кароў, каб добра наеліся.
Ты рабіў посуд срэбраным,
А мужыка гаспадыні залатым.

* * *

Ты - частка зялёнага мора,
Частка камяністых пагоркаў,
Частка ясянёвых вулачак, дзе ўсё прадаюць.
Частка вялікіх паркаў, куды ўсе выйшлі на шпацыр.
Ты пакрываеш тыл цяпліцаў,
Заглядваеш праз шкло,
Каб сказаць: «Хутчэй!»
Тваім сябрам-вінаграднікам.

Бэз.
Сіняваты,
Белы,
Ліловы
Колер бэзу.
Лісткі, як сэрца, па ўсёй Новай Англіі,
Карані бэзу ў глебе Новай Англіі,
Бэз ува мне, таму што я - Новая Англія.
Таму што мае карані тут,
Таму што маё лісце тут,
Таму што мае кветкі тут,
Таму што гэта мая зямля,
Я расказваю ёй пра сябе
І спяваю пра яе сваім голасам,
Таму што ўсё гэта маё.

# Ад Міндоўга да Альгерда:

**Уладзімір КОНАН**
доктар філасофіі

**Раманная трылогія Вольгі Іпатавай «Альгердава дзіда» - выдатная падзея ў літаратуры апошніх гадоў. Працяг традыцый польскага Генрыка Сянкевіча і нашага Уладзіміра Караткевіча. Адраджэнне эпічнага жанру па матывах драматычнай гісторыі беларусаў. Тры раманы, напісаныя ў класічным стылі пра станаўленне другога (навагрудска-віленскага) этапу беларускай дзяржаўнасці.**

**Мая рэцэнзія была прапанавана штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Гутаркі з галоўным рэдактарам Віктарам Шніпом і загадчыкам аддзела рэдакцыі Леанідам Галубовічам абнадзейвалі на аператыўную публікацыю. Аднак мінула 120 дзён і аказалася: адрэдагаваны тэкст «згублены», а кампутарны набор яго «сцёрты». У мяне склалася ўражанне, што ў «ЛіМе» працуюць «тэхнічныя» рэдактары (што, зразумела, не сорамна, бо нават Янка Купала ў эпоху «ваеннага камунізму» працаваў тэхнічным рэдактарам савецкага выдавецтва), а новыя гаспадары былой пісьменніцкай газеты падзялілі нас на «сваіх» і «чужых» (у эпоху Купалы дзялілі на «пралетарскіх» і «нацдэмаў»).**

**Застаецца толькі надзея: перажылі бальшавіцкую цэнзуру - перажывём і «холдынгавую».**

**Уладзімір Конан**

Летась выдавецтва «Беллітфонд» выпусціла ў свет эпічны трыпціх Вольгі Іпатавай – гістарычныя раманы «Залатая жрыца Ашвінаў», «Вяшчун Гедзіміна» і «Альгердава дзіда». Першыя варыянты гэтых твораў раней друкаваліся ў часопісе «Полымя». Рыхтуючы кнігу, аўтар дапоўніла іх, удакладніла важныя дэталі, заключныя часткі набылі больш аптымістычнае гучанне.

Гістарычная раманістыка – справа не лёгкая для пісьменніка самага высокага таленту і творчага вопыту. Тут поспех залежыць яшчэ ад энцыклапедычных ведаў аўтара, ад таго, наколькі ён падняўся над эмпірычным матэрыялам, удыхнуў душу ў скупыя летапісныя звесткі, стварыў сваю вобразную сістэму і арыгінальную кампазіцыю, вынайшаў характэрную для кожнага персанажа мову і стыль паводзінаў, сваю кампазіцыю, якія адпавядалі б задуманым фабулам і сюжэтам. Крытыкі, яшчэ больш гісторыкі, мабыць, маглі б паспрачацца з прапанаванай пісьменніцай эпічнай канцэпцыяй вялікіх падзеяў у сярэдневяковай Беларусі.

Будзем, аднак, мець на ўвазе вядомую з антычнай эстэтыкі аксіёму: мэты гісторыка і паэта (даўней усё прыгожае пісьменства называлі паэзіяй) не аднолькавыя. Паводле паэтыкі Арыстоцеля: «Задачы паэта – гаварыць не пра тое, што было, а пра тое, што магло б быць, будучы магчымым па верагоднасці або неабходнасці. Бо гісторык і паэт адрозніваюцца не тым, што адзін піша прозаю, а другі - вершамі (вось жа і Герадота можна пераказаць вершамі, але яго сачыненні застаюцца гісторыяй, – усёроўна ў прозе або вершамі). Не, адрозніваюцца яны тым, што адзін гаворыць пра тое, што адбылося, а другі – пра тое, што магло быць. Пагэтаму паэзія больш філасафічная і больш сур'ёзная, чым гісторыя, бо паэзія найбольш гаворыць пра агульнае (паводле сучаснай эстэтыкі – тыпове. – У.К.), а гісторыя – пра адзінкавае» (Арыстотель. Сочинения: В 4 т. Т.4.– М., 1983. С.655).

Пісьменнік адчувае сябе больш свабодна ў асяроддзі «прыдуманых» герояў гісторыі. Трэба валодаць чуццём меры і вывераным густам, каб не сфальшывіць у абмалёўцы гістарычных дзеячаў, асабліва кананізаваных або сакралізаваных. Пісьменнік універсальнага таленту Уладзімір Караткевіч у першых дзвюх кнігах «Каласы пад сярпом тваім» (1962–1964) давёў сваю эпічную фабулу да 1861 года. Намаляваў панараму жыцця цэлых пакаленняў розных слаёў беларускага грамадства напярэдадні паўстання 1863 года. Яркія запамінальныя персанажы рамана – тварэнне незвычайнай мастацкай фантазіі аўтара: сялянская сям'я Кагутаў, Яраш Раўбіч, рэвалюцыянер Корчак, стары шляхціч Вежа-Загорскі, прыгонная актрыса Гелена...

Усе падзеі ў творы сфакусіраваны ў быцці, дзеях і экзістэнцыяльным перажыванні галоўнага героя Алеся Загорскага – alter ego самога пісьменніка, ягоная мастакоўская праекцыя на XIX ст. – век фармавання нацыяў і тварэння класічнай культуры. Унікальная карціна гэтай эпохі наноў створана энергіяй душы мастака. А вось рэальныя дзеячы гісторыі і культуры ствараліся скарэй майстэрствам белетрыста і публіцыста, чым інтэнцыяй паэта. Ёсць дакладныя дэталі іхніх партрэтаў, нават прыкметы ворага беларушчыны генерал-губернатара М. Мураўёва. Аднак усім, у тым ліку Каліноўскаму, не хапала закончанасці і дынамічнай цэльнасці характараў. Іхняя паўната планавалася ў трэцяй кнізе трылогіі, яе пісьменнік не паспеў напісаць.




Вольга Іпатава далучылася да асноўнага накірунку ў беларускай літаратуры, ля вытокаў якога былі яе заснавальнікі. А.Бабарэка ахрысціў гэтую магутную плынь адраджанізмам. Эстэтычнае і сацыяльна-палітычнае паняцце нацыянальнае Адраджэнне было ключавой катэгорыяй нашаніўскай эстэтыкі, філасофіі і сацыялогіі, пазней трансфармавалася ў эстэтычную канцэпцыю «Узвышша» – аквітызм, арыентаваны на сінтэз нацыянальнай традыцыі і мастацкага наватарства XX ст. У трагічныя дзесяцігоддзі бальшавіцкіх рэпрэсіяў гэты арганічны для беларускай грамадскай думкі і мастацкай культуры накірунак жорстка падаўляўся. Інерцыя «выгнання адраджанізму» з афіцыйнай савецкай культуры працягвалася нават у 60-я гады.

Шматграннасць таленту – вось галоўная творчая прыкмета дзеячаў адраджэнскай мастацкай культуры: пісьменнікі, мастакі, даследчыкі гэтага руху, як правіла, выявіліся ў разнастайных відах і жанрах творчасці. Гэта – іхняя агульная прыкмета з далёкімі папярэднікамі – пісьменнікамі і асветнікамі гуманістычнага Рэнесансу. Любоў да роднага краю і бацькоўскай мовы – таксама іхні агульны пафас і агульная драма: ад Ф. Скарыны да сучасных рыцараў беларускага дзяржаўнага і моўна-культурнага адраджэння.

Першая літаратурная любоў Вольгі Іпатавай – лірычная, пейзажная і грамадзянская паэзія: зборнікі «Раніца» (1969), «Ліпеньскія навальніцы» (1973), «Парасткі» (1976). Праз два гады пасля дэбютнай кнігі была гістарычная аповесць «Прадслава» (1971), прысвечаная жыццю і подзвігу Ефрасінні Полацкай. Не пакідаючы паэзіі, пісьменніца з зайздроснай паслядоўнасцю ўдасканальвала свой талент і майстэрства ў жанрах гістарычнай прозы па матывах драматычных падзеяў гісторыі нашай бацькаўшчыны. Адна за адной выходзілі аповесці «За морам Хвалынскім» (1989), «Чорная княгіня» (1989), «Агонь у жылах крэменю» (1989), апавяданні «Набег», «Мара», «Святаслава», «Расанка», «Давыд Гарадзенскі», «Ваўкалакам абярнуся».

Набыты эпічны вопыт дазволіў В. Іпатавай узяцца за неасвоеную ў літаратуры тэму – адлюстраванне эпохі станаўлення новага (пасля полацка-тураўскага) этапу развіцця беларускай дзяржаўнасці і культуры; за мастацкую рэканструкцыю навагрудскай і віленскай эпохі нашай гісторыі. Свой раманны трыпціх «Альгердава дзіда» пісьменніца назвала загалоўкам трэцяга твору - своеасаблівага эпілогу да двух першых, больш шырокіх і панарамных раманаў. Паводле кампазіцыйных прынцыпаў яны напісаны ў класічным стылі. Кожны твор складаецца з эпілогу, асноўнай часткі і пралогу. Галоўным і дадатковым (але не абыякавым для пісьменніцы і чытача) героям, як цені да святла, кантраструюць антаганісты – дэманічныя (часам – камічныя) дублёры-трыкстэры. Пісьменніца грунтоўна засвоіла вопыт рэалістычнай і мадэрнісцкай літаратуры: дабро і зло, вышыні духу і нізіны падзення яшчэ канчаткова не раздзелены, як гэта станецца напярэдадні Апакаліпсісу, даўней і сёння яны нярэдка селяцца поруч у сэрцах гістарычных дзеячаў і шэраговых людзей. Асабліва тады, калі яны апантаныя славалюбствам, карыслівасцю або паддаюцца нізкім страсцям. Любімыя пісьменніцай героі ўвасабляюць яе ўласныя і грамадскія ідэалы, мару пра дасканалых людзей. Яны - жывыя сведкі таго, што грамадства рухаецца да Царства Духу.

Першы раман «Залатая жрыца Ашвінаў» быў вядомы нашым чытачам па часопісным варыянце ў «Полымі» і ў рускім перакладзе разам з аповесцю «Чорная княгіня» ў перакладзе Ірыны Качатковай (Мн., Мастацкая літаратура, 2000). Гэтыя творы набылі папулярнасць дзякуючы ўдаламу спалучэнню гістарычнай фабулы і прыгодніцкіх перыпетыяў у жыцці герояў і гераіняў. Раман «Залатая жрыца Ашвінаў» – гэта яшчэ экзатычны быт і культура беларуска-літвінскага Навагрудскага краю XIII стагоддзя, сінтэз хрысціянскіх ідэалаў і язычніцкай антычнай цывілізацыі ў Візантыі гэтай жа эпохі.

У прадмове да рамана В.Іпатава спасылаецца на міфалагічны матыў, які прычыніўся да стварэння жывой панарамы нашай даўняй гісторыі. У нарысе «Сляды язычніцтва ў святах, абрадах і песнях Беларускага Палесся» Адам Кіркор пісаў: «2 мая і 24 ліпеня, у пачатку і канцы палявых работ, народ святкуе памяць заступнікаў земляробства, князёў Барыса і Глеба, якія ўспрынялі ў народным уяўленні некаторыя рысы старажытных блізнят Асвінаў» (Живописная Россия: Т.3.– СПб.– М., 1882. С.262).



У гэтым ды іншых нарысах «Живописной России» А. Кіркор разгарнуў сваю гіпотэзу-тлумачэнне персанажаў беларускай старадаўняй міфалогіі, у тым ліку: Дзяды, Леля, Ярыла, Пярун, Іван Купала, Цёця, Вялес, Жыцень, Зюзя, Жыжаль, Жля, Чур, Лясун, Белабог, Баба-Яга і інш. Усе яны прысутнічаюць у рамане В.Іпатавай. Развіты культ боскіх блізнятаў Палідэўка (у лацінскай традыцыі – Палукса) і Кастара вядомы ў антычным (старагрэцкім і рымскім) язычніцкім культе. Палідэўк - утаймавальнік коней, а Кастар – кулачны барэц, герой антычных легендаў. Пасля смерці браты заставаліся папераменна ў падземным царстве Аіда і на Алімпе свайго бацькі Зеўса. Урэшце, былі ўзведзены на неба ў вобліку яркіх зорак – сузор'я Блізнятаў.



Міф пра Дыяскураў (іхным праобразам былі арыйскія Ашвіны) сімвалізаваў жыццё і смерць, святло і цемру. У рамане В. Іпатавай гэтыя матывы вызначаюць вобразную сістэму, эстэтыку і духоўны сэнс, дынаміку эпічнага дзеяння. Гістарычнай асновай мастацкай рэканструкцыі літвінска-беларускай цывілізацыі было двувер'е вялікіх князёў Міндоўга, Гедзіміна і народа ў княстве.

Праваслаўя моцна трымаліся Міндоўгаў сын Вайшалк (ён – эпізодны герой трылогіі) і Альгерд. Але ім прыходзілася лавіраваць паміж хрысціянствам і народнай («паганскай») традыцыяй, бо язычнікамі заставалася большасць балцкіх плямёнаў. Не выракаліся фальклярызаваных і праз гэтае гуманізаваных язычніцкіх абрадаў пратабеларускі народ крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. У выніку гэтай сустрэчы дзвюх цывілізацыяў у сярэдневяковай Беларусі адбываўся сінтэз і язычніцкай традыцыі, і хрысціянскай духоўнасці. Археалагічныя і культуралагічныя даследаванні адкрылі ў рэгіёне сярэдневяковай Навагрудчыны высокую культуру – антычную традыцыю і творчыя запазычанні з Візантыі і Заходняй Еўропы. Дарэчы, грэка-хрысціянская Візантыя і германа-раманская Еўропа той эпохі, абвясціўшы хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі, у палітыцы і штодзённым побыце заставаліся пад моцным уплывам, а часам і ў палоне шматвяковай язычніцкай антычнай культуры. Мала што ёсць хрысціянскага ў палітычных інтрыгах і бясконцых войнах сярэдневяковых (ды і сучасных таксама) дзяржаваў. Тут мастацкая інтуіцыя пісьменніцы не ашукала яе і нас, чытачоў яе твораў.

Шматгалосная фабула рамана «Залатая жрыца Ашвінаў» разгортваецца ў Навагрудку і яго ваколіцах эпохі Міндоўга (княжыў каля 1219–1263) і ў візантыйскім Канстанцінопалі, які тады быў цэнтрам Лацінскай імперыі (1204–1261) на чале з палкаводцам еўрапейскіх рыцараў Балдуінам IX. Эпізадычна – у іншых рэгіёнах княства, у Прусіі і Рыме. Кампазіцыя твора – паліфанічна-цэнтрычная: асноўныя героі праходзяць праз усю фабулу, маюць свой голас і свой эстэтычны і гістарычны сэнс. Але ўсе яны, як і эпізадычныя персанажы, выяўляюцца ў полі зроку цэнтральнай гераіні – таленавітай, адухоўленай жры-

# сустрэча цывілізацыяў

цы храма боскіх блізнюкоў Ашвінаў у храмавым гарадку ля возера Менцязь (геаграфічным архетыпам яго, верагодна, паслужыла абвеянае легендамі возера Свіцязь) Жывены. Вобраз гэтай інтэлектуальнай чараўніцы і лекаркі намаляваны з любасцю і лірычным даверам. Для нас яна – непаўторная асоба і адначасова сімвал вітаізму (жывучай сілы) нашага этнасу, аб чым сведчыць этымалогія яе імя.

Цэнтральны вобраз эпічных і драматургічных жанраў Уладзіміра Караткевіча - беларускі рыцар, змагар за свой народ і беларускую нацыянальную ідэю. Ён – не толькі мастацкая праекцыя свайго творчага Я на гісторыю; бо сведчыць пра шляхецка-рыцарскі характар беларусаў у мінуўшчыне, на ўсіх этапах змагання за сваю дзяржаўнасць і нацыянальную ідэнтычнасць. Пісьменніцкая інтэнцыя Вольгі Іпатавай сканцэнтравана на жаноцкай іпастасі беларускага народа ў яго трох «вымярэннях» – мінуўшчыне, сучаснасці і будучыні. Аблічча, душа і сэрца яе гераіні спалучае даверлівую шчырасць дзіцяці, гераічны характар дзяўчыны і мудрасць маці. Яе Жывена прысутнічае ва ўсіх раманах трылогіі – асабіста ў «Залатой жрыцы Ашвінаў», праз сваіх нашчадкаў і ў абліччы мудрай прарочыцы ў сярэднім і заключным творы раманнага трыптыха «Альгердава дзіда». Духоўная прыгажосць Жывены, драматызм яе жыцця – моцныя акорды ў гэтай эпічнай сімфоніі. Яе прататыпы і рэпрызы ярка выявіліся ў жыццёвым лёсе Рагнеды–Анастасіі, Прадславы–Ефрасінні Полацкай. Пазней былі Эмілія Плятэр, Алаіза Пашкевіч. А сёння – вядомыя і невядомыя гераіні беларускага нацыянальнага адраджэння.

Кампазіцыя першага рамана – лінейна-цыклічная: пераход ад аднаго сюжэта да другога адбываецца паслядоўна – ад пачатку да канца, але папярэднія этапы не знікаюць, акумулююцца ў памяці гераіні і чытача. Шматлікія цыклы яе прыгодаў завяршаюцца у Наваградку і яго ваколіцах, у разбураным князем Вайшалкам храме Ашвінаў. Усе кругі жыцця маладой гераіні пройдзены. Пралог і эпілог рамана злучыліся ў адной і той жа прасторы. Завяршылася эпоха язычніцкай культуры, уступала месца хрысціянскай цывілізацыі. Але не завяршылася быццё этнасу і яго культурнай традыцыі. Як у вершы Ул. Караткевіча – пралогу да ягонага нарысу «Званы ў прадоннях азёр». Пра забытую, але жывую спадчыну. Урывак з яго – эпіграф да рамана:

*Жывыя яго паданні,*
*І песня, і мовы строй*
*У недасяжных глыбінях,*
*Пад сіняй азёрнай вадой.*
*Яны зберагаюць скарбы*
*За сябе і за нас усіх...*

«Залатая жрыца Ашвінаў» – раман пра дзяржаву і культуру, уладу мяча і ўладу духу ў двух далёкіх паводле гістарычнага часу і прасторы краінах – рамейскай Візантыі і наваградскай літвінскай Беларусі XIII ст. Першая была на апошняй стадыі гістарычнага быцця, а другая – на этапе станаўлення. Іх парадніла суіснаванне і барацьба дзвюх рэлігіяў – у Візантыі – традыцыя Рымскай імперыі (рэшткі рабства і тэакратыі, сакралізацыя дзяржаўнай улады), у княстве Міндоўга – легальнае двувер'е ў народзе наваградска-літвінскага рэгіёна і на верхавіне ўлады. Тут да эпохі Альгерда–Вітаўта–Ягайлы адносна мірна жылі паклоннікі Вялеса і паслядоўнікі Хрыста, культ Ашвінаў (паводле мастацкай гіпотэзы Іпатавай) і культ святых Барыса–Глеба. Парадокс у тым, што позняе «паганства» з яго духоўнаю відучасцю і бяскроўнымі ахвярамі (ва ўсякім выпадку ў мастацкай рэстаўрацыі пісьменніцы) аказалася бліжэй да Хрыстовай праўды, чым фармальнае хрысціянства валадароў, дзе ваенна-палітычны прагматызм быў заўсёды на першым месцы. Аўра князя Міндоўга адчуваецца ў тэксце і пад тэкстам нават у раздзелах, прысвечаных прыгодам гераіні ў Візантыі і



Рыме. Аднак жа чытач разумее: уладары прыходзяць і ўходзяць, яны - толькі моцныя фрагменты гісторыі. Затое носьбіты вялікай арыйскай традыцыі і народнай культуры (яе ўвасобілі Жывена, Святазар, Вакула, Відэвут і народ, які даў ім жыццё) – вечныя ў зямным (а можа і ў касмічным) вымярэнні.

Гістарычны раман par excellence – гэта «Вяшчун Гедзіміна». Бо мастацкі вобраз князя і ягоныя дзеі – кампазіцыйны цэнтр твору. А вяшчун Лязьдзейка – alter ego аўтара, ад яго імя вядзецца апавяданне, ён жа перажывае ўсе падзеі, адлюстраваныя ў творы. Гэтага язычніцкага прарока няма ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (мусіць не даставала першакрыніц), але ягонае прароцтва запісана ў летапісах. Паводле «Хронікі Быхаўца» ў дні палявання на гары Крывой ля ракі Віліі князь Міндоўг бачыў сон: «Стаіць вялікі жалезны воўк, а ў яго ўнутры раве так, нібы там сто ваўкоў выюць». І вось Лязьдзейка, які быў знойдзены немаўляткам у арліным гняздзе, разгадаў сон: «Княжа вялікі, воўк жалезны азначае, што горад сталечны тут будзе, а тое, што ў яго ўнутры раве, гэта значыць, што слава яго будзе слынуць на ўсім свеце».

Раман «Вяшчун Гедзіміна» – твор паліфанічны, шматгеройны. Але шматгалоссе герояў сфакусіравана на двух полюсах прыцягнення і адштурхоўвання - на носьбіце ўлады - і носьбіце дахрысціянскай духоўнасці, арыйскай паводле паходжання вяшчуна, пасля таксама вярхоўнага жраца Лязьдзейкі. Ёсць у рамане трэцяя сіла – беларускае сярэдневяковае рыцарства ў вобразе палкаводца Давыда Гарадзенскага. У прадмове да твору В.Іпатава патлумачыла сваю мастацкую праблему: «...Мне цікава ўяўляць, якімі ж былі тады адносіны ўлады і таленту, як стасавалася пушкінскае «валхвы не баяцца магутных уладаў» (С.319).

Фактычна ж Лязьдзейка працягвае лінію Жывены - гераіні папярэдняга рамана. Ён – мужчынская іпастась усё той жа народнай і «ведычнай» традыцыі, да таго ж набліжаны да самых вярхоў дзяржавы і саслоўя жрацоў – інтэлектуалаў дахрысціянскай культуры, носьбітаў (зразумела, у залежнасці ад асабістага таленту) эзатэрычных ведаў, парапсіхалагічных здольнасцяў. Гэтыя вешчуны для тагачасных уладароў, для грамадства выконвалі функцыі стратэгічнай прагностыкі і сацыялогіі.

Шматгалоссе рамана цэнтруецца ў экзістэнцыі гэтага ідэальнага героя, бо ён перажывае і па магчымасці карэктуе ўсе падзеі. Як знак свайго таямнічага паходжання Лазьдзейка не растаецца з прыручаным сокалам. Гэтая разумная прарочая птушка - сімвал мудрага, але і надломленага прарока. Як арол – сімвал найвялікшага хрысціянскага прарока Яна Багаслова. У сокала падбіта крыло, а ў ягонага гаспадара – падбітая, кульгавая нага. Лязьдзейка «прыйшоў» у раман і пакінуў яго ў фінале разам са сваёй птушкаю - сімвалам палёту інтуіцыі і думкі паэта, мудраца, мастака.

Асноўныя падзеі адбываюцца ў трохкутніку Наваградак–Трокі–Вільня, пачынаюцца з параднага сюжэта – заручынаў Гедзімінавай дачкі з мазавецкім княжычам. Сабраліся сем сыноў, сярод іх будучыя вялікія князі Альгерд і Кейстут – бацька Вітаўта. На заручынах Марыі былі яе сёстры: сярод іх – адзінаццацігадовая Альдона – будучая ў хрышчэнні Ганна, польская каралева. Быў там і зяць Гедзіміна – трэці герой рамана, славуты гарадзенскі палкаводзец Давыд са сваёй жонкай, Гедзімінавай любімаю дачкой Бірутай. У кампазіцыю да гэтай раманнай прэлюдыі ўпісаўся і Давыдаў рыцар з прыгожай дачкой Гайнай – праўнучкай гераіні першага рамана Жывены. Вось такія паралелі і эстафеты гераіняў у раманнай трылогіі В.Іпатавай.

У эпоху Гедзіміна (вялікім князем быў у 1316-1341 гг.) беларуска-літоўская дзяржава набыла агульнаеўрапейскае прызнанне, падрыхтавала «залаты век» ВКЛ эпохі Вітаўта. Гэта быў час геапалітычнага, духоўнага і рэлігійнага выбару, складаных дыпламатычных «хадоў» (нярэдка – праз дынастычныя шлюбы), дыялогу і суперніцтва паміж хрысціянскімі веравызнаннямі. Да праваслаўя афіцыйна належаў князь, але падтрымліваў саюз з каталіцкімі каралямі і папскай сталіцай, абапіраўся на традыцыйнае язычніцтва ў Літве. У рамане В. Іпатавай гэтыя перыпетыі палітыкі, грамадскага жыцця, рэлігіі і культуры выявіліся ў дзеях, думках і драматычным лёсе Гедзіміна, яго вялікай сям'і, адзінокага інтэлектуала і празарліўца Лязьдзейкі, Давыда Гарадзенскага, па-здрадніцку забітага пасля слаўных перамогаў беларускага героя над ворагамі княства. Помслівыя мечаносцы-крыжаносцы спалілі сям'ю героя – жонку Біруту з дзецьмі.

Радасць жыцця і пакутлівыя смерці, свет і цемра, райскія і пякельныя карціны, намаляваныя ў рамане, эстэтычна дакладная мова апавядання, – усё гэта дазваляе выдзеліць раман як адзін з найлепшых літаратурных здабыткаў сучаснай, і не толькі беларускай, літаратуры.

Заключны твор гісторыка-эпічнага трыптыха В. Іпатавай «Альгердава дзіда» задуманы як раман-хроніка пра знакавыя падзеі ў жыцці мудрага дзяржаўца і выдатнага палкаводца. Як адзначаў М. Ермаловіч у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», за гады Альгердавага княжання (быў спачатку на чале Крэўскага і Віцебскага княстваў, а ў 1345–1377 – вялікім князем ВКЛ) тэрыторыя дзяржавы павялічылася больш чым у два разы. Беларусь у ёй заняла цэнтральнае месца.

Пісьменніцы ўдалося расказаць, як гэта магло адбівацца ў асабістым лёсе вялікага князя і блізкіх да яго людзей. Іхні лёс злучае ў завершаны цыкл некалькі адносна аўтаномных твораў. Ключавой атрымалася аповесць пра першае каханне юных герояў – шаснаццацігадовага Гедзімінавага сына Альгерда і праўнучкі Жывены, дачкі таленавітага вясковага каваля чатырнаццацігадовай Лозкі. Гэты эпілог да ўсёй раманнай сімфоніі – бліскучая ўдача пісьменніцы. Тут сышліся лёсы пяці пакаленняў дзяржаўнай і культурнай эліты нашых продкаў – заснавальнікаў вялікай славянабалцкай дзяржавы і стваральнікаў беларускай культурнай традыцыі: жывая легенда жрыца Ашвінаў (доўгажыхарства Жывены – сімвал віталізму народа і пераемнасці ягонай культуры) са сваім унукам Вольжычам і праўнучкай Лозкай, якая выкавала чароўную дзіду для будучага палкаводца Альгерда, Гедзімін і Давыд Гарадзенскі, сын Жывены – Давыдаў рыцар Рацібор.

У новых ракурсах развіваюцца як самастойныя сюжэты матывы першых двух раманаў, ствараючы ўражанне цыклічнай паўнаты трылогіі. Адным словам – каскад псіхалагічна распрацаваных і пластычна наглядных рэпрызаў-паўтораў ранейшых тэмаў і матываў у новых танальнасцях і ў новым гістарычным часе. Як рэпрыза выглядае перамога Пагоні над нямецкімі рыцарамі ў Жамойціі. У папярэднім рамане «Вяшчун Гедзіміна» яна – толькі эпізод фінальнай часткі твора. Новыя мастацкія функцыі набылі персанажы язычніцкай рэлігіі і народнай міфалогіі: у першых двух раманах яны – пераважна феномены веры і абрадавай сакралізацыі. У заключнай часцы эпічнага трыптыха яны набылі сэнс метафарычных сімвалаў, і гэтая трансфармацыя адпавядала новаму этапу народнай культуры – фальклярызацыі міфаў і абрадаў – тых жа Пяруна, Аўшры, Сварога, Рода і парадзіхаў, Жыценя, Спешкі-Спарышкі, Трасяніцы, Паляндры, Кадуна, блізнюкоў Ашвінаў.

Кампазіцыйнае майстэрства пісьменніцы выявілася ў гарманічным спалучэнні ўсяго цыклу і ягоных аўтаномных частках. Так і ў раман-эпілог «Альгердава дзіда», куды апрача аповесці пра Жывенаву праўнучку Лозку і княжыча Альгерда, увайшлі апавяданні пра паходы вялікага князя на поўдзень і ўсход - «Год 1341: Як тацьу начы...», «Год 1345; Вільня: выгнанне Яўнута», «Год 1350: Клятва на дзідзе», «Год 1363: Паходу «Палі дзікія», «Год 1370: «Да Масквы прысланю сваю дзіду...» Вынікам ваенна-палітычнай актыўнасці была стабілізацыя ВКЛ на ўсходзе, захадзе і вызваленне Украіны ад татара-мангольскага іга.

Сёння В.Іпатава працягвае гістарычны эпас У. Караткевіча, адраджае класічную традыцыю беларускай мастацкай прозы на аснове сінтэзу рэалізму з рамантызмам і ўзвышэнска-мадэрніцкім віталізмам. У жанры гістарычнага эпасу беларуская літаратура «дагнала» іншыя славянскія літаратуры, прынамсі – гістарычны эпас Г.Сянкевіча. Стваральнікам гэтай традыцыі, апрача таленту, спатрэбіліся энцыклапедычныя веды ў гісторыі і народнай культуры. А яшчэ – любоў да Бацькаўшчыны, яе мовы, суперажыванне яе драматычнаму лёсу.

У маім крытычным нарысе закраналіся некаторыя прыкметы эпічнай паэтыкі трылогіі «Альгердава дзіда». Дабаўлю ў заключэнне адну дэталь. Майстры жывапіснага партрэта ўмеюць акцэнтаваць увагу на дамінантных рысах - вокнах у духоўны свет вобразу. Ёсць гэтыя вокны ў партрэтах любімых гераіняў і герояў В. Іпатавай. У жрыцы Ашвінаў валасы – «як залацістая салома» і сіне-блакітныя, фіялкавыя вочы. Гэта – пачатак трылогіі. А вось яе фінал: «Ён [каваль Вольжыч] быў прыгожы – роўны нос, прадаўгаваты разумны твар, на якім свяціліся рэдкай красы фіялкавыя вочы з затоенай хітрынкай і цвёрдасцю...» Мы здагадваемся – унук Жывены. А вось ягоная дачка: тыя ж фіялкавыя вочы, той жа прадаўгаваты твар...

Фіялкавымі вачыма глядзіць на сённяшніх нашчадкаў нашых добрых продкаў маці-Беларусь.



**Ілюстрацыя да рамана «Альгердава дзіда». Мастак Раман СУСТАЎ**

Арсень ЛІС

# Наканаванасць Калымы



Дзядзька Васіль – адзін са старэйшых маміных братоў. Вадаварот палітычных падзей і змен 1917 года падхапіў іх, закружыў, параскідаў па свеце. Даведацца нешта пра кожнага з траіх старэйшых дзядзькоў мог я спачатку адно з успамінаў маці. Час ад часу ў думках сваіх вярталася яна да пражытага ў бацькавым, а для мяне ў дзедавым доме ў Яневічах.

На сталы розум уразумеў, што з гадамі, у сталым веку, яе ўсё больш непакоіў лёс трох старэйшых братоў і сястры Марысі, якая аднаго дня на сходзе 1920-х гг. нелегальна пайшла праз польска-савецкую граніцу на Усход...

Папраўдзе кажучы, Якуба, Івана і Васіля маці ведала няшмат: надта рана і неяк няўзнак пакінулі яны родны дом. Запомнілася: перад тым, як пайсці ў шырокі свет, браты часам горача спрачаліся. Не было ў Юстынавых сыноў адной думкі наконт таго, якім павінен быць грамадскі лад, калі будзе зрынуты царскі трон.

Яшчэ памятала, як хлапцы падраслі, бацька, мой дзед Юстын, будзіў іх на дасвецці, і пакуль ісці ў школу, яны паспявалі адбіць на таку ў гумне ў тры цапы пасад-другі жыта. Баба Агата тым часам рыхтавала сняданне, клала ў вучнёўскія торбачкі камы – бульбу, засквараную салам з цыбуляй.

Бабы Агаты я не застаў пры жыцці. Толькі з гадамі даведаўся ад маці, што ўсе свае даўнейшыя песні гадавога круга яна пераняла ад бабы Агаты. Бабуля спявала іх чавата ў свой апошні зімны год, калі з-за хваробы ўжо не магла падняцца з ложка. Папярэдне пыталася, праўда, што ёй рабіць: маліцца, плакаць або спяваць, і атрымлівала згоду на спяванне. Дзед жа Юстын і сягоння праз паўвека стаіць, як жывы, у мяне перад вачыма: высакаваты, хударлявы, з нямоцным, але з чыста звонкім нават у глыбокай старасці голасам.

З дзедам Юстыным, Яневічамі звязаны ў маёй дзіцячай душы, на цяперашні розум, уяўленні пра нейкі іншы, адметны ад роднай хаты свет. А пачынаўся ён, той блізкі і далёкі, каліст загадкавы свет ад высокай крытай гонтай брамы ў вузкай Яневіцкай вуліцы. З-за той узнёслай шчытовай брамы дзедаў двор здаваўся мне крэпасцю. Хоць, папраўдзе, быў гэта звычайны сялянскі старабеларускі двор, з брукаваным падворышчам і хатай на два канцы. У меншай яе палавіне, асобна ад сям'і, жыў дзед Юстын, з верстаком пры акне ды розным сталярскім інструментам. Маці ўспаміналa (я ўжо не застаў той рэліквіі): на сцяне пры вушаку ў большай палавіне хаты вісеў бізун. Не помнілася родная, каб бацька калі-небудзь браў яго ў рукі: прадмет пакарання значыўся на відным месцы дзеля пастраху – у сям'і расло ажно дзесяць дзяцей, пяць хлапцоў і пяць дзяўчат.

Маці мая была сярод Юстынавых дачок передапошняй, толькі некаторыя эпізоды з жыцця старэйшых братоў прайшлі ў яе на вачах. Адзін звязаны з лёсавызначальным выпадкам у жыцці маладзейшага з братоў, Васіля.

Было гэта летам 1920 г. Маці тады толькі бралася пад дзеўчынёху. Апошні год ажно пра чатырох сыноў Юстынава сям'я не мела ніякіх звестак. Як пайшлі на тую вялікую сусветную вайну Якуб, Іван, Грышка, а Васіль з Маладзечанскай семінарыі з`ехаў у эвакуацыю ў Расею, так і не азваліся. І вось аднаго дня, калі ў Смаргонска-Ашмянскія ваколіцы ўжо заступілі палякі, надвячоркам Васіль паказаўся на парозе.

У паношаным шэрым шынелі, зарослы, здарожаны... Ён аб нечым перагаварыў з бацькам на яго палавіне і хутка сабраўся ў лазню – якраз была субота. Не прайшло і паўгадзіны, лічы ўслед за ім, у хату, ціха пастукаўшы, уваліся тры незнаёмцы. Можна толькі здагадвацца, што адказаў дзед Юстын ім пра сына. Адно хутка паставіў на стол перад прышлымі мядніцу з пляйстрамі мёду ў вашчыне. Малодшай, якая аказалася пад рукой, загадаў прынесці з сянец сыру. Пераняў яе з сырам пры дзвярах, ціха шапнуўшы: «Скажы Васілю, па яго прыйшлі...» Бегма кінулася да лазні, што была непадалёк, у надрэчны. Прыбегшы, збянтэжылася: мыліся ж мужчыны. Раздумваць аднак не было калі. Не помніла, як падступілася да глухаватага, закуранага акенца ў сцяне, гукнула ў самую шыбіну: «Васіль, Васіль!..» Брат кумельгом выскачыў у прылазнік, у момант апрануўся і кустамі падаўся ў бок Заскавіч, на Маладзечна...

Неўзабаве ажно на дваццаць гадоў усталявалася польска-савецкая граніца, і Юстынавы нічога не ведалі пра трох старэйшых сыноў. Азвалася была пару разоў лістамі з Мінска старэйшая дачка, якая сышла за мяжу за сваім каханым Алесем Салагубам, ды і тая хутка змоўкла. Даходзілі адно розныя чуткі-здагадкі пра ўцёкшую адсюль, з Заходняй Беларусі, моладзь. Праўду кажучы, яны не суцішалі...

Адгрымела і Другая сусветная вайна. У веку старэйшым за дзевяноста адышоў на вечны спакой стары сталяр і пчаляр дзед Юстын. Так і пайшоў з жыцця, не даznаўшыся нічога пра сваіх першынцаў-сыноў ды яшчэ і чацвёртага, самага малодшага, Сцяпана, мабілізаванага на польска-савецкую вайну ў верасні 1939 г. Той таксама не азываўся, хоць дзе-хто з шырокай Залескай ваколіцы, мабілізаваных на тую кароткую вайну, паспелі вярнуцца, хто з савецкага, а хто з нямецкага палону.

Ажно летам 1976 г., спарэй чым праз паўвека з таго часу, як Васілю ўдалося ўцячы літаральна з-пад носу ў польскай палявой жандармерыі, ён аб`явіўся ў Яневічах.

Бачу, як набліжаецца да нашай Залескай бацькавай хаты па падвор`і. Крыху вышэй сярэдняга росту, зрэшты ўжо крыху прыцісн́уты цяжарам год. Пабліскае голенай галавой. Вядзе вачмі па сустракаючых і спыняе позірк на маёй маці. Ці пазнае ў амаль сямідзесяцігадовай жанчыне сястру, тую, якую апошняй з роду бачыў яшчэ дзяўчынкай пры лазні?

Побач з дзядзькам ступае прыкметна маладзейшая за яго жанчына, трывалага сялянскага целасклады, смуглявая. Прадстаўляецца родзічам як жонка, Серафіма.

Пра нейкія рэаліі з адысеі дзядзькі Васіля мне ўдалося пачуць ад яго самога. Часткова, на жаль, ужо па яго ным ад`ездзе ды сыходзе з жыцця - даведацца са старонак мясцовых газет у Смургонях і Ашмяне. У архіўных аналах, што да грамадска-палітычнага жыцця колішняй Ашмяншчыны, часу пераломных 1910–1920-х гг., матэрыялах, апублікаваных краязнаўцам Аляксандрам Каранеўскім, на дзіва часта згадваюцца імёны Якава і Васіля Дудкаў.

Вось коратка з пачутага ад былога ваеннага разведчыка. Скажу наперад, нічога дэтэктыўнага. Проста аповед пра лёс чалавека, блізкага сваяка, дзядзькі Васіля. Пачну з невялічкай, так бы мовіць, экспазіцыі, дарэчы, абсалютна дакументаванай.

Смаргонскі рэгіён толькі пачаў ачуньваць ад грому-тлуму франтоў Першай сусветнай вайны, якая тут моцна далася ў знакі людзям і самой зямлі. Апошнія месяцы кайзераўскай акупацыі ён, можна сказаць, поўніўся падпольнымі групамі. Асобныя з іх арганізаваліся ў партызанскія дружыны. Па камандзе зверху ўсе яны ў адзін час аб`ядналіся ў адзіную падпольную структуру пад назовам «Ашмянскі падраён», і ўзначаліў яе Дудка Якаў, па-хатняму Якуб.

Якуб – Яшка – Якаў яшчэ ў 1916 годзе служыў на фронце ў сапёрах пад літоўскім мястэчкам Араны, уступіў у РСДРП і падзяляў погляды скрайніх у яе шэрагах.

Не паспела растаць кайзераўская армада ды сысці шэрым туманом з тутэйшых земляў, як у студзені 1919 г. быў створаны Ашмянскі рэўком, а ў лютым адбыўся першы з`езд саветаў. У выбраным ім укоме Якаў узначаліў асобы аддзел, так сказаць, мясцовае ЧК. У старэйшага Дудкі не было паважнай адукацыі, скончыў адно царкоўна-прыхадскую школу ў Міхнічах. Ведаючы сваю асветніцкую слабінку, ён неадкладна, пісьмом, выклікаў са Смаленска малодшага брата. Васіль, пасутнасці яшчэ гімназіст, трапіўшы на першую канферэнцыю ашмянскіх бальшавікоў, як граматнейшы сярод грамады быў абраны сакратаром павятовага камітэта.

Іх сястра, мая маці, пазней каменціравала факт удзелу старэйшых братоў у канструяванні ашмянскага саўдэпу проста: «Калі б Якуб не ўцягнуў Васіля ў палітыку, дык абодва былі цяпер жывыя...» Гаварылася яшчэ да таго, як Васіль пасля больш чым паўвекавога небыцця аб`явіўся ў Яневічах.

І яшчэ адна згадка, звязаная з дзядзькамі. Было да таго, як прыехаў з жонкаю Васіль.

Неяк раз маці, якая хадзіла нечага на станцыю ў Залессе, вярнулася, загадкава ўсміхаючыся. Было відаць, што нешта карцела ёй расказаць. Аказваецца, вяртаючыся дамоў, выпадкам разгаварылася з Міхасём Дудкам, які пабудаваўся ў пачатку Косага рова як ісці ў наша Вётхава са станцыі. Помніцца высакаваты, чорны, як грак, строгі такі той Міхась. Маці сказала нешта яму і пажалілася на нейкія недарэчнасці. Хапала іх у нашым агульным жыцці па вайне і пазней.

Фальш жа ў асобным чалавеку і грамадскую маці прыродным розумам простага чалавека адчувала дасканала. Разы два, праўда, не больш, чуў ад яе пра некага канкрэтнага – «фальшывы чалавек», часцей, у іншых абставінах - «пусты чалавек». Дык вось, той раз Міхась Дудка на яе нараканні адказаў нечакана: «Чаго ж ты наракаеш? Твае ж браты надта прагнулі гэтага парадку, памагалі ўсталяваць яго тут. Ты, мусіць, не памятаеш: была яшчэ замалая. А дзе яны цяпер, – казаў з націскам. – І след іхні прастыў...»

«Прыкусіла язык, – казала маці, маўчу. А што скажаш, – гаварыла, паціскаючы плячыма. – Што скажаш?»

Наколькі помню, Міхася Дудку ў фальшы, мане маці ніколі не абвінавачвала. Не было прычыны.

***

Пасля таго, як дзядзька Васіль адгасціваў на сваёй малой радзіме на Смаргоншчыне, аднаго дня мы ідзем з ім у Дзяржаўны камітэт бяспекі на праспекце ў Мінску. Было ў яго адно пытанне...

На плошчы Свабоды дзязька ківае мне на дом з мемарыяльнай дошкай, дарэчы, на рэдкасць сціплай у параўнанні з размешчаным побач барыльефам Мураўёва-апостала.

«У гэтым будынку са студзеня 1919 г. размяшчаўся Часовы Рабоча-сялянскі ўрад БССР...» – значыцца на сцяне дома, дзе члены Ашмянскага укома пасля іх хапатлівых з-за наступу палякаў пярэбараў у Мінск былі прыняты Уншліхтам, Кнорыным, Чарвяковым. Камітэтчыкаў-ашмянчукоў накіравалі куды каторага. Васіль Дудко атрымаў накіраванне ў семнаццатую запасную дывізію Чырвонай арміі. Камандаваў ёй Мардвінаў, камісарам быў Шлей. Дывізія абараняла подступы да Мінска.

Ваявалася Васілю спачатку нядоўга ды не вельмі шчасліва. Пад Радашковічамі рота, у якой ён служыў, трапіла ў акружэнне. Легіянеры закідалі чырвонаармейцаў, узброеных сціпла, гранатамі. Васіль, аглушаны выбухамі, трохі кантужаны ў ліку 19 байцоў трапіў у палон і апынуўся ў лагеры інтэрнаваных пад Беластокам. Праз два месяцы палону ўдалося ўцячы і дабрацца ў Яневічы, унікшы пасткі, пастаўленай палявой жандармерыяй. З дапамогай чыгуначніка Міткі Дудко (была зямляцкая і сацыял-дэмакратычная салідарнасць) дабраўся да сваіх.

Працяг на стар.15

Вось ляжаць яны перад атакай, ананімныя ўдзельнікі Першай сусветнай вайны. У шмат каго з іх наперадзе ілюзіі будаўніцтва справядлівага грамадства і бязлітасная рэальнасць Калымы



Алесь ЧОБАТ

# Над Нёманам і Гаўяй

## Савецкая партызанка і Армія Краёва – баявыя кантакты

Калі трапіў на стокі тых яцьвягскіх рэкаў на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, пад час прагулянак у надбярэжным сасновым бары ўбачыў... добра захаваныя кулямётныя гнёзды з жалезабетону – глядзелі яны проста з правага берага Нёмана на левы. Асцярожна, па-сапёрску, прытыкаўшы тынінай дно (ці мала што можа ляжаць з апошняй вайны?!), спусціўся ў акоп – сектар абстрэлу быў ідэяльны, метраў па дзвесце налева і направа...

Але стоп! Ніякіх паважных баёў ні ў 1941-м, ні ў 1944-м тут не было: савецка-нямецкі фронт праляцеў туды і назад міма гэтых мясцінаў. Тут з лета 1941-га да лета 1944-га, пад нямецкай акупацыяй, ішла «свая вайна», цягнулася супрацьстаянне дзвюх партызанак: на правым беразе дамінавала польская АК, на левым – савецкія брыгады Цэнтральнага Штаба партызанскага руху ў Маскве. З лета 1943-га, пасля гібелі Сікорскага, нямецкіх раскопаў у Катыні і разрыву Сталіна з Польскім Жондам у Лондане, гэта супрацьстаянне мела перарасці ў савецка-польскую вайну пад нямецкай акупацыяй.

І вось гэтыя `кулямётныя гнёзды над Нёманам – з польскага берага на савецкі... То была такая вайна ці яе не было?

### Вёска Біскупцы, 1991 год

– Мікалай, з кім ваявала тут Армія Краёва? З немцамі, ці з саветамі? -

– З немцамі.

– А з саветамі?

– А саветы за Нёманам сталі, той іх Матросаў. Толькі на чыгунку ад Ліды праз нас хадзілі, на нямецкія эшалоны.

– Але ж хадзілі да чыгункі там, дзе стаялі палякі. То, можа, яны разам на немца хадзілі, палякі з саветамі?

– Ці ты здурэў?! – абураецца Мікалай.

– Але як можна перайсці Нёман і 30 км ісці «польскім лесам» да нямецкай чыгункі, а потым назад – і не быць з палякамі ў адной кампаніі?! – не адступаю я.

– Слухай, – абураецца Мікалай, – ноччу будзіў кожны – і я вадзіў кожнага! Жандармаў, паліцаяў, саветаў, літоўцаў, немцаў, палякаў, «уласаўцаў»... Спытай у Матросава, кажуць, ён жывы і ў Гродне жыве.

– І палякі дурныя былі, і саветы, – дадае Мікалаева жонка, Рэня, – адно іх Камендант быў пры памяці ды гэты Матросаў.

– Камендант усіх меў у мордзе, – згаджаецца Мікалай, – ягоныя не рабавалі.

### Інфармацыя да намыслу

«Камендант» – гэта камандзір VIII УБК з Варшавы Баляслаў Пясэцкі (псеўданім «Сабалеўскі»), які шчасліва прывёў свой батальён тыламі немцаў ажно пад Ліду зімой 1943/44 (першыя сем батальёнаў загінулі).

«Матросаў» – гэта начальнік штаба савецкай партызанскай брыгады, сапраўднае прозвішча Марцірасян, у зрушчанай форме Марціросаў. За савецкім часам... выкладаў у вышэйшых вучэльнях Гродна марксізм-ленінізм. На пачатку 90-х быў на эмерытуры і ... адчыніў прыватную юрыдычную кансультацыю (poradnia pracounicra). Не былі мы знаёмыя, але з прычыны майго палітыкавання тады я чуў пра яго, а ён пра мяне.

(Баляслаў Пясэцкі шчасліва пражыў партызанку, пасля атакі на Вільню ў аперацыі «Вострая Брама» вывеў рэшткі сваіх людзей назад у Польшчу... і пасля вайны быў кіраўнічым дзеячам РАХ у Варшаве!).

### «Матросаў»

Кантора Марціросава-Марцірасяна называлася «Архивист», і я накруціў яго нумар проста з тэлефоннай кнігі, маўляў, пішу вось пра Армію Краёву на Беларусі...

– И что вы просите? – крыху іранічна спытаў Марціросаў – Подобрать архивный материал?

– Бачыце, я шукаю аднаго афіцэра савецкай партызанкі. У вёсках над Нёманам і Гаўяй яго добра памятаюць пад прозвішчам Матросаў.

На нейкае імгненне паўстала ціша.

– Это я Матросов, – проста сказаў ён. – Так что вы хотите?

І мы дамовіліся сустрэцца праз два дні.

– Александр Федорович, – сказаў ён адразу, – не буду скрывать, что я не разделяю ваших убеждений. Я воспитан коммунистом и останусь им до смерти.

– Мяне цікавіць Армія Краёва, – сказаў я. Так мы і гаварылі далей, ён па-руску, я па-беларуску. – Ці не ведалі вы афіцэра Баляслава Пясэцкага? Бо ён быў у тым жа месцы і ў той жа час, толькі вы на левым беразе, а ён на правым.

– Польского офицера Песецкого я не знаю.

Сказаў спакойна, але як адрэзаў. «Ці ўжо па размове?» – падумаў я і задаў апошняе пытанне.

– У вёсках ён вядомы як Камендант. А ў партызанцы меў псеўданім «Сабалеўскі», камандаваў варшаўскім батальёнам.

І тут адстаўны палкоўнік-дысервант мяне ашаламіў.

– Коменданта Соболевского я знал очень хорошо. На мой взгляд, это был лучший польский офицер в моём районе. И мы хорошо работали, как соседи.

### Дзве вайны

Тая савецка-польская вайна пад нямецкай акупацыяй, «вайна за Крэсы» мае свой пачатак 22 чэрвеня 1943 года, калі была запушчаная ў аперацыйна-штабную работу сумна вядомая пастанова ЦК КП(б)Б «Пра ваенна-палітычныя задачы дзейнасці ў заходніх абласцях Беларусі», дзе было сказана, што «заходнія вобласці – гэта неадрыўная частка БССР» і што тут людзі могуць быць толькі тыя, хто «кіруецца інтарэсамі СССР», а дзеянні тых, кім кіруюць «польскія буржуазна-нацыяналістычныя цэнтры», гэта «незаконнае ўмяшанне ў інтарэсы нашай Айчыны».

І з восені 1943 года ўжо дайшло да збройных канфліктаў польскай і савецкай партызанкі (тады ж Абвер... пачаў шукаць кантакты з палявымі камандзірамі АК – і знайшоў такія!). А варшаўскі VIII УБК каменданта «Сабалеўскага» паявіўся пад Лідай, на правым беразе Нёмана, менавіта напрыканцы 1943 года.

Агульная канцэпцыя польскага камандавання на Крэсах, за ўвесь час нямецкай акупацыі, звадзілася да разбудовы падпольнай сеткі, выведу, збярэжання сваіх людзей, скрытага незапашвання рэзерваў і зброі – адным словам, do opanowania terenu. Агульная ж канцэпцыя савецкага камандавання з восені 1943 года, па-за ўтрыманнем так званых «партызанскіх зонаў» (дзеля кантролю над цывільным насельніцтвам), арыентавала сваіх палявых камандзіраў на «рэйкавую вайну», альбо бесперапынныя дыверсіі на нямецкай чыгунцы. Стратэгічная чыгунка Ліда–Маладзечна была, аднак, цалкам у «польскай зоне», падмацаванай нібы наўмысна яшчэ і варшаўякамі з VIII УБК каменданта «Сабалеўскага». А бліжняй да тае чыгункі была менавіта «брыгада Матросава» з так званага Баранавіцкага Злучэння, якая ўтрымлівала левы бераг Нёмана – і менавіта на Стоках, Нёманы і Гаўі. Здавалася б, тут і мела быць тая «савецка-польская вайна», пра якую сведчылі бетонныя кулямётныя гнёзды на Нёмане.

### Палкоўнік Марціросаў:

«... мне пачалі скідаць парашутыстаў і грузы. Былі гэта падрыўнікі і радысты. Ну, і кантралёры з НКВД, ясная справа. Дальні вывед быў добра інфармаваны і перадаваў на сутКідвое наперад, праз радыёстанцыю, графік руху нямецкіх эшалонаў. Мая брыгада мела дастаўляць маскоўскіх дыверсантаў на чыгунку ў акрэсленым месцы і часе – і вяртаць назад. Эшалон меў быць вызвалены «любой ценой». Ніхто не зважаў на тое, што мне да чыгункі 30 км і двойчы маю перайсці Нёман, няхай сабе ў тым месцы і вузкі. Масква рабіла выгляд, што не ведае, чаму я не магу заняць правы, «польскі», бераг, бо ў галовах палітрукоў ... не было палякаў. Тым часам немцы зарыентаваліся і кінулі на Нёман сваю фельд-жандармерыю і waffen SS: панаторкалі на беразе мінаў, накруцілі дрот, нарабілі агнявых кропак з бетону (sic!) – і



Нёман я амаль заўжды пераходзіў з боем.

З улікам групы прарыву, баявой аховы, групы атакі на чыгунцы etc мне прыходзілася кожны раз пасылаць з двума-трыма групамі маскоўскіх падрыўнікоў да паловы ўсяе брыгады, альбо 300–350 жаўнераў. Натуральна, што дзеля хуткага маршу мабілізаваліся фургоны з вёсак са сваімі коньмі. Але гэта выключна мае праблемы вайны з немцамі. Бо самае галоўнае было, каб дамовіцца з палякамі – бо пры такім раскладзе ваяваць яшчэ і з АК было б самагубствам...».

### «Матросаў» і «Сабалеўскі»

«... людзі «Сабалеўскага» практычна ачысцілі ўвесь раён ад Нёмана да чыгункі ад немцаў, дайшло да перастрэлак – на шчасце, без вынікаў – паміж нашымі патрулямі. Мы хутка скантакталіся, ён быў троху нервовы і мне відавочна не верыў: маўляў, я не пераходжу Нёман, а ты пераходзіш. Я падмануў яго, натуральна схаваўшы той ідыёцкі загад «раззброіць палякаў, якія не стануць пад нашае камандаванне», і неяк пераканаў, што мяне цікавіць толькі чыгунка і нямецкія эшалоны на Усходні Фронт. Крыху павагаўшыся, той папрасіў... пра амуніцыю і медыкаменты; я адразу адаслаў, колькі мог, і перадаў у Маскву пабольшаную заяўку для сваіх патрэбаў – злучэнне наша мела на той час ажно чатыры палявыя аэрадромы. І тут «Сабалеўскі» зрабіў такі нечаканы ход, што я спачатку аступянеў. Ён прапанаваў ... разам правесці сярод мясцовых «частичную мобилизацию»...

Тут і я мала не свіснуў. Бо чамусьці адразу зразумеў, што гэта такое і для чаго.

### «Частичная мобилизация»

«...гэта прыдумаў «Сабалеўскі». Мы ўзялі кожны па мардавароту-кулямётчыку і ачатырохконь паехалі праз хутары і малыя лясныя вёскі. Там распараджаўся ізноў «Сабалеўскі», бо вёскі былі ягоныя, альбо польскія, каталіцкія.

– Так, гаспадар. Вось у цябе чатыры сыны, то мы бярэм двух старэйшых: адзін пойдзе да мяне, другі да саветаў. А да каго каторы, хай самі выбяруць... А ты жыві спакойна і нікога не бойся! Сваё будзеш мець!

Тыя «частичномобилизованные» пайшлі да мяне ў разведку і да «Сабалеўскага» на пастарункі. Цяпер мы не мусілі дамаўляцца наперад, калі менавіта я буду пераходзіць Нёман і праз польскую зону ісці да чыгункі – і я выходзіў на марш па першай радыёкамандзе з Масквы; адной перашкодай была нямецкая фельджандармерыя, але нават жандармы, калі зарыентаваліся, што я знюхаўся з палякамі, кінулі пазіцыі на Нёмане (вось чые там былі кулямётныя гнёзды! – **А.Ч.**) і вярнуліся ў Ліду... І вось ноччу мы пераходзім Нёман, збіраем па дарозе ў вёсках фурманоў з коньмі і рушым на «польскі лес» – і ў тым лесе, ноччу, замест партызанскай цішы, камандзір майго патруля, «частичномобилизованный» поляк, раве на ўсю глотку:

– Вацак, не страляй! То я, Вітак! Вяду саветаў на калейку...

– Вітак, то ты?! – выглядае з-за сасны Вацак.

– Кажу табе, я! На калейку ідзем...

– Ну, то ідзіце. Зараз пашлю на кані хлопца на дальшы пастарунак, каб па вас не стралялі...

Так адна партызанка «не бачыла» другой. Так адна партызанка з другой не ваявала. Пазнавалі адны другіх «па-свойску», без пароляў і водгукаў...»

### «Рэйкавая вайна»

«...на маім участку стан чыгункі дазваляў ганяць вайсковыя эшалоны з хуткасцю нават 70–80 км у гадзіну. Інжынер у Маскве абліччыў, што зарад тола ў 15–20 кг проста выкідае паравоз далоў з рэйкаў – і далей вагоны ляцяць за ім, лезуць адзін на адзін і разбіваюцца ўшчэнт. Зарад тады быў просты мяшок, пласкі, у які зашывалі кубікі «мыла» – яго клалі паміж рэйкамі «на шомпал», альбо падрываўся ён ад ручной гранаты, колка якой надзявалася на вінтовачны шомпал (шомпал выбіваў паравоз, калі наязджаў на гэтую «міну»). Альбо – трэба было скрытна падысці да чыгункі, дачакацца цягніка і пад носам машыніста, каб не паспеў затармазіць, дабегчы 300 м (немцы абапал дарогі высеклі лес) з кустоў, залезці на насып, разагнаць ахову (вартаўнікі стаялі праз трыста–чатырыста метраў!), паставіць «міну» і куляй ляцець назад. Пакуль самога не дагнала куля альбо абломкі эшалона пасля тваёго выбуху... А ўсе гэтыя патаемныя перапаўзанні, падкопванне рэйкі за лічаныя секунды, пакуль вартаўнік ідзе ў другі бок, маскіроўка (!!!) той міны і адпаўзанне ў кусты з пракладкай дроту(!!) да пульта кіравання і потым паварот пусковай рэйкі «на вока», каб міна выбухнула роўна пад паравозам – дык вось усё гэта савецкае кіно, Аляксандр Фёдаравіч, маць-перамаць і мачаху разам! (Марціросаў вылаяўся адзін-адзіны раз за ўвесь дзень; выраз твару яго на момант зрабіўся, як ноччу на падрыве чыгункі.) На гэтым «кінасцэнарыі» ў мяне першыя дзве групы загінулі на рэйках без толку, а потым я сказаў: баста!

Але так, «на шомпал», мы ўшчэнт разбілі толькі ... два ці тры першыя эшалоны. А потым другі інжынер, з Берліна, абліччыў з другога боку, што калі нагружаны цягнік будзе ехаць не 60 км у гадзіну, а толькі ... сорак, то мая «міна» найбольш вываліць паравоз і адзін-два вагоны, а ўсе астатнія будуць спакойна стаяць на рэйках. На другі дзень прыедзе з Ліды нямецкая рамонтная брыгада і за лічаныя гадзіны ўсё паправіць. А калі я нават і вывальваў танкі ці гарматы... то немцы іх выцягвалі, грузілі і везлі далей на фронт.

Канешне, у іх ламаўся графік і таму падобнае. але страты нямецкія былі цяпер меншыя на парадак...

Працяг на стар. 14

# «Мне моцна пашчасціла...»

Уладзімір Вішнеўскі – вядомы мастак-графік, віцэ-прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва. Мноству людзей, якія нават ніколі ў жыцці не наведалі ніводную мастацкую выставу, знаёмыя з яго творчасцю дзякуючы кнігам, якія Вішнеўскі ілюстраваў. Рэдакцыя звярнулася да мастака з просьбай даць «Новаму Часу» інтэрв'ю.

**– Спадар Уладзімір, звычны вобраз мастака – майстэрня, станок, мальберт у руках. Але не выкладчыцкая кафедра. Ці спрыяе навучанне маладых уласнай творчасці?**

– Праца ў Акадэміі вымагае шмат высілкаў, якія практычна не аплочваюцца. Нават «прэзідэнцкіх» сто даляраў не атрымоўваем. Але мы працуем таму, што некалі нашыя настаўнікі дзеля нас таксама ахвяравалі часткай сваёй творчасці. Таленавітай моладзі шмат, і гэты працэс не перарвеш і не пакінеш на заўтра. На аддзяленні графікі зараз вучыцца каля 30 чалавек. Традыцыя браць шэсць чалавек на курс захавалася яшчэ з савецкіх часоў. Таксама гэта абумоўлена тым, што майстэрні вельмі малыя і цесныя. З плошчамі складана, і ніякага пашырэння не прадбачыцца, хоць у бліжэйшы час плануецца, што адукацыя ў Акадэміі будзе платная.

**– А ці ёсць дзе ўладкавацца на працу выпускнікам Акадэміі ў сённяшніх умовах?**

– Ёсць афіцыйнае размеркаванне, але натуральна, што патрэба грамадства ў мастаках-графіках, калі людзі думаюць, як выжыць, невялікая. У тэатры ходзяць мала, на выставы – толькі прафесіяналы, паглядзець сваіх сяброў. Шмат хто ўцякае за мяжу. Гэта можна зразумець, бо нашыя выпускнікі нарадзіліся як творцы, ім трэба рэалізавацца. Вельмі шкада, што яны з'язджаюць, бо мы рыхтуем іх для сваёй радзімы, для дзяржавы, для свайго народа. А калі студэнты выходзяць пасля Акадэміі ў іх – ні майстэрні, ні працы. Таксама трэба мець і кватэру, бо жыць з бацькамі і творча працаваць немагчыма. Трэба зарабіць нейкія грошы, уладкаваць свой быт, каб рэалізаваць сябе як творцу і як асобу.

Пачынаючы са студэнцтва многія удзельнічаюць у розных замежных выставах, атрымоўваюць дыпломы, і ,натуральна, маюць прапановы, каб працягваць навучанне. Моладзь у нас таленавітая і атрымлівае добрую адукацыю.

**– Ёсць меркаванне, што нашыя мастакі карыстаюцца вялікай папулярнасцю і аўтарытэтам на захадзе, бо там, як кажуць, традыцыі рэалістычнай мастацкай школы, праз шматлікія творчыя пошукі XX стагоддзя, былі фактычна страчаныя. Ці так гэта на самой справе?**

– Сапраўды, тыя ж немцы кажуць, што пасля вайны яны адкінулі здабыткі мастацкай школы 1920–30 гг. і пайшлі па плыні, так сказаць, «дэмакратычнай», – гэта значыць, хто што хацеў, тое і маляваў. Тым часам, традыцыйная рэалістычная школа была адкінута. У нас яна захавалася. Хоць, трэба сказаць, што ў той жа Германіі каля 20 розных мастацкіх акадэмій, ёсць больш блізкія к класічным традыцыям, ёсць больш сучасныя.

Нашым студэнтам вельмі лёгка, правучыўшыся два, тры гады ў нас, паступіць туды. Але ў той жа час вельмі цяжка прабіцца, заняць месца побач з немцам. Тое ж самае тычыцца заказаў і продажу твораў. Там вельмі моцна абараняюць свой рынак і сваіх грамадзян.

**– Ці ёсць прымусовае размеркаванне для выпускнікоў Акадэміі?**

– Раней была сістэма камбінатаў. Мастацкія камбінаты «ляпілі» камуністычную ідэалогію для грамадства, – «ленінаў», «чырвоныя куткі» і г.д. Гэта, канешне, была не творчая праца, але рэальны заробак для мастака, магчымасць творча працаваць у вольны час. Таму тады мастакам у некаторым сэнсе было прасцей, і некаторыя добра жылі. Але, з іншага боку, існаваў уціск творчай асобы, з-за якога некаторыя так і заставаліся не «развітымі» ў творчым плане. Многія так і памiралі непрызнанымі, бо тое, што іх хвалявала, не ўвасаблялася ў творах, а рабілі яны ўвесь час толькі камбінатаўскія замовы.

**– Вядома, што вясковыя школьнікі адукаваныя горш за гарадскіх. Працэнт студэнтаў з вёсак у Акадэміі, пэўна, зараз меншы, чым у гады вашага студэнцтва?**

– На мой погляд, значна меншы. Па-першае, вёска вымерла. Ужо не вымірае, а вымерла. Я сам вясковы, нарадзіўся ў вёсцы Балочыцы Слуцкага раёна. Прыязджаю да бацькоў, а там праз тры пустыя хаты адна, дзе дажываюць старыя. Моладзі няма, уся з'ехала. Мае бацькі некалі прачыталі ў газеце, што абвешчаны набор у мастацкую школу, а я любіў маляваць. Яны мне прапанавалі: «Калі хочаш, завязем цябе на экзамены ўлетку». Я паступіў у рэспубліканскую школу-інтэрнат, куды набіралі дзяцей менавіта з вёсак, бо ў горадзе і так былі мастацкія школы. Дзякуючы гэтаму я трапіў у вельмі жывую творчую атмасферу. Школа давала вялікі плён. Практычна ўсе паступалі вучыцца далей. Сёння гэтая школа-інтэрнат называецца Каледжам імя І.Ахрэмчыка. Яна вельм змянілася, і вучацца там амаль адны мінчане.

Зараз ужо многія бацькі арыентуюцца, што прафесія мастака не дасць іх дзецям вялікага заробку, будучае іх не акрэсленае. Але рамантычных людзей таксама шмат. Шмат людзей, якія лічаць, што не ў грошах толькі шчасце. Творчы чалавек столькі знаходзіць для сябе ў жыцці, што прагматыка гэтага свету адыходзіць на другі план. Чалавек стварае свой свет і жыве ў ім, у сваіх творах.

Моладзь, якая прыходзіць да нас, значна адрозніваецца ад сваіх аднагодкаў, якія не дакрануліся мастацтва, якіх фармуе двор, вуліца. Яны з дзяцінства цікавяцца мастацтвам, займаюцца, малююць. У іх менш часу на вуліцу, на дурныя гульні, яны больш чыстыя. І напрыканцы навучання яны ведаюць, што нішто іншае іх не прывабіць. Як і мяне ў свой час цікавіла гісторыя, літаратура, я стараўся глыбей і больш чытаць, але адкідаў матэматыку, бо ведаў, што мне яна не спатрэбіцца. Я любіў маляваць, і нейкая выпадковасць, гэтая абвестка ў газеце, змяніла мой лёс.

А застаўся б на вёсцы - быў бы цяпер спіты механізатар, якіх сёння шмат сярод тых, хто не з'ехаў адтуль у свой час.

**– Якая ваша любімая тэхніка ў графіцы?**

– У асноўным я працую ў афорце, але таксама раблю літаграфіі, займаюся жывапісам, скульптурай. Планаў многа, але магчымасцяў мала, бо для працы трэба асобнае памяшканне. Для мяне майстэрня таксама і маё жытло.

**– Як вы думаеце, ці можа творца, мастак быць аднолькава плённым на радзіме і за мяжой?**

– Нехта можа быць і здолее адчуць нейкі іншы народ, і адкрыць там для сябе крыніцу натхнення. Але яшчэ Скарына пісаў, што нават кожная птушка ведае свае гнёзды, жывёла свае мясціны, ну а чалавека тым большае замілаванне сваёй радзімай.

Асабліва шмат для творцы закладаецца ў дзяцінстве. Вялікае значэнне маюць тыя куточкі, якія запалілі сэрца ў дзяцінстве і пакідаюць уражанне на ўсё жыццё. Гэта ўвесь час вяртае чалавека на радзіму. Я ведаю многа людзей, якія не могуць працаваць за мяжой, ездзяць, глядзяць і вяртаюцца. Радзіма ёсць радзіма, і людзі не могуць без яе жыць.

**– На вашу думку, хто часцей у мастацтве дасягае поспеху: таленавітыя, як кажуць «ад прыроды» ці працаздольныя і мэтаскіраваныя творцы?**

– Я б сказаў, што поспеху дасягаюць людзі характарам. А таленавітыя, з добрай школай, прафесіяналы, аднак бязвольныя проста знікаюць. Многіх з'ядае быт, штодзённасць.... Талент не жыве без волі і мэты.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**







Фота Ул. ШЛАПАКА

## «Вольную сцэну» задушыў фінансавы ўціск

Напрыканцы кастрычніка ў мінскім Доме літаратара прайшоў апошні спектакль «Вольнай сцэны». Адзіны беларускамоўны незалежны тэатр завяршыў сваю сцэнічную дзейнасць вядомым спектаклем па п'есе Аляксея Дударава «Прынц Мамабук».

Асноўная прычына закрыцця тэатра, гаворыць стваральнік і кіраўнік «Вольнай сцэны» рэжысёр Валер Мазынскі, - гэта агульная сітуацыя ў краіне. Незалежны беларускі тэатр фактычна задушаны непамернымі дзяржаўнымі паборамі. «Арэндная плата вялікая. А цяпер Міністэрства культуры яшчэ адзін хамут павесіла – трэба купляць пасведчанне на кожны спектакль. Гэта ў фінансавым плане яшчэ больш страшна, чым тая ліцэнзія, якую трэба было набываць раней», – паведаміў Мазынскі, адказваючы на пытанні Радыё «Свабода».

За правa паказу кожнага спектакля незалежнаму тэатру трэба заплаціць болей за 300 тысяч рублёў. Прыкладна столькі ж – за арэнду памяшкання. А яшчэ падаткі. Каб зарабіць такую суму, білеты павінны каштаваць як мінімум 20 тысяч рублёў. Такія грошы беларускі глядач плаціць не можа.

На пытанне, что будзе далей, Валер Мазынскі з сумам адказаў: «Гэта вельмі цяжка. Цяжка нават думаць пра гэта, не тое, што гаварыць... У мяне ўзнікла жаданне проста развітацца з тэатрам. Я сур'ёзна думаю пра гэта – проста развітацца назаўжды і заняцца нечым іншым. Хоць сілы на тэатр яшчэ ёсць, але...»

«Вольная сцэна» нараджалася тройчы. Першы раз у пачатку 1990-х на Малой сцэне тэатра Янкі Купалы спектаклем «Ку-ку» па п'есе Міколы Арахоўскага. Тэатр задумваўся як творчая лабараторыя для працы з маладымі беларускімі драматургамі. І калі праз некалькі год новы тэатр займеў уласнае памяшканне, то гэта было яго другое нараджэнне. Неўзабаве «Вольная сцэна» стала адным з самых папулярных тэатраў і з поспехам пачала выступаць на міжнародных фестывалях.



Шмат якія спектаклі тэатра мелі востра сатырычны ці шчыра злабадзённы змест, што не спадабалася ўладам, і стваральнік і нязменны кіраўнік «Вольнай сцэны» Валер Мазынскі быў звольнены з працы. Тады ён стварыў незалежны тэатр з ранейшай назвай. Гэта было тры гады таму. Але супраць фінансавага лому ў тэатра няма прыёму...

Можна толькі паспачуваць рэжысёру Мазынскаму, які «Вольную сцэну» двойчы нараджаў і якому давялося двойчы з тэатрам разлучацца.

# «Гісторыкі і ўлада»

У бібліятэцы часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд» (серыя: Альбарутэніка) выйшла ў свет фундаментальная праца нямецкага даследчыка Райнера Ліндэра «Гісторыкі і ўлада». Пераклад з нямецкай мовы зрабіў Лявон Баршчэўскі. Для зацікаўленага чытача мы друкуем кароткія выняткі з аўтарскай прадмовы і з раздзела пра лёс вядомых гісторыкаў.

## Прадмова да беларускага выдання

У гістарычных вобразах нацыяў і дзяржаваў знаходзіць сваё адлюстраванне не мінуўшчына, «якая яна была», але хутчэй, дух часу, «якім ён ёсць». Гісторыкі не робяць рэканструкцыяў гістарычных светаў, а куды ў большай ступені ствараюць новыя «рэчаіснасці». Крыніцы, праз якія свет, што адышоў у нябыт, звяртаецца да нас з-пад пёраў (альбо з друкарак кампутараў) гісторыкаў, дбайна выбіраюцца. Гісторыкі - гэтаксама як пісьменнікі ды публіцысты - належаць да інтэрпрэтацыйнай эліты, паслугі якой панавальны ўладны рэжым карыстаецца перадусім, тады калі яго гістарычная альбо актуальная легітымнасць знаходзіцца пад пытаннем. У гісторыі XX ст. шмат прыкладаў таго, як узнікае таталітарны рэжым, як ён рэгенеруецца і якое месца ў яго ўмацаванні адыгрываюць ідэалогіі, сімвалы і вобразы гісторыі. Эпоха імперыяў скончылася з 1991 годам. Пачалася эпоха глабалізацыі. У Еўропе ёсць дзяржавы, што рэпрэзэнтуюць адначасова старую і новую эпохі. Пра адну з гэтых дзяржаваў і яе гісторыю вядзецца гаворка ў гэтай кнізе.

З аднаго боку, Беларусь у 1991 г. належала да эпохі імперыяў, што набліжалася да свайго канца. Вылецеўшы з арбіты сканалай Савецкай імперыі, краіна выправілася ў невядомую і няпэўную незалежнасць. Перапыненая гісторыя і аслабленае праз унутраную і вонкавую каланізацыю нацыянальнае самаўяўленне сталі на дарозе да ўласнага дзяржаўнага развіцця. Больш як праз дзесяць гадоў пасля пачатку зменаў Беларусь хоць і здолела сцвердзіць сябе як дзяржава, ды не змагла пазбавіцца ад праблем, што абцяжарваюць яе існаванне. Палітычная, эканамічная і культурная спадчына імперыяльнай мінуўшчыны да сёння засталася тут. З іншага боку, Беларусь цяпер - фармальна незалежная дзяржава ў эпосе глабалізацыі. Яна знаходзіцца - з усімі сваімі вялікімі культурнымі традыцыямі ды асаблівасцямі - у пошуку свайго месца ў зменлівай архітэктурнай пабудове Еўропы. Геапалітычнае становішча паміж «Расіяй і Еўропай» - хутчэй дадатковы шанец, чым абцяжарвальны чыннік. Калі Еўрапейскі Звяз пашыраецца да заходняй мяжы Беларусі, пад рукамі апынаюцца новыя магчымасці. Беларусь здолее выкарыстаць гэты шанец, калі сур'ёзна ўспрыме гістарычны досвед ужывання знешнімі сіламі гвалту на сваёй тэрыторыі, досвед стану бездзяржаўнасці і небяспекі аўтарытарнага кіравання.

**Райнэр Ліндэр**

## 4.3. Крах кар'ераў і рэпрэсіі

Гісторыя беларускай гістарыяграфіі ў сталінскім Савецкім Саюзе была гісторыяй яе ліквідацыі. Да першых ахвяр належаў М.В.Доўнар-Запольскі. Узімку 1925/26 г. яго толькі што завершаны рукапіс «Гісторыі Беларусі» патрапіў у рукі гісторыка і калегі Віталя Сербенты, які адначасова займаў пасаду намесніка загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б. Пасля таго як стаў вядомы змест рэцэнзіі Сербенты (вясна 1926 г.), Доўнару-Запольскаму было прапанавана пакінуць універсітэт, Менск і, праз гэта – Беларусь.

Да аб'екта крытыкі з боку Сербенты належала выснова аўтара рукапісу пра тое, што да 1917 г. рабочы клас у Беларусі ніколі не адыгрываў колькі-небудзь значнае ролі, а таксама «завышаная ацэнка» ролі БНР як «носьбіта беларускай ідэі». Маўляў, з шэрагу прычын БНР і нацыянальнае беларускае сялянства страцілі ўладу на карысць пралетарыяту. Акрамя таго, мала сімпатыяў у рэцэнзента, які адначасна быў прафесарам Менскага камуністычнага універсітэта, выклікала заўвага аўтара, што «Рада», у процілегласць савецкай уладзе, рэальна магла правесці беларусізацыю. «Адсюль вынікае, што прапанаваная да друку праца праф. Доўнара-Запольскага ёсць больш ці менш паслядоўна аформленым пунктам погляду нацыянал-дэмакратызму, па-першае, і, па-другое, зважаючы на прыведзеныя ніжэй цытаты, фальшывым асвятленнем гістарычных фактаў і свайго роду здзекам з практычнага ажыццяўлення дыктатуры пралетарыяту і савецкай улады».

Спазнаўшы расчараванне, Доўнар-Запольскі ў 1926 г. накіраваўся ў Маскву, пакінуўшы Інбелкульту, і тым самым Ігнатоўскаму, у якасці падарунка ўсю сваю бібліятэку, што налічвала больш за 11.000 тамоў. Праца выкладчыкам кафедры эканамічнай гісторыі Інстытута народнай гаспадаркі, прафесарам эканамічнай геаграфіі сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, напэўна, фінансава забяспечвала яго лепш, чым яго менскі прафесарскі заробак; але толькі абранне яго правадзейным членам Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР у 1929 г. дапамагло яму неяк пераадолець наступствы працы ў Беларусі. Адначасова ён перастаў займацца сваёй ранейшай тэмай даследаванняў. Адышоўшы ў цень, насуперак свайму жаданню, выконваючы выкладчыцкія абавязкі ў невысокага ўзроўню Маскоўскім інстытуце народнай гаспадаркі і гандлю, ён завяршыў свой жыццёвы шлях у 1934 г.

Праца Пічэты ў Менску таксама скончылася не паводле яго волі. Пад час першай хвалі арыштаў, скіраванай супраць гуманітарнай інтэлігенцыі, у 1930 г., ён быў адзіным менскім гісторыкам, адпраўленым за краты. У студзені 1930 г. Пічэта быў заарыштаваны ў сваёй менскай кватэры як адзін з «удзельнікаў манархісцкай групы», якую нібыта ўзначальваў «цэнтр» на чале з Платонавым, Тарле, Любаўскім. Абвінавачванні былі бессаромнымі, самаагаворы бясконцымі, тэрміны пакаранняў высокімі. На пяць гадоў Пічэта быў высланы ў Вятку. 12 лістапада Пічэта пісаў з Вяткі:

«Дапытваючы мяне, яны вярнулі мне напісанае мною прызнанне, каб я пэўныя рэчы замяніў на іншыя – не на сваю карысць. Мне было загадана, у якім стылі і якой танальнасці я мушу дапоўніць свае паказанні. Мая адмова - яны мне далі зразумець гэта – была б мне не на карысць. Яны чыталі мне паказанні Любаўскага, пераказвалі пасобныя факты і змушалі мяне ўключыць іх у мае паказанні, прызнаючыся ва ўдзеле ў арганізацыі, пра якую я не меў і найменшага ўяўлення. Я падпісаў усё, што напісаў следчы. Гэтак весці следства нямножна. Гэта фальсіфікацыя. Вядома, я не магу выказваць пратэст перад тымі, хто можа мяне судзіць».





М.Доўнар-Запольскі


У.Ігнатоўскі


В.Ластоўскі


У.Пічэта

Вярнуўшыся ў 1935 г. у Маскву, ён здолеў знайсці карысць з перамены думак у галаве Сталіна адносна гістарыяграфіі ў цэлым і «буржуазных спецыялістаў» у прыватнасці. Шмат хто з арыштаваных разам з ім калегаў – калі яны, як Платонаў, Ягораў, Любаўскі альбо Раждзественскі, не памерлі ў высылцы – вярталіся ў навуковыя ўстановы, а шмат каму былі вернутыя таксама іх пасады ды званні. Пічэта ў 1939 г. быў абраны членам-карэспандэнтам, а ў 1946 г. правадзейным членам Акадэміі навук СССР. У пэўным сэнсе цяпер ён ізноў падзяліў лёс нашмат больш знакамітага Тарле, працу якога «Напалеон» пасля яе выхаду ў 1936 г. адмыслова пахваліў Сталін. Абодва навукоўцы напрыканцы 30-х г., бясспрэчна, мелі асаблівы статус, іх цярпелі як немарксісцкіх «спецыялістаў», уважалі за лаяльных навукоўцаў, ад якіх не чакалася асаблівых поспехаў у прапагандзе артадаксальных поглядаў. У Менску на той час падобных выняткаў з правіла ўжо не было.

Пасля таго як Доўнар-Запольскі ў 1926 г., Пічэта ў 1930 г. былі выселеныя за межы Беларусі, а Ігнатоўскі 4 лютага 1931 г. скончыў сваё жыццё самагубствам, у БССР больш не засталося ніводнага гісторыка першага пакалення з гучным імем. Канец кар'еры Ігнатоўскага, які выглядаў асабліва раптоўным пасля яго ўзлёту ў якасці партыйнага і навуковага функцыянера, таксама быў звязаны з першай хваляй рэпрэсіяў 1929 г., хоць яго першыя сімптомы пазначыліся ўжо ў два папярэднія гады. Спачатку 1930 г. выглядаў для Ігнатоўскага пачаткам выйсця з крызіснай сітуацыі – калі ён быў прызначаны прэзідэнтам новазаснаванай БАН, абраны дэлегатам XIII з'езда КП(б)Б і нават выбраны ў склад ЦК апошняй. Калі, аднак, ягоная апошняя ў жыцці праца пра паўстанне 1863 г. позняй восенню 1930 г. выйшла з друку – г.зн. у той самы час, калі адкамандзіраваныя ў студзені таго самага года з Масквы кіраўнікі ЦК і «ОГПУ» БССР, адпаведна, К.Гей і Р.Я.Рапапорт, займаліся стварэннем і адначасова разгромам „Саюза вызвалення Беларусі", выйсця у Ігнатоўскага ўжо не заставалася. Ужо на кастрычніцкім пленуме ЦК ён быў зноў выключаны з Бюро ЦК і з самога ЦК. Неўзабаве пасля гэтага, 26 снежня 1930 г., Ігнатоўскага пазбавілі пасады прэзідэнта Акадэміі навук, а 22 студзеня 1931 г., паводле пастановы прэзідыума і парткалегіі Цэнтральнай кантрольнай камісіі, ён як «нацыянал-ухіліст» быў выключаны з партыі.

Пачынаючы з кастрычніка 1930 г. ішлі бясконцыя допыты, пад час якіх – аналагічна з тым, як гэта мела месца сярод маскоўскіх і ленінградскіх «акадэмікаў» – яго імя звязвалася з «Саюзам вызвалення Беларусі». З'яўляючыся рэгіянальнай часткай вялікага судзілішча над інтэлігенцыяй 1919–1930 гг., гэтая справа датычала фіктыўнай арганізацыі, вынайдзенай апаратам бяспекі дзеля абгрунтавання абвінавачванняў супраць нацыянал-дэмакратаў. Пададзеная Ігнатоўскім заява, якая была напісаная ім «не для таго, каб атрымаць дараванне», вылілася ў поўнае прызнанне ім за сабою віны, у якім надзея на паратунак ужо саступіла ўсведамленню непазбежнага пакарання.

Пасіўна-пакорлівая пазіцыя Ігнатоўскага падкрэслена гэтым самаабвінавачваннем. Нягледзячы на абраны самімі абвінавачанымі дэвіз: «Трэба гаварыць праўду, не спіхваючы пры гэтым віну на плечы іншых», Ігнатоўскі ў другім варыянце свайго допісу назваў імёны і мянушкі дзеячаў «нацыянал-дэмакратызму».

Паводле сведчання сына Ігнатоўскага, яго бацька застрэліўся ў сваёй кватэры ў лютым 1931г. «пасля чарговага працяглага і грубага допыту у АДПУ».

З Ластоўскім не абышлося інакш. Пасля свайго вяртання з Коўна ў 1927 г. ён таксама заняў адміністрацыйныя і навуковыя пасады ў Інбелкульце ды Акадэміі навук. Ад партыі ён, аднак, заставаўся на дыстанцыі. Ігнатоўскі пазнаёміўся з аўтарам першай беларускамоўнай «Гісторыі Беларусі» яшчэ ў 1913 г. пад час археалагічных раскопак у Горадні, пасля зноў, да ўзнікнення БНР страціў яго з поля зроку і, урэшце, запрасіў яго на пасаду неадменнага сакратара Інбелкульта. Абодва мелі зносіны ў коле менскіх «беларусаў», пад якімі меліся на ўвазе інтэлектуалы і БНРаўскія дзеячы Купала, Некрашэвіч, Лёсік, Смоліч, Цвікевіч.

Ластоўскі быў у ліку першых акадэмікаў, кінутых за краты; яго забралі ўжо 21 ліпеня 1930 г. У снежні ён быў таксама афіцыйна пазбаўлены свайго звання. З пратаколаў допытаў выразна вынікае, што ўладатрымальнікам калолі ў вочы перадусім яго дасавецкая палітычная дзейнасць, а таксама БНРаўскія функцыі. Прыватныя спатканні «нацыянал-дэмакратычна настроеных асобаў» і «партыйцаў», пра якія Ластоўскі паведамляў у сваім «прызнанні», толькі дапаўнялі ўяўленне пра яго. Пры гэтым названыя спатканні належаць да найцікавейшых старонак гісторыі беларускай акадэмічнай інтэлігенцыі. Яны яшчэ раз даводзяць, што членства акадэмікаў у партыі мела выключна функцыю стварэння неабходнага алібі. Калі, пачынаючы з 1927 г., на прыватных кватэрах Купалы, Некрашэвіча альбо Ластоўскага штатныя камуністы Наркамасветы, БАН і БДУ – Жылуновіч, Ігнатоўскі, Баліцкі, Прышчэпаў, Каранеўскі, Кудзелька ды іншыя – вялі супольныя зычлівыя размовы, пра нейкія падзелы ды канфрантацыю не магло нават ісці гаворкі.

Ластоўскага – падобна як гэта было ўчынена з Пічэтам і асуджанымі па «акадэмічнай справе» – адправілі на пяць гадоў у высылку ў Саратаў. Абсяг занятку ў апошнія гады яго жыцця там збольшага яму пасаваў, бо ён рупіўся пра рукапісы і рэдкасці тамтэйшай універсітэцкай бібліятэкі. Хоць ніякай новай «вышы» ён на сябе не ўзяў, сапраўдная расправа – як гэта мела месца з бальшынёй ягоных калегаў – дагнала яго праз шэсць гадоў. Пасля новага арышту ў жніўні 1937 г. для аўтара «Гісторыі Беларусі» будучыні ўжо не заставалася. 23 студзеня 1938 г. Ластоўскі быў расстраляны ў Саратаве.

На індывідуальна-біяграфічным узроўні непазбежна павінна было адбіцца тое, што вышэй было зафіксавана адносна інстытуцыяў і тых гістарычных канцэпцыяў, якія там распрацоўваліся: савецкая сістэма як ідэалагічная, культурная і каштоўнасная супольнасць пачала функцыянаваць толькі пасля поўнай змены пакаленняў і атрымання досведу «Вялікай Айчыннай вайны». Адзіным, хто дажыў да гэтага часу сярод названых гісторыкаў, быў Пічэта, які ў 1946 г., за год да сваёй натуральнай смерці, яшчэ нават уступіў у партыю.

# Успаміны сястры Сафі Ларэн



Сафі Ларэн



Мусаліні (дучэ) з сынам, Рамано Мусаліні, будучым мужам Марыі, швагерам Сафі Ларэн, бацькам Алясандры



Алясандра Мусаліні, пляменніца Сафі Ларэн, унучка дучэ

«Не проста быць жонкай Рамано Мусаліні і сястрой Сафі Ларэн. Я магу сказаць, што была сведкай многіх жыццяў, многіх авантураў, многіх бедстваў і поспехаў. Я напісала кнігу, каб паведаць гісторыю сям'і, дакладней, маіх сем'яў. Я пачала з цяжкіх момантаў, з дзён нямецкай акупацыі. У Пацуолі была разруха, мы не мелі што есці, нават піць, мая маці збірала на вуліцы дажджавую ваду, фільтравала яе і давала нам, дзецям, нават не кіпяціла яе, бо ў нас не было ні вугалю, ні дроваў, каб распаліць агонь».

Марыя Шыкалоне – прыгожая 65-гадовая жанчына, са свежым тварам, яна поўная энтузіязму, цікавіцца рубрыкамі «кухня» і «пошта» на тэлебачанні і ў часопісах, але ёй не ўдалося перамагчы сваю сарамлівасць. Яна гаворыць аб сваёй кнізе «Усё было недарэмна», якую цяпер чытаюць у некалькіх выдавецтвах. Марыя – малодшая сястра Сафі Ларэн.

«Мама адчувала сімпатыю да Мусаліні, як і шмат жанчын таго часу і таго пакалення. Калі яна даведалася, што дучэ павінен прыехаць у Неапаль, у траўні 1938 года, яна, хоць і была на дзевятым месяцы цяжарнасці, села ў цягнік і паехала ў Неапаль.

Яна ўбачыла Мусаліні і ад моцных перажыванняў нарадзіла проста на вакзале. Нарадзілася я. Хто б мог падумаць, што аднойчы я выйду за сына гэтага Мусаліні?»

Рамільда - мэтаскіраваная маці, «карабінер», як яе называлі дома. Піяністка і няўдалая актрыса, яна зрабіла стаўку на Сафі – старэйшую дачку, прыгажуню, з даўгімі нагамі, высакародным профілем, ганарыстым позіркам. Маці і дачка паехалі ў Рым у пошуках удачы. Марыя першы час заставалася ў Пацуолі. У Чынечыта рэжысёр Мервін Ле Рой здымаў фільм «Quo Vadis» з Пітэрам Усцінавым, Робертам Тэйларам і Дэборыяй-Кер. «Мая маці, – апавядае Марыя Шыкалоне, – з чамаданам у руках прабілася праз кардон ахоўнікаў, стала перад рэжысёрам і закрычала: «Мы не ведаем англійскай, але мы паміраем ад голаду, гэта вы you understand?» На працу ўзялі абедзвюх. Рамільда і Сафія працавалі на кінастудыі з ранку, яны спалі на адным ложку ў пакоі, які здымалі разам яшчэ з дзвюма кватарантамі, а маленькая Марыя заставалася на ўвесь дзень адна.

Гэта былі самыя цяжкія дні ў ейным жыцці, але і самыя каштоўныя ўспаміны 1950-х, калі магло пашанцаваць дзякуючы сустрэчы, выпадку, наведванню патрэбнай кавярні. Аднойчы Рамільда, выходзячы са студыі, сустрэла Тато і загаварыла на неапалітанскім дыялекце. Ён пазнаў зямлячку, расчуліўся і падараваў Сафі Ларэн немалое багацце - 100 тысяч лір. «Дзякуючы гэтым грошам мы маглі ўпершыню нармальна паесці, – піша Марыя, - і мы сталі шукаць сабе дом». Нармальнае жыццё цягнулася некалькі месяцаў, а потым зноў пачаўся пост.

Нарэшце Сафія, якая называла сябе цяпер Сафі Лацара, сустрэла Карла Понці, чалавека свайго лёсу. Аднойчы ён проста спытаў яе: «Сіньярына, не жадаеце прысесці да майго століка?» Гэта стала пачаткам яе доўгай кар'еры кінаактрысы.

Марыя суправаджала сястру ў замежных паездках. Яна была сведкай кахання Сафі да Кэры Гранта, якога яна апісвае як фаната аўтатрэнінгу, йогі і псіхааналізу. Доўгі час яна з ім сябравала.

У 1958 годзе яна выпадкам сустрэла Рамано Мусаліні. Ён заляцаўся да яе чатыры гады, і нарэшце яны ўзялі шлюб 3 сакавіка 1962 года. Яна яго кахала, даравала яму, перажывала за сваіх дачок Алясандру і Элізабэту.

У клініцы, куды Марыя патрапіла з дыягназам нервовага знясілення, яна сустрэла свайго другога мужа, іранскага лекара Маджыда Таміза. «Ён быў першы, – піша Марыя, – хто паклапаціўся аба мне, толькі дзякуючы яму я зведала сапраўднае каханне».

Яе кніга – гэта шчырая хроніка асабістых перажыванняў, пачынаючы ад святаў у Галівудзе, вячэры з Майклам Джэксанам – «ён прыйшоў да мяне з Сафі і спытаў дазволу паскакаць на ложках», да выбрання Алясандры Мусаліні, пляменніцы Сафі Ларэн, у Камунальны савет Неапаля – «я баялася, што яна не набярэ дзвюх тысяч галасоў, а за яе прагаласавалі 57 тысяч».

«Няпроста быць усё жыццё сястрой Сафі, – піша Марыя, – яна вядомая на ўвесь свет, і яе жыццё ўсе ведаюць да падрабязнасцяў. Тым не менш няшмат людзей ведае пра яе песімізм, уласцівую ёй меланхолію. Калі мы разам, менавіта мне прыходзіцца яе тармасіць, падтрымліваць, яна заўсёды баіцца, што ўсё будзе дрэнна... Я ж, насупраць, аптымістка!

**Corriere della Sera**

# Вяртанне Майсея



Знакамітая статуя Мікеланджэла «Майсей» пасля працяглай рэстаўрацыі зноў адкрыта для агляду. Урачыстая цырымонія вяртання шэдэўра прайшла ў рымскім саборы Сан-П'етра ін Вінколі (Святы Пётр у Вярыгах). 500 год таму папа Юлій II заказаў Мікеланджэла «Майсея»ў якасці аздобы для сваёй магілы ў ватыканскай базіліцы Святога Пятра, дзе хаваюць пантыфікаў. Аднак пасля смерці Юлія II у 1513 годзе новыя заказы адцягнулі ўвагу Мікеланджэла. Ён закончыў статую толькі ў 1542 годзе, і яна была ўстаноўлена ў саборы Сан-П'етра ін Вінколі. Скульптура аздоблена рагамі. Шмат гісторыкаў мастацтва тлумачаць з'яўленне рагоў у «Майсея» памылковым разуменнем Бібліі. У Кнізе Зыходу гаворыцца, што калі Майсей спусціўся з гары Сінай са скрыжалямі, ягоны твар «ззяў». У гэтым месцы ў Бібліі скарыстана слова *«каран»*, якое паходзіць ад кораня **крн-**. Але з таго ж кораня ўтвараецца слова *«кэрэн»*, якое азначае і *«прамень святла»*, і *«рог»*. Вось так замест «промня святла» прарок займеў «рогі».

# «ГУЛАГ» у КНДР

Камітэт ЗША па правах чалавека ў КНДР апублікаваў даклад «Прыхаваны ГУЛАГ» аб становішчы ў канцлагерах гэтай краіны. Даклад заснаваны на фотаздымках, зробленых са спадарожнікаў, і на сведчаннях відавочцаў. Згодна з дакладам, па ўсёй Паўночнай Карэі раскіданы канцлагеры, у якіх агулам утрымліваюцца ад 150 да 200 тысяч чалавек. Вязні жывуць надгалядзь, іх прымушаюць працаваць да знясілення на лесанарыхтоўках, у шахтах. У 1990-х гадах, калі ў Паўночнай Карэі наступіў голад, некалькі соцень тысяч чалавек уцяклі ў Кітай. Згодна з дамовай аб выдачы ўцекачоў, улады Кітая вярнулі іх у КНДР, дзе яны былі накіраваныя ў канцлагеры. Там адбываліся масавыя забойствы дзяцей рэпатрыяваных жанчын - прымусовыя аборты і знішчэнне народжаных (у тым ліку задушэнне і пахаванне жыўцом). Урад Паўночнай Карэі адмаўляе гэтыя звесткі.

# Над Нёманам і Гаўяй

Працяг. Пачатак на стар. 11

І гэтак статыстыка вайны была «падвойнай», і то натуральным шляхам: я рапартаваў у Маскву, што эшэлон падарваў, а немец рапартаваў свайму камандаванню, што эшалон быў атакаваны і пашкоджаны, але даехаў. Адно і другое было праўдай. Двойчы (!) здарыўся такі неверагодны, і той самы выпадак, што нават мой "проверяющий" з НКВД спытаў ашаломлена «а что теперь докладывать будем?!». Бо гэты паравоз, сукін сын, падскочыў на «міне»... і стаў коламі ізноў на рэйкі, а машыніст з перапугу націснуў рэверс і паехаў далей. І гэта не кіно, а праўда, хоць ніхто не верыць...»

**«Рэйкавая вайна»** *(працяг)*

«... тыя нямецкія эшалоны магу падзяліць на чатыры групы: а) бочкі з бензінам; б) вагоны з амуніцыяй; в) платформы з танкамі і артылерыяй; г) пасажырскія вагоны з пяхотай. Перамешвалі гэтыя грузы ў адным транспарце надзвычай рэдка. Найпрасцей было з бочкамі. Часта ад удару і выбуху запальваліся аднадзве – і далей гінуў увесь транспарт. Каб нішчыць амуніцыю, мне скідвалі бранебойныя і запальныя кулі – за рэдкім выняткам, кулямётным агнём удавалася запаліць хоць адзін вагон, пасля чаго ён выбухаў, і ад дэтанацыі астатнія. На танкі і артылерыю, – я ўжо гаварыў, – не было рады. Але найгорай здаралася з эшалонамі пяхоты. Бо немцы-адпуснікі гэта, Аляксандр Фёдаравіч, не украінцы з waffen SS – гэта ваякі. Хоць і нападпітку перад фронтам, але ўсе пры памяці і зброі, і ў кожным вагоне афіцэр. Пры падрыве пяхота не панікавала і не разбягалася, хоць і была пад абстрэлам маіх кулямётаў, але вылятала з вагонаў на мой бок (sic!) і пад крыкі афіцэраў «шнэлле–шнэлле!» з ходу атакавала – і тут ужо мае людзі драпалі назад той самай дарогай па камандзе і без. Але – хоць мы і канчалі страляць... немцы не спыняліся, а ноччу тыральерай ішлі ў лес і прастрэльвалі кожны куст! Звычайны эшалон вёз поўны батальён, альбо 600–700 чалавек – і гэта на маіх дзвесце, абцяжараных коньмі, фурманкамі, параненымі etc. Так што мы драпалі «без дураков», а не «планава адступалі». Звычайна пры сустрэчы з пяхотай я губляў чалавек 15–20, не менш – забітымі, параненымі і ... дэзерцірамі. Немцы ж, насыпаўшы мне солі на хвост, на тым не супакойваліся... але лезлі ў лес далей! І тут натыкаліся на польскія патрулі – і пуляць па немцах пачыналі палякі, бо за імі ж былі іх хутары і лясныя вёскі! «Сабалеўскі» ўжо гнаў на дапамогу дыжурную (кулямётную) роту, а следам будзіў і гнаў увесь батальён з месцаў дыслакацыі – з флангаў і тылу, каб адцягнуць немцаў. Стралянiна была на ўсю пушчу! Гінулі тыя і тыя... Тым часам я драпаў, бо мне было важней зберагчы фурманкі, коней і ўзятых цывіляў, чым сваіх людзей нават – бо чым бы я ехаў да той чыгункі наступным разам?!

– То выходзіць, што «Сабалеўскі» вас прыкрываў?! – спытаў я.

– А што ён меў рабіць? – здзівіўся Марцiросаў. – Кінуць тыя хутары з вёскамі, адступіць?! Ды тыя каталікі, хто карміў падобраму, паразбягаліся б хто куды! Хоць у нямецкую зону! Бо хто ж будзе такіх «сваіх» карміць-паіць, калі іх «свае» кідаюць пры першых стрэлах?!

– Але ж выходзіць, не мог адчапіцца я ад свае «тэзы», – што вы ўсё ж ваявалі разам, бо такая была логіка вайны?

Марцiросаў паглядзеў на мяне з цікавасцю, як на поўнага ідыёта.

– Мы не маглі ваяваць разам, бо служылі ў розных арміях і мелі розныя задачы, – патлумачыў ён, як малому дзіцяці. – А логіка вайны, Аляксандр Фёдаравіч, была ў тым, што атакаваная мной у сваёй зоне, альбо проста на чыгунцы, нямецкая пяхота адганяла мяне ад чыгункі ў лес і, ладзячы пагоню, пераходзіла ў польскую зону – і далей атакавала ўжо палякаў, якія ў сваю чаргу з усіх магчымых бакоў контратакавалі яе, каб выцясніць назад, на чыгунку...»

**Інфармацыя да намыслу**

Самы час даць слова зацікаўленым чытачам, найперш гісторыкам, а з іх найперш беларускім саветам – якія я маю доказы, ці ёсць у архівах дакументы etc. Бо ў савета найважнейшае гэта «паперка». Гэта значыць, не як было на справе, але як было пра гэта напісана, «наш» пісаў ці «не наш». «Без бумажки ты букашка, а с бумажкой – человек!».

Няма такіх дакументаў. Бо іх не было і не магло быць. Бо каб толькі Марцiросаў падпісаў якікольвек «мемарандум» з палякамі і тым самым... парушыў загад ад 22 чэрвеня 1943 года пра вайну (!) з АК, то яго імгненна адклікалі б першым самалётам у Маскву, «назначения к новому месту службы», і расстралялі там ціха ў чортавай мацеры! Ды і камендант «Сабалеўскі», няхай сабе левы сацыяліст і «аўтаномны ў справах палітыкі», меў бы клопаты і непрыемнасці з энэндэцый у большасці сваёй Галоўнай Камендатурай АК у Варшаве. А так усе рабілі выгляд, што ніхто нічога не бачыў – і гэтак ваявалі сабе далей. Гэта і была сапраўдная логіка вайны. Сапраўдная, бо інакшай быць не магло.

Па-за паперкамі, таварышы саветы, у Гісторыі ёсць яшчэ людзі. Бо гэта людзі робяць Гісторыю. Бо людзі і ёсць Гісторыя. І я веру афіцэру Марцiросаву. Бо – ён мог увогуле не сустракацца са мной і нічога не гаварыць. Але сустрэўся – бо сам быў ужо безнадзейна хворы (нова-твор), а мемуараў на сабе не пакінуў. На маё пытанне «чаму?» адказаў так:

– Да врут они все, мемуаристы наши. Пока ещё говорят, то ничего. А как начнут писать бумажку, сейчас же врут. По привычке и воспитанию. И всё моё поколение такое, Александр Фёдорович...

Працяг будзе

# Забытыя жаўнеры

Юры ГРЫБОЎСКІ

*Ураджэнцы Беларусі, якія загінулі і памерлі падчас службы ў польскіх узброеных сілах (1939-1946)*

Заканчэнне. Пачатак у №№ 13-16

## Вайсковыя адзінкі на Сярэднім Усходзе (1944-1946 г.)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Атвіноўскі Станіслаў | 20.8.1900 Куяўшчызна (Брэст) | Падпаручнік | 29.1.1945 Geneifa |
| Белы Іван | 11.10.1919 Гашава (Косава) | Стралец | 25.10.1945 Усх. Кантара |
| Букрэй Аляксандр | 1904 Басіна (Навагрудак) | Стралец | 2.9.1945 Усх. Кантара |
| Грыпіч Якуб | 2.4.1895 Шыдловічы (Слонім) | Стралец | 24.9.1945 Каір |
| Журко Юры | 23.12.1922 Жамаліне (Драгічын) | Ст. стралец | 11.7.1946 Усх. Кантара |
| Жыжнеўскі Вінцэнт | ? 1911 Асінаўка (Дзісна) | ? | 27.4.1945 загінуў на моры |
| Карневіч Баляслаў | 10.2.1895 Ліда | Капітан | 5.2.1946 Усх. Кантара |
| Лабовіч Васіль | 12.12.1912 Навасёлкі (Ваўкавыск) | Сяржант | 17.6.1945 Усх. Кантара |
| Маеўскі Іосіф | 16.8.1920 Шчучын | Стралец | 21.3.1945 Рамлех |
| Пашкевіч Мікалай | 6.5.1917 Людавінава (Ашмяны) | Стралец | 23.7.1946 Усх. Кантара |
| Палонскі Вацлаў | 10.9.1901 Заслаўе | Паручнік | 5.6.1945 Усх. Кантара |
| Пшэздзецкі Франц | 17.10.1894 Керсноўка (Браслаў) | Падпаручнік | 25.7.1944 Ahwaz |
| Ражноўскі Вільгельм | 20.1.1889 Гапанаў (Дзісна) | Паручнік | 14.9.1944 Усх. Кантара |

## Польская вайсковая жаночая служба

| | | | |
|---|---|---|---|
| Амброж Ганна | 25.6.1915 Дагеш (Ашмяны) | Шэраговая | 26.8.1942 Пехлеві |
| Кораль Тацццяна | 18.8.1906 Друскенікі | Шэраговая | 25.3.1942 Кермінэ |
| Кулікоўская Мечыслава | 4.6.1911 Брэст | Шэраговая | 23.12.1942 Басра |
| Марко Адальфіна | 1.4.1911 Масты | Шэраговая | 4.11.1942 Рамлех |

## Юначая жаночая вайскова-дапаможная служба

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астроўская Марыя | 24.1.1926 Малысін (Ваўкавыск) | | 6.8.1942 Гузар |
| Вікель Ядвіга | 22.10.1928 Грымячы (Брэст) | | 10.7. 1942 Гузар |
| Выжыкоўская Алена | 16.9.1926 Пазенічы (Стаўпцы) | | 5.7. 1942 Гузар |
| Дамбоўская Ванда | 5.1.1926 Планта (Баранавічы) | | 13.7. 1942 Гузар |
| Дутка Марыя | 12.1.1930 Добрая Воля (Лунінец) | | 9.10.1942 Тэгеран |
| Жукоўская Ядвіга | 28.4.1928 Феліксава (Ашмяны) | | 30.6. 1942 Гузар |
| Журак Здзіслава | 1.5.1929 Нуднежвічы (Навагрудак) | 13.7. 1942 Гузар | |
| Калінская Барбара | 25.8.1925 Клімка (Брэст) | | 15.5. 1942 Гузар |
| Калонка Ядвіга | 20.10.1925 Падблонне (Ваўкавыск) | | 21.6. 1942 Гузар |
| Камінская Марыя | 5.2.1928 Празарокі (Дзісна) | | 19.9.1942 Пехлеві |
| Клускоўна Ірына | 20.6.1927 Дамброўка (Баранавічы) | | 23.6.1942 Капкін-Баташ |
| Мільчарак Генафена | 7.10.1924 Хылін (Слонім) | | 23.6. 1942 Гузар |
| Салатоўна Алена | 17.6.1928 Пузеневічы (Стаўпцы) | | 12.7. 1942 Гузар |
| Салатоўна Ірына | 7.10.1924 Пузеневічы (Стаўпцы) | | 11.7. 1942 Гузар |
| Сініцкая Марыя | 7.10.1924 Пятруль (Ашмяны) | | 7.7. 1942 Гузар |
| Талочка Марыя | 1925 Верайкі (Ваўкавыск) | | 17.7. 1942 Гузар |
| Траханоўская Алена | 26.7.1925 Дэмбава (Драгічын) | | 14.6.1942 Гузар |
| Шаняўская Ганна | 1936 Добраволя (Лунінец) | | 1.7. 1942 Гузар |
| Шышко Алена | 5.1.1926 Палонка (Ваўкавыск) | | 26.9. 1942 Гузар |
| Яроцкая Марыя | 3.1.1926 Дамброўка (Баранавічы) | | 5.7. 1942 Гузар |

## Чырвоны Крыж

| | | | |
|---|---|---|---|
| Вайніловіч Ганна | 26.6.1898 Нясвіж | Ст. медсястра | 25.9.1942 Тэгеран |
| Клоц Марыя | 11.2.1912 Іванкі (Пінск) | Медсястра | 22.11.1943 Газа |

## Юначая вайскова-дапаможная служба

| | | |
|---|---|---|
| Апель Лешак Эдвард | 13.6.1934 Навагрудак | 6.7. 1942 Гузар |
| Арлоўскі Станіслаў | 6.11.1909 Каралёва (Глыбокае) | 18.2.1942 Ст. Урэўская |
| Бабіс Сцяпан | ? 1925 Яліна (Баранавічы) | 2.3.1942 Ст. Урэўская |
| Баршч Мечыслаў | 1928 Новая Мыш | 14.8.1942 Пехлеві |
| Басацкі Лявон | 3.2.1927 Баранавічы | 29.9.1942 Тэгеран |
| Буйвіла Аляксандр | 1926 Моўчын (Нясвіж) | 11.6. 1942 Гузар |
| Буйвіла Уладзіслаў | 3.10.1927 Нарач (Нясвіж) | 27.6. 1942 Гузар |
| Вардзінскі Апалінарый | ? 1925 Брэст | 19.7.1942 Кітаб |
| Віснеўскі Уладзіслаў | 12.2.1929 Бруханшчына (Навагр.) | 8.7.1944 Рамалех |
| Галамбеўскі Часлаў | 1.10.1930 Якароўка (Ваўкавыск) | 2.7. 1942 Гузар |
| Галуц Сцяпан | 18.5.1929 Дэрвна (Кобрын) | 17.9.1942 Тэгеран |
| Генеўскі Бенедыкт | 21.4.1926 Міхалаўка (Ашмяны) | 19.4.1942 Ст. Урэўская |
| Герух Баляслаў | 1926 Баканаў (Баранавічы) | 3.8.1942 Кермінэ |
| Глебік Антон | 14.8.1929 Навасёлкі (Ваўкавыск) | 5.9.1942 Пехлеві |
| Глодак Часлаў | 17.11.1928 Пузеневічы (Стаўпцы) | 9.9.1942 Пехлеві |
| Гроцкі Вітольд | 25.11.1929 Ляшчаны (Кобрын) | 28.9.1942 Тэгеран |
| Густыновіч Васіль | 14.6.1927 Карачан-Гарадок | 22.7. 1942 Гузар |
| Дашкевіч Ірэніўш | 24.2.1932 Стаўпцы | 18.8.1943 Хайфа |
| Дубойць Эдуард | 30.10.1929 Феліксава (Ашмяны) | 15.9.1945 Тэль-аль-Кебір |
| Завацкі Іосіф | 4.3.1930 Навагрудак | 29.8.1942 Пехлеві |
| Завацкі Іосіф | 4.3.1929 Навагрудак | 19.8.1942 Шахірызаб |
| Зарыцкі Збігнеў | 1929 Леснічоўка Рудня (Стаўпцы) | 3.8.1942 Шахірызаб |
| Зух Адам | 8(18)3.1925 Крушыловічы | 30.3.1942 Шахірызаб |
| Калонка Станіслаў | 1931 Белавічы (Ваўкавыск) | 22.4.1942 Ст. Урэўская |
| Капліцкі Пётр | 4.8.1924 Сянкевічы (Лунінец) | 14.9.1942 Пехлеві |
| Кардонскі Пётр | 31.1.1926 Пілабовічы (Баранавічы) | 1.4.1942 Гузар |
| Кацпура Іосіф | 1927 Вял. Свенціца (Ваўкавыск) | 30.8.1942 Пехлеві |
| Ключынскі Казімір | 25.7.1926 Баранавічы | 17.6. 1942 Гузар |
| Куранты Тадэвуш | 8.1.1927 Казёр (Драгічын) | 27.5. 1942 Гузар |
| Кяндзерскі Лех | 17.11.1928 Карчоўка (Ваўкавыск) | 16.11.1942 Тэгеран |
| Маркевіч Эдвард | 22.2.1926 Стаўпцы | 12.12.1943 Рамлех |
| Мазурак Эдвард | 22.8.1928 Бацкевічы (Навагрудак) | 20.8.1943 Тэль-аль-Кебір |
| Міхалевіч Хведар | 1926 Старая Мыш (Баранавічы) | 9.6.1942 Кермінэ |
| Нязгода Іван | 1932 Віслач (Ваўкавыск) | 27.4. 1942 Гузар |
| Палка Людавік | 1927 Козы-Двор (Навагрудак) | 13.5.1942 Кермінэ |
| Паповіч Ігнат | 5.9.1929 Падбалоцце (Ваўкавыск) | 16.9.1942 Пехлеві |
| Пархімовіч Часлаў | 27.4.1927 Банькоўшчына (Маладэчна) | 15.5. 1942 Гузар |
| Пастушэня Антон | 17.3.1927 Жэйтарыць (Ваўкавыск) | 10.8.1942 Шахірызаб |
| Піпала Антон | 30.2.1930 Баранавічы | 16.4. 1942 Гузар |
| Чайка Мар'ян | 1927 Баканова (Баранавічы) | 25.6. 1942 Гузар |
| Пудла Мар'ян | 22.5.1928 Няднeвічы (Навагрудак) | 30.10.1942 Тэгеран |
| Ранаш Станіслаў | 1.6.1925 Свіслач (Ваўкавыск) | 29.6. 1942 Гузар |
| Раманоўскі Яўген | 11.2.1925 Алешчаніца (Дзісна) | 12.5.1942 Ст.Урэўская |
| Сайка Іосіф | 3.2.1929 Вярэйкі (Ваўкавыск) | 17.9.1942 Пехлеві |
| Сіліцкі Часлаў | 10.5.1926 Літура (Баранавічы | 1.1.1942 Пехлеві |
| Стэцко Уладзіслаў | 1930 Альшаны (Навагрудак) | 13.6. 1942 Кермінэ |
| Суднік Іосіф | 1926 Гусакі (Стаўпцы) | 13.7. 1942 Кермінэ |
| Шыпулеўскі Вітольд | ? 1925 Марысін (Навагрудак) | 5.8.1942 Кітаб |
| Федак Часлаў | ? Востраў (Ваўкавыск) | 30.7.1942 Шахірызаб |
| Якавецкі Яўген | ? 1927 Малыя Астраўчыцы (Нясвіж) | 12.4.1942 Гузар |

# Наканаванасць Калымы

Працяг. пачатак на стар. 10

Быў залічаны ў 101-ю стралковую дывізію Яна Гамарніка. Трохі абстралянага байца накіравалі на курсы краскамаў у Магілёў на Дняпры.

Школілі нядоўга: палякі ў другі раз наступалі на ўсход, і малады камандзір цяпер больш упэўнена пайшоў у бой. Камандаваў спачатку ўзводам, праз месяц – ротай, а пазней і батальёнам. У чыне камбата і закончыў удзел у ваенных дзеяннях, але не вайну. Яна атрымала для Васіля Дудко працяг на іншым, нябачным фронце.

У 1925 г. мабілізацыйна ён быў узяты ў школу ваеннай разведкі. Вучобу праходзіў у Маскве, у тым ліку ў Яна Берзіня. Акрамя агульнавайсковага курсу, вывучаў фатаграфаванне, тайнапіс, ваджэнне машыны... Праз восем месяцаў накіравалі ў Тэгеран сакратаром ваеннага аташэ ў Персіі...

Былі небяспечныя моманты, цікавыя знаёмствы: разведслужба ўключала разнастайныя кантакты. Адзін аказаўся ўскосна лёсавызначальным – у скрутных абставінах выратаваў ад смерці.

Ваенная разведка, натуральна, кантактавала із ОГПУ, магутнай, калі неўсяўладнай структурай у савецкай дзяржаве. Упаўнаважаным ОГПУ па Закаўказзі ў той час быў мала каму вядомы Берыя. Правай рукой у яго ўжо тады быў Усевалад Мяркулаў, выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, аўтар роскрыптаў і выступленняў пазнейшага наркама савецкай бяспекі.

У скрутных абставінах 1938 г., калі былы контрразведчык разведштаба Закаўказскай чырвонаармейскай акругі Васіль Усцінавіч Дудко апынуўся на Лубянцы ўжо як «вораг народа»; колішняе, урэшце, шапачнае знаёмства з новапрызначаным на пасаду наркама дзяржбяспекі Л.П.Берыем выратавала ад «вышкі».

***

Васіль Дудко быў арыштаваны прама ў рабочым кабінеце пры штабе ў Сімферопалі. Арыштаваны, як і многія тысячы супрацоўнікаў спецведамства, па распараджэнні Яжова. Перад сваім расстрэльным фіналам наркам-монстр паспеў аддаць загад прыбраць з ваеннай разведкі ўсіх выхадцаў з так званых «трэфных тэрыторый». А пад «трэфнымі» тэрыторыямі галоўным наркамам, у партыкулярным спісе, у графе «адукацыя» якога стаяла «незакончаная пачатковая», разумеліся землі Прыбалтыкі, Заходняй Беларусі і Украіны, Малдовы, карэннай Польшчы...

Дыялог у былога разведчыка са следчым энкавыдзістам быў кашмарна цяжкім, забойча аднастайным. Той напіраў на адзіны, знешне як бы доказны аргумент віны:

– Паходзіш з Польшчы!

На што падследчы адпіраў:

– Не з Польшчы, а з «порабощенной Польшей Западной Беларуси»

– Твой брат Іван – вораг народа, былы камдзіў, сябра і зямляк Сільвестар Мейсак, – таксама дадаваў, настойваў следчы. – То кім можаш быць ты?! – пытаўся ў каторы раз.

Але аднойчы імператыўны тон следчага не сказаць, каб змяніўся, неяк памякчэў, упершыню загаварыў на «вы».

– Вы што, праўда знаёмы з Лаўрэнціем Паўлавічам? – спытаў у канцы.

– Сустракаліся па рабоце, – без тлумачэнняў адказаў былы разведчык.

На нейкі час яго мучыцель узяў тайм-аўт: на допыты не выклікалі, выглядала, прывід «вышкі» адступіў. Такі дапамаглі выкінутыя вонкі запіскі. Ведаў, што нікуды далей турэмнай адміністрацыі яны не трапяць, але няпэўны шанец быў. Былы разведчык звяртаўся асабіста да новапрызначанага наркама, нагадваў пра канкрэтныя службовыя сустрэчы, выказваў недаўменне адносна свайго арышту...

У хуткім часе адбылося пасяджэнне ваеннага трыбуналу – «тройкі», дзе разглядалі і яго «справу». Справы з выбітым, як у многіх, прызнаннем падследчага не было, ваенны трыбунал голасам пракурора не патрабаваў «ВМП» – вышкі. Далі «дзесятку», неадкладна ўзялі на этап. Везлі, як аказалася, ажно на Калыму. Падчас этапіравання параходам нагледзеўся ўсякага. Сакратар Краснадарскага крайкама злаўчыўся абарваць сваё жыццё ручніком – павесіўся прама на палубе, нехта выкінуўся ў мора, не дачакаўшыся лагернага прыстанку...

Часам думка абвастралася да асязання ўсяго пражытага апошнім годам, часам душа камянела ў абыякавасці, глухой стоме.

Апошнім часам удары пасыпаліся на Васіля густа. Раней была першая страта - смерць Якава. Загінуў, даведаўся пра тое неадразу, дзесь у бок Полацка. Быў у дывізіі, што адбівала націск легіёнаў генерала Шэптыцкага ў паўночным напрамку.

Смерць старэйшага брата была для Васіля балючай стратай, але ўжо прыглушанай часам. Зрэшты, страта старэйшага, за якім Васіль пайшоў смела, ад пачатку, мела пад сабой пэўную логіку: той бараніў родную зямлю, свае палітычныя ідэалы, смерць прыняў у адкрытым баі. Васіль жа тут цяпер чуўся аглушаным: самім арыштам, абсурдам абвінавачвання. Каторы месяц ужо вымушаны быў таптацца ў праклятым коле бяссэнсіцы, здзеклівага ідыятызму. У душу ўсялілася раней незнаёмае: страх, боль за родных, сям`ю. Ад брата Івана з Мінска апошні ліст атрымаў у Крыме задоўга да свайго ўласнага арышту, затым наступіла зацятае маўчанне. А што з жонкаю, малым Яшулем? Следчы неяк між слоў аб`явіў, што «супруга» публічна адмовілася ад яго, мужа, бацькі – ворага народа. У труме парахода думаў: «Прымусілі? Не магла ж так проста паверыць знарочыстай хлусні... А можа, шукала выйсця з праклятага круга? Можа, апраўдана паступіла, ратуючы жыццё, сваё і сынава. Браўся толькі ў падлеткі, і што б з ім стала, каб і маці ўслед за бацькам апынулася на нарах. Сам пакуль што заставаўся жывы, а што там, далей? Выжывалі ж людзі на царскай катарзе...

Працяг будзе

# «Таблеткі шчасця» нясуць бяду

**Нядаўна абнародаваны звесткі аб тым, што ў жанчын пасля пяцідзесяці гарманальныя прэпараты павялічваюць рызыку развіцця рака грудзей у два разы. Таму на масавым выкарыстанні гармоназамяшчальнай тэрапіі (ГЗТ) пастаўлены крыж.**

Праблема мае глабальны характар. Толькі ў Англіі з ГЗТ звязваюць 20 тысяч дадатковых выпадкаў рака грудзей, адзначаных за апошнія 10 гадоў. Сюды трэба дадаць інсульты, інфаркты міякарда і іншыя праблемы з сэрцам, рызыку развіцця якіх гармоны таксама павялічваюць. А як усё добра пачыналася. На пачатку мінулага стагоддзя чэшскі доктар Арнольд Лоранд знайшоў, што экстракт яічнікаў свінні адсоўвае старэнне жанчыны і пазбаўляе яе ад жахаў клімаксу.

Ужо да 1940-х гадоў з'явіліся першыя лекі з жаночымі гармонамі, іх выдзялялі з мачы кабылаў. У ЗША дасюль практыкуюць такую «ўрынатэрапію», хоць ва ўсім свеце карыстаюцца сінтэтычнымі гармонамі.

На пачатку 1990-х гадоў вялікая жаночая фармацэўтычная утопія дабралася і да нас, дзе прэпараты з жаночымі гармонамі звычайна выкарыстоўвалі толькі для папярэджання цяжарнасці. Я зведаў сапраўднае здзіўленне, калі ў 1993 годзе вядомая прафесар-гінеколаг запэўнівала мяне ў цудах ГЗТ і казала, што высокая якасць жыцця жанчын на Захадзе звязаная менавіта з тым, што ўсе яны сядзяць на гармонах. У якасці ілюстрацыі прапаноўваліся жыццярадасныя пенсіянеркі-падарожніцы.

Напачатку гармонамі лячылі толькі цяжкі клімакс. Потым яны сталі яшчэ і прафілактычным сродкам, які зніжаў верагоднасць пераломаў у старых, запавольваў развіццё хваробаў сэрца і сасудаў (апошняе аказалася трагічнай памылкай – як высветлілася, яны, наадварот, набліжалі іх развіццё). Але паступова гармоны сталі проста сродкам для добрага жыцця: іх прызначалі менавіта для падаўжэння маладосці (каб захаваць скуру і валасы болей здаровымі, палепшыць настрой і нават захаваць нешта накшталт «крытычных дзён»). Па сутнасці, гармоны сталі першымі «таблеткамі шчасця».

Гэты ўрок бабуль – навука маладым: падобным чынам цяпер прасоўваюць у масы супрацьзачаточныя гармоны. Іх рэкамендуюць не толькі для кантрацэпцыі, але і для паляпшэння знешняга выгляду: каб прайшлі вугры, скура стала чысцей, а валасы шаўкавістымі. Нядаўна да мяне звярнулася за кансультацыяй дзяўчына, якой кантрацэптыўныя гармоны прызначылі менавіта з гэтай мэтай. Праз пару месяцаў барацьбы з вуграмі ў яе развіўся тромбафлебіт – тыповае і сур'ёзнае ўскладненне такіх лекаў. Цяпер на нагах цёмныя вены непрыгожа праступаюць праз чыстую скуру. Фармацэўтычнае шчасце недасягальнае.

**А.МЕЛЬНІКАЎ,**
**кандыдат медыцыны**

# Грамадзяне Месяцовай Рэспублікі

**Чым толькі не гандлююць на Зямлі! Нават тым, чаго на гэтай самай Зямлі і няма! Гаворка вядзецца пра Месяц, які актыўна распрадаецца вось ужо амаль чвэрць стагоддзя. Як вы думаеце, хто гэта такі арыгінальны прадпрымальнік? Амерыканец. Відаць, такое мажліва толькі ў ЗША.**



Месяц распрадае каліфарніец Дэніс Хоуп. Гэтая ідэя прыйшла яму ў галаву ў 1980 годзе, калі аднойчы ён узіраўся ў вячэровае неба. Гледзячы на Месяц, ён падумаў, што ён нічый. А калі так, хай будзе маім. Ён адшукаў прагал у тагачасных міжнародных пагадненнях і аформіў Месяц у сваю ўласнасць. Як? У міжнародных дамовах па касмічнай сферы запісана, што ўладальнікам планет і зорак не можа быць ніводная дзяржава. Але пра прыватных асобаў там нічога не гаворыцца. І Дэніс Хоуп падаў у каліфарнійскі суд заяву з маёмаснымі прэтэнзіямі на Месяц. І суд задаволіў ягоную позву. Пасля гэтага Хоуп паведаміў пра тое, што цяпер Месяц ягоны, кіраўніцтву СССР, ЗША, ААН і спытаў, ці супраць хто? Натуральна, што ніхто не стаў усур'ёз звязвацца з такім дзівацтвам. А паводле міжнародных норм, калі цягам трох гадоў ніхто больш не заяўляе аб сваіх правах на нейкую маёмасць, яна застаецца ў таго, хто першым сказаў «гэта – маё!» Апрача Месяца Хоуп такім чынам прыватызаваў усе планеты Сонечнай сістэмы. За выключэннем Зямлі, натуральна. Хоуп стварыў адмысловую структуру па продажу ўчасткаў на Месяцы і назваў яе месяцовай амбасадай. Пакрысе ў яе па ўсім свеце з'явіліся філіялы. З вясны 2002 года месяцовае консульства запрацавала і ў Беларусі (www.lunokhod.com).

За дваццаць з лішкам гадоў участкі на Месяцы набылі... аж два мільёны чалавек. Сярод іх багата знакамітых асобаў ад палітыкі, спорту і шоу-бізнесу. Прыкладам, Рональд Рэйган, Ранальда, Арнольд Шварцэнегер. Ну чаму б не купіць Месяц, калі грошай няма куды падзець?

Да ўвагі тых, хто хоча стаць месячнікам, купіўшы кавалачак спадарожніка Зямлі! Цяпер у продажы маюцца стандартныя ўчасткі на бачным баку Месяца ў раёне даліны Рэйта. Гэта непадалек ад кратэраў Мецій, Фабрыцыус і Жансен. Кожны ўчастак роўны 72 гектары. Гэта плошча прыкладна сотні футбольных палёў. Карацей, можна стаць сапраўдным латыфундыстам. Месяцовы надзел уяўляе сабой прамавугольнік з бакамі на 2.682 і 268 метраў. Прыблізныя каардынаты зоны L-12/Q-Bravo, дзе размешчаныя суседнія ўчасткі: 40–44 градусы паўднёвай шырыні і 34–38 градусаў усходняй даўжыні. Пагадзіцеся, усё гэта гучыць дастаткова смешна і дзіўна. Зрэшты, многія могуць сказаць на маладзёжным слэнгу, што гэта вельмі нават прыкольна.

Ну а колькі каштуе такі прыкол? Трэба сказаць, нятанна – 99 даляраў за ўчастак. І што вы думаеце – бяруць! Хаця, натуральна, ніякага ажыятажу тут няма. Паводле інфармацыі месяцовага консульства ў нашай краіне, 72 гектары Месяца сабе набылі ўжо каля 70 беларусаў. Прычым гэта зусім не самнамбулы, як можна падумаць, ці нейкія дзівакі. Звычайныя прыстойныя людзі. Прычым неабавязкова багатыя. Часцей за ўсё ўчасткі на Месяцы купляюцца каму-небудзь у падарунак – сваякам ці каханым. Таму, хто лічыць гэта арыгінальным учынкам, не шкада амаль сотні «зялёных». Ёсць і тыя, хто набывае сабе трошкі Месяца з гаспадарчых меркаванняў. На будучыню. Гэта зараз там тэмпература ад ночы да дня вагаецца амаль ад мінус 170 да плюс 120. А раптам праз колькі гадоў, дзесяцігоддзяў, стагоддзяў людзі асвояць і акультураць Месяц, і вашыя дзеці ці ўнукі з многімі прыстойкамі «праўбудуць там адпачываць на лецішчы. А мо і жыць.

Так што падумайце: можа, вам усё-такі трэба Месяц? Калі вырашыце купіць на ўсялякі выпадак, то раім рабіць гэта напярэдадні святаў, напрыклад, перад Новым годам і Калядамі, калі месяцовыя ўчасткі прадаюцца са значнымі зніжкамі.

Апрача ўласна ўчастка на Месяцы, беларускае месяцовае консульства прапаноўвае таксама фотаздымак яго паверхні за 15 даляраў, купюру ў сто месяцовых даляраў – за 10 зямных. Нарэшце, за 39 даляраў можна атрымаць пашпарт грамадзяніна Месяца, якім вы аўтаматычна становіцеся, зрабіўшы незвычайную пакупку.

Дарэчы, у планах месяцовай амбасады – стварэнне цэлай Месяцовай Рэспублікі і яе ўваходжанне ў ААН. Ну-ну! А чым чорт не жартуе, можа праз N-ую колькасць гадоў мы ўбачым у газетах паведамленне пра ўстанаўленне дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Месяцовай Рэспублікай.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Як выглядае сапраўдны 3-зоркавы гатэль

У Чэхіі Нацыянальнае турыстычнае ўпраўленне дамаглося адзінай класіфікацыі гатэляў па ўсёй краіне. У адпаведнасці з новымі правіламі, 3-зоркавы гатэль павінен выглядаць так. Аднамесны нумар павінен мець плошчу не меней 9,5 кв. м, двухмесны – 13,5 кв. м, санвузел раздзельны. У пакоі неабходна праверыць наяўнасць тэлефона з магчымасцю званіць па любым нумары без пасярэдніцтва, абавязковая наяўнасць спадарожнікавага ТБ і радыё. Апрача таго, у гатэля павінна быць дамова аб абслугоўванні гасцей у рэстаране. Сам гатэль павінен мець бар, абменны пункт, абслугоўванне нумара поўныя суткі і магчымасць прыпаркаваць аўтамабіль у гаражы.

## Нечаканкі



**Прападобны Ролі Бэйн чытае пропаведзь сваім прыхаджанам, балансуючы на канаце. Ён уваходзіць у хрысціянскую клоўнскую арганізацыю Holy Fools, якая аб'ядноўвае тых, хто лічыць, што слова Божае можна несці вернікам са смехам.**



**Модны стыль для сучасных «амазонак»**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 1995
Падпісана да друку 4.11.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11